Георгій Юрчанка

# Негабляваная Пегасня

літаратурныя пароды



Георгій Юрчанка

# Негаблявана Пегасня

*Літаратурныя пародыі*

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1989

ББК 84Бел7
Ю 83

*Мастак К. Н. Куксо*

Три десятилетия пишет пародии Г. Юрченко. Вышло из печати пять его сборников. Под пером пародиста этот жанр завоевал постоянную прописку в белорусской литературе. Автор остро подмечает недостатки в творчестве того или иного писателя и с доброжелательным юмором, то искренним и добродушным, то колючим и язвительным, умело достигает комического эффекта. В этой книге отобрано все лучшее, из созданного пародистом.

Ю $\frac{4702120206-091}{М 302(03)-89}$ 127—89

ISBN 5-340-00275-6

# Георгій Юрчанка
# ЛІТАРАТУРНЫЯ ПАРОДЫІ



## АЎКЦЫЁНІЯ

*Алесь Адамовіч*

Аўкцыёнія (прынамсі, сама думала так) — жанчына сучасная. Гэта — бясспрэчна. Як-ніяк замуж — тройчы. Развод — чатыры разы.

Пятае замуства (на гэты раз рашэнне: пастаянна) удалым лічыць можна было б. І такая прыкрасць. «Неадкладна — на працу». Гэта Янка Камлюк, муж. І яшчэ:

— Няма чаго лынды біць. Здаровая жанчына, а будзе дзень пры дні выціраць сваім целам канапу.

— Я высокаінтэлектуальная і абсалютна сучасная,— хацела ўзбунтавацца. Але Янка ласкава — і цвёрда:

— Ніхто ж, даражэнькая, не пярэчыць, што ты інтэлектуальная. Тым больш павінна зразумець, што праца...

Пачыналася нешта ідэйнае. Каб вынесці такое — не. Таму — адразу — яснасць. Гэты не адступіцца. («Цікава, што калі б адступіў?»)

Муж соладка пахропваў. Пасля змены. Аўкцыёніі не спалася. Уставала. Клалася ў пасцель. Пасля — зноў. Уставала. Клалася. «Выйсце знайсці — абавязкова». Мільгала там. У галаве. А пэўнага — нічога. Варыянты нібы ланцугом. Перабраны, здаецца, усе. Адкінула. За непрыгоднасцю. І тут жа — «працаваць» — мужава. Зноў і зноў. «Працаваць. Ха, працаваць. Ён будзе задаволены». Як гэта робіцца — ведае. Бярэш аловак. Сядзіш і думаеш. Спахапілася. «Мне — думаць!» О, як ненавідзела яго ў гэтую хвіліну.

— Утапіцца, ці што,— неяк збоку, нібы адчэпнае. І тады раптоўна: утапіцца! Была, а — няма. Утапілася. У ваду аюшкі — і гатова.

Хваляванне адразу — бурнае, нязвыкла асветленае. Яшчэ і ад таго: канчатковае рашэнне ўсё-такі яе.

— Пабачым, каго — працаваць,— гэта з помслівай лёгкасцю.

Радасць першаадкрыцця — звонкая, мройлівая — прайшла. «Абдумаць план ва ўсіх дэталях». Найперш — знаёмыя. Тапельцаў між іх не знайшлося. Гэта — узрадавала. «Значыць, раней так не вырашаў ніхто».

— Я — першая тапельніца.— Адчула: адабральныя ўсмешкі сяброў.

А думкі — ужо ў другі бок.

— Цікава, якое б выйсце — з майго становішча — знайшоў Аўтушэнка? Хоць што гэта... Ён — мужчына. Яго асацыяцыі — іншыя.

— Лікёр піць прыемна. А кілішак каньяку? Аж разліваецца па жылах. Такая лёгкасць. Не зразумееш, дзе больш. У галаве? У каленях?..

— А прыемна, калі мужчына пагладжвае твае грудзі. Тым больш — малазнаёмы. Дзіўна і нязвыкла. Нібы ўпершыню.

Але ж — план. Спахапілася. Усёй постаццю — за дзверы. Як стаяла, у адной кашулі. Басаножкі скінула на хаду. Левы спачатку. Затым правы. Не наадварот. «Божухна! Куды ж я бягу? Няўжо тапіцца?»

— О, так, тапіцца! — вочы дзікаватыя, прыглушана сінія. На душы лёгкасць, нібы пяток гадоў назад, калі першы раз — замуж.

Ля вады — спынілася. Кашуля мякка слізганулася па спешчаных каленях. Нячутна лягла вокал ног — вянком («Больш непатрэбна»). Агледзела сябе. Усю. Плоскае гнуткае цела неяк зменліва сцякала, амаль струменіла ва ўпэўненыя ногі.

Увайшла ў ваду. Па калені. Кінула сябе на халаднаваты блакіт шкла. Адным махам. Без асаблівага высільвання ўзмахі рук пхнулі цела наперад. Іншае з'явілася амаль на сярэдзіне. Нейкая стомленасць. «Раней так далёка не заплывала. Пад: глыбокае дно, ладнаватая тоўшча вады. Дык чаго ж гэта я — га? Так, таго глядзі — і не выплывеш». Асацыяцыя тапельніцы — знікла.

— Утапіцца — паспею,— як выратаванне. А пакуль — замуж. Толькі замуж («І — каб не працаваць»).

Рукі і ногі самі запрацавалі ў напрамку да берага.

# СПАМІНЫ

## *Вячаслаў Адамчык*

Спамінаецца...

Пад'еўшы хармушкі, зацíркі са здорам і забеленай сачыўкі, кладу маскаль у кішэнь паліто і кіруюся на прыпынак. Іду міма бярозавага пня. Рыхтык такі стаяў на дзедавым котлішчы яшчэ за польскім часам. Сок на ім ружавеў і броснеў. Па сцукраванай плешыне поўзалі мухі.

Цярэз дарогу ўлукаткі перабягае верабей з пёрынай у дзюбцы. Ладны выліняў, мусі, умее гэльцаць...

Выстойваю балазе нядоўга. Падыходзіць знябожаны аўтобус, недалэнга бразгаючы жалезным нутром і знясілена сапучы. Сцішна адчыняюцца заточаныя лапікам дзверы. Унутры стаіць нягучная гамана.

— Нех бэндзе похвалёны! — кідаю я ўваходзячы. Возьдзека на мяне ноль увагі.

Аўтобус тымчасове нездароўча фыркае, ажні войкае; з натугай і перабоямі пачынае гусці матор, набіраючы цёнгу. Відавоч не наравіць вышчарблены брук.

Што стаяцьме. Мала-веле павагаўшыся, саджуся на жаднае слабоднае мейсца, з палосамі пылу.

— Ланно, ніц собе, пан не ве,— разважаю пра сябе. Сяджу маўчучы.

Спамінаю...

Вобак сядзіць слічная і досць пажондная кабета, дзябёлая і бялявая, з ядроным румянкам. Мне ў той жа мэнт цюкнула ў галаў усё брыдкае і маладое. Я адразу панаравіў кабету, ажні засціпалася сэрца: з такой можна дзеразавацца.

Ужо адвяртаюся. Але нейкі магнэз неадольна заманьвае мой зірк да суседкі.

— Цо таке, вашэці, ву-у-уньдзека тамака? — пытаюся ў кабеты, паказваючы на пеўня, які, асядлаўшы хахлатку, сумленна выконвае свой мужчынскі абавязак.

— Не вем,— коратка кідае кабета, папраўляе на каленях ценжарны вандзэлак і адварочваецца.

— Як пшэйсць до Дзенцёлаў? — зноў спрабую ўступіць у гоман.

Кабета глянула сцішана і жаўтавата. Мусі, не паразумела маю слічную жаднасць да сваёй асобы...

Спрабую пакласці на яе калена руку...

Далей, пшэпрашам, чэгось ніц не паментаецца.

## РОЛЯ ПЕЙЗАЖУ Ў КАНЦЭПЦЫІ СУСВЕТУ

### *Серафім Андраюк*

Даўно стала аксіёмай, што пейзаж патрабуе думак, бо чалавек і прырода (сёння гэта зразумела кожнаму) — адзін свет. Пейзаж нясе агульныя заканамернасці літаратурнага працэсу і выяўляе вышэйшы, паэтычны свет жыцця, спалучаючы ўсёй сваёй існасцю самы бліжэйшы план з самай далёкай перспектывай. Таму ёсць усе падставы сцвярджаць, што духоўна-эмацыянальнае пейзажнае поле — у сэнсе мастацкай разлегласці — з'яўляецца натуральным выяўленнем гарманічнай злітнасці і цэласнасці. Чалавек у прыродзе (пры

любой іманентнасці) знаходзіць поўнае і дасканалае ракурснае ўвасабленне (дзе па праву, дзе не) ва ўсіх кампанентах структураўтваральных адпаведнасцей.

Гэта адно.

А другое (як бывае нярэдка) заключаецца ў тым, што арганічнае зліццё канцэпцыі чалавека і канцэпцыі пейзажу ўзнікае пры сінтэтычнасці светаўспрымання і (само сабой зразумела) дазваляе нам суадносіць сваю прыроду з прыродай сусвету. Са строга мастацкіх меркаванняў (дададзім ад сябе) эстэтычная вартасць гэтай праблемы вынікае з няспыннага развіцця (ці, хутчэй, абнаўлення) сузалежнасці індывідуальнага настрою і свядомай зарыентаванасці.

Яно так.

Тым не менш, прырода выпраменьвае свой дынамізм лёгка, нязмушана, прыгожа, ушчыльнена, узбуйнена (звярніце ўвагу на колькасць вызначэнняў!). Каб не апынуцца ў палоне голых фактаў, скажам, што арганічная сувязь чалавека з навакольным асяроддзем знайшла непасрэднае адбіццё ў творчасці Пятра, Змітрака, Саўкі і Даміцэлі, дзе ў непарушным адзінстве жывуць вялікае і малое, успомненае і забытае.

І яшчэ.

Субстанцыянальная каштоўнасць пейзажу праглядваецца скрозь размежаванасць у прасторы і злучанасць у часе. Калі думку развіць далей, на наш погляд, можна сцвярджаць, што пякучы роздум дамінуе ў вызначэнні сутнасці вышэйшай узаемаабумоўленасці. Такое праяўленне момантаў звышпраграмнасці выдатна адлюстравалі Сымон, Лявон, Сідар і Міканор. Думаецца, яны таксама дакладна вырашылі новы змест рэальнай пейзажадэталі.

Ды што за гэтым?

Мадэль мастацкага свету (кажучы ўмоўна) узаемадзейнічае ў часавай праекцыі з новай «генералізацыяй» пейзажу, несучы ў сабе элементы таямнічасці. Таму ўнутраныя прычыны асаблівай увагі да гэтай праблемы прасвятляюцца ў кантэксце імпульсна-хвалістага руху як па гарызанталі, так і па вертыкалі пры скіраванасці на пазамастацкія звышзадачы.

А больш дакладна?

Пейзажаўспрыманне ў сістэме агульназначных каштоўнасцей садзейнічае глыбіннаму спасціжэнню цэласнасці і завершанасці асобных малюнкаў. А яшчэ больш дакладна — прасвятляе самарух прыроды, у якім праглядваецца моцны дыктат як статыкі, так і дынамікі.

І дзіўная рэч.

Станоўча-вызначальная якасць адлюстравання тычыцца таго палажэння, што функцыянальнае становіцца сутнасным (ды яшчэ ого якім дзейным!) пры гістарычна-часавым ахопе натуральнай плыні жыцця ў лірычна-публіцыстычнай аголенасці. Адсюль выцякае, што ў абагульнена-філасофскім змесце абедзвюма нагамі на грунт пераемнай вычлененасці (вось гэта запомнім!) адразу сягнулі Янук, Пранук і Паланея. Карацей кажучы, няма асаблівай патрэбы гаварыць на гэты конт больш шырока.

І ўсё.

## З ЧУЖЫХ САНЕЙ

*Іван Аношкін*

Час ляціць вастракрылай птушкай. Ці даўно Магдысь Порхаўка быў дужэц чын чынаром. А сёння ўжо мінула ці не трыццаць год, як ён пайшоў у суседнюю вёску прымаком да геркулесістай Парасці Падкаленнай. Праўда, яму казалі: прымак пятнаццаць гадоў цёшчынага ката на «вы» заве. Сусед Хомка Слупок — той прама папярэджваў: чужы кажух нікога не грэе, а за лычка рамушком плаціцца. Але Магдысь рэзка ўсіх абсек:

— Не прападом, хужы няма кары, як жыць без пары.

Мільгалі мінуткі-секундачкі. А ў Магдыся не знаходзілася часу адведаць родную Калатоўку. Апране зацухомлены ватовік, выхукне кольцы дыму і круціцца, бы ваверка ў коле, чыніць усходкі-рыпулі, таўчэцца ля скасабочанага плота ці плюхаецца па раскіселеным двары. А Параска бурчаць за лучынку знойдзе прычынку: не той цвік забіў, не гэтак жэрдку прыладкаваў. Ды папікае штохвілінна:

— Ад патэльні цябе не верне.— Хоць на той патэльні кульгавая муха ў мінулым годзе пасвілася.

Доўга цярпеў Магдысь, моўчкі зносіў папрокі, разумеючы, што зазяваўся — вады нахлябаўся. І толькі сёння яму падумалася: жонка як жонка, а мілей родная старонка.

Уцюкнуў сякеру ў калоду, апрануў шаматкую куртку і праз скапычаны выган пакіраваў у Калатоўку.

Каля першай хаты яго спыніла бабуля, як печаная дуля, і бадай загаласіла:

— Яблычка маё недаспелае, каго я бачу! Хадзі, Магдысёк, сядзьма на калодзе, пагаворым у прыгодзе. У нагах праўды няма. Раскажы пра сваё жыццё-быццё. Хоць што я пытаюся. Ведама, прымачы хлеб — сабачы.

Пазнаўшы старую, Магдысь скіс, як аўсяны кісель.

Гэта была Агата Пятачок, калісьці какетлівая дзяўчына, якой ён праз вусікі-кутасікі шаптаў пра вечнасць кахання. А яна манежылася, манерна падціскала губы і строіла з сябе незачэпу. Ён тады падумаў: бусенькі, бусенькі, абое галюсенькі — і пайшоў да Параскі, бо ў Агаты прыданку не намячалася.

— Ну раскажы,— дапытвалася Агата,— ці чужы кусок дзярэ раток?

Быў час, калі дзеўкі любілі і нас, падумаў Магдысь. А ўслых сказаў:

— Век зжыць — не мех сшыць.

— Не, даражэнькі,— падкалола Агата,— праўду ў яму не закапаеш. Няма шчасця з рання — не будзе да змяркання.

— Ці я лыкам шыты? — казырыўся Магдысь.

— Шчасця з-пад палы не купляюць,— як выракла Агата.

— Каб знаў, дзе ўпадзеш, саломкі б падаслаў,— пачаў здавацца Магдысь.

— Як пасцелешся, так і выспішся,— нібы чытала яго думкі Агата.

— То што ж цяпер рабіць? — у адчаі спытаў Магдысь, як абсевак з чужога поля.

— Ладна,— нібы распагодзілася Агата.— Памылка ў фальш не ставіцца. Дзеці мае разляцеліся. Адклад не ідзе ў лад. Заставайся.

— Гара з гарою не сходзіцца, а чалавек з чалавекам заўсягды! — бадай прапеў Магдысь, радасна падымаючыся з калоды насустрач новаму жыццю.

## ПРАГА КАРЫ

*Мікола Арочка*

Прабачце, вольхі,
Што вас не цаніў высока.
. . . . . . . . . . .
Лайце мяне, лупцуйце!
Перце,
Як пранікам пераць бялізну.
. . . . . . . . . . . . .
Я б цяпер адхвастаў сябе тройчы.

На хісткіх жыццёвых прыпынках
Душу аплялі, як слата,
Ліпкая ганьба ўчынкаў,
Сардэчная глухата.

Божа мой, будзь за сведку,
Не дай у хлусні саграшыць:
Колькі разоў у суседкі
Антонаўкі я латашыў.

Увагі сем год ані кроплі
На вольху не звaрачаў.
За гэта ж мала аглобляй
Перацягнуць па плячах!

Бы шэршні, ўспаміны джаляць,
Аж локці парой грызу.
Дык перце ж мяне без жалю,
Як сідараву казу.

Аб кары бязлітаснай мроячы,
Больш не магу трываць.
Я б сам адхвастаў сябе тройчы —
Шкада: папружку парваў.

## У ЗАСАДЗЕ

*Анатоль Астрэйка*

Ой, сябры, бывалі справы,
Гэта праўда, не падман.
Лесам-борам ходзіць слава
Беларускіх партызан.

Вам пацвердзіць можа кожны,
Ці чужы ён, ці сваяк,—
Быў і я там не апошнім.
Вось было аднойчы як.

Я ў засаду сеў — і бачу:
Гітлер едзе. Ну, не сам,
А з яго радні свінячай
Нейкі кум ці, можа, нам.

— Стой! — кажу. А ён за рулю.
Эх, была ці не была!

Як адважу яму дулю,
Ажно юшка пацякла.

Кінуў стрэльбу ён і драла,
Прэ віхурай праз хмызняк.
Ці дагоніш? Спрыту ж мала
У цябе, стары Дубняк!

Эге-ге, брат, кепскі справы,
Уцячэ ён,— вось дык раз!
Ажно бачу — праз канаву
Гопнуў немец — і заграз.

Я падбег, а ён — пакора,
Не фашыст, а перапуд.
Вылязае — рукі ўгору,
Сам сабе крычыць:
— Капут!

— Упяр-р-род! —
Ён ледзь дыбае.
Я ж паважна крочу ўслед.
І з тых пор, браткі, не знаю,
Я — Астрэйка ці Міхед.

## ЛІРЫЧНАЕ ПАДАРОЖНАЕ

*Мікола Аўрамчык*

Старыя двары Мінусінска,
Цюмень, Краснаярск ды Табольск.
. . . . . . . . . . .
Праехалі праз Багадухаў.
. . . . . . . . . . .
Апаражніў вагоны Харкаў.

Бабруйшчына!..
Орсічы,
Глуша,
Іванаўка,
Плёсы,
Туркі,
Пятровічы,
Брожа,
Цялуша —
Вакол сваякі-землякі.

Ды з часам знаёмыя хаты
Мне цеснымі сталі, хоць плач.
Прамчаў я ўгалоп па Карпатах,
Праз Харкаў мільгнуў на Вайгач.

Прывык да вагоннага зыку,
Да тлуму, да брынкання струн.
Выстукваюць колы на стыках
Штодзень то Тайшэт, то Тулун.

Сябры, праявіце турботу,
Каб не утрымацца за Мінск,
Іначай я ў гэту суботу
Збягу назаўжды ў Мінусінск.

## МОЦНЫ ВУЗЕЛ

*Алесь Бажко*

Янук тры дні касіў авёс,
Пранук ляшча дамоў прынёс,
Адась заходзіў да ўдавы,
Клімась ад пернікаў адвык.
Рахцей наведваўся ў касцёл,
Басцей любіў прымаць ацёл.
Здзіслаў будуе сыну клець,
Часлаў магерку хоча мець,
Гусцін абсек суччо з вярбы,
Альбін са смакам еў грыбы,
Карпусь ячмень убраў без страт,
Самусь гарэлцы вельмі рад,
Ксавер прасіў купіць бязмен,
Сільвер на печы спіць без змен,
Пятраш паўдня ачэсваў клец,
Дзямаш ваўку зрабіў амбец,
Тадзей калісьці быў салдат,
Гардзей захоўваў цэлібат,
Мітрох падаўся на абед,—
Вось гэта, братачкі,— сюжэт!

# ЖАДАННІ

*Раіса Баравікова*

...прыпадзі да распаленых вуснаў
і ў высокія травы шпурні.

Закрычы па-дзікунску штосілы,
абрываючы сукню з пляча.

Кінь дарэмныя турботы,
пра каханне памаўчы,
прыхавай свае пяшчоты,
слоў гарачых не шапчы.

Я абдымкаў не стрываю,
пацалункаў не сцярплю;
адлупцуеш — пакахаю,
абязвечыш — палюблю.

Бразні змаху ў калатушу,
каб аж пыркі да нябёс,
да крыві падрапай вушы,
укусі мацней за нос;

падсмалі лучынкай вейкі,
замуруй вяхоткай рот,
пасадзі на мурвейнік,
палажы пасля ў асот;

адшукай гужышча дзесьці,—
абыдзі хоць паўсяла,—
спаласуй мяне, каб сесці
дзён пятнаццаць не магла.

А да гэтага ў дагрузку
мой рыштунак-запавет:
хай мяне на сцежцы вузкай
стрэне гожы людаед...

# ПРАЦОЎНЫ ДЗЕНЬ

*Рыгор Барадулін*

Думка адна —
Не спазніцца б анно ж...

Вуліца на пад'ёме
у сорак сем галасоў рыкае,
Аж раз'юшаны бугай
у лютасці знямеў за ракою.
Ад досвітку
накіроўча
з паперай словы рукаю
І пагоднею чэрвенем:
справы ідуць рукою.

Скомшаных думак узвалле
натхненнем раскаламшыла.
Самохаць вочы ўрасіліся:
кожны радок — экзот.
Зусім незаўважна
ў сонца збычэла шыя,
Яблыкам-самагубцам
цэліцца за гарызонт.

Не звяртаю ўвагі
на друзачкі-шкляначкі,
Па камяніцы
спехам спяшаюся басанож.
Пяць гадоў кленчыўся
да нянечкі наначкі,—
Абяцала сёння пусціць.
Не спазніцца б анно ж!..

## ПАЎНАКРОЎНАСЦЬ НАВАТАРСТВА

### *Марына Барсток*

Безумоўна, дадзены непаўторны і унікальны верш Марыны Барсток выклікаваны патрабаваннямі часу: нічога не ўпускаць з-пад паэтычнай увагі. Не гонячыся за навізной формы, аўтар пашырае ідэйны і тэматычны дыяпазон, уладна прад'яўляе навізну праблематыкі. З першага ж радка яна адчуваецца ў ціхіх, задушэўных словах:

Люблю я батанічны сад.

Гэтае інтымнае прызнанне без публіцыстыкі, рыторыкі і штучнага пафасу бадай упершыню прагучала ў нашай літаратуры шчыра і кранальна. Узаемаадносіны рэалістычнага і рамантычнага пачаткаў з'яднаны адной думкай і хвалююць нас сілай лірычнага пачуцця. Усеабдымна і шматколерна малюецца знешні воблік нашага дарагога кутка з яго эмацыянальным і маральным здароўем:

Ён чараўнічы пры любой
пагодзе.

Такая эстэтычная ацэнка з'явы, выказаная з высокім паэтычным майстэрствам і ўсхваляванасцю, прымае абагульняючыя памеры.

Яркія сродкі вобразнага адлюстравання пазначаны як адзінствам часу, так і адзінствам формы і зместу. Таму найбольш важным паваротным момантам, істотнай адзнакай твора нам уяўляецца новы спосаб бачання свету:

«Бывайце!» — ім сказала лета
І паляцела даганяць вясну.

Глыбока будзе памыляцца той, хто ўгледзіць у гэтых радках некаторую часавую супярэчнасць,

паколькі ступені мастацкай якасці дапускаюць «цякучасць» светаўспрымання аўтара. І нельга не верыць паэту, калі ён горача ўскліквае:

Не прыйдзе гід — сама іх павяду.

Тут — цвёрдая эстэтычная пазіцыя аўтара, яго самаадданасць і, калі хочаце, самаахвярнасць, бо абысці з групай экскурсантаў усе куткі батсаду — задача і складаная, і адказная.

У канцы знойдзена глыбокае філасофскае асэнсаванне раслліннага свету. Пры гэтым агульнае ўдала спалучаецца з індывідуальным. Усяго хапае шматтысячным прадстаўнікам сусветнай флоры, «а нам кагосьці не стае заўжды».

Такім чынам, твор чаруе нас сваёй свежасцю і размахам. У ім на вельмі моцнай народнай аснове моваю паэзіі раскрыта дыялектыка жыцця. А таму ён арганічна ўключаецца не толькі ў скарбніцу нашае роднае літаратуры, але і ў сусветны літаратурны працэс.

## СЛЁЗНЫЯ ПЕНТАМЕТРЫ

*Алесь Бачыла*

Слязінка разлукі,
Слязінка трывогі,
Слязінка надзеі твае.

Чакаю спаткання, чакаю прызнання,
Ці помніш? — ты прагла сустрэчы сама.
Я спраў не адкладваў ніколі на ранне,
Глыбіні пачуццяў абследваў дазвання...
Цябе ж покуль што ўсё няма і няма.

Адгрукала поўнач, усход ружавее,
Ва ўладу ўступае ядроная рань.
Віхурыць у сэрцы разгубы завея;
Няўзнак з кожнай хвіляй знікаюць надзеі,
І похмаркі мар растаюць, нібы здань.

Чаму ж ты зманіла, чаму ж ты схлусіла?
То кідае ў холад, то кідае ў жар.
І крыўды балеснай нязнаная сіла
Святыя памкненні навекі згнюсіла,
І слёзы ўсыпаюць пусты тратуар.

## СВАЯЎСТВО

*Барыс Беліжэнка*

Хто стаіць пад акном
Па вясне ў задуменні,
Ці сасна Аляксандра,
Ці клён Апанас?

Сваякоў у мяне
Ў кожным лесе багата.
Ў пералесках радні —
Хоць сябрам пазычай.
Мне бабуляй лічылася
Елка Агата,
А траюрадным дзядзькам —
Сам клён Мікалай.

Роднай цёткай была мне
Сасна Палагея.
Быў дваюрадным братам

Каштан Харытон.
Я за жонку узяў сабе
Ліпу Луцэю,
А вяселле пілікаў нам
Ясень Антон.

Як дачушка народзіцца
Ліпка Куліна
Ці сынок
Шалапуцісты дубчык Барыс,
Ка мне прыйдуць на хрэсьбіны
Сваццця Рабіна,
Дзевер Бэз,
Цешча Груша
І цесць Барбарыс.

## У ЛІРЫЧНАЙ КРЫТЫЧНАСЦІ

*Варлен Бечык*

Калі вясновае сонейка праўдзіва і чуйна высвечвае жыццёвыя калізіі, а ў вечаровай цішыні ўсе салаўі на свеце, асепленыя ўласнай музыкай, знаходзяць суладную свойскасць з нашымі пачуццямі, ад чаго хочацца жыць закахана, весела, бадзёра і ласкава;

калі слынная, як сненне прыроды, духапад'ёмнасць прасякаецца годнасцю і далікатнасцю і палоніць узаемапераходным адзінствам;

калі, едучы праз разлеглыя далячыні існага свету наперад, асветленая ўсмешынкай душа смуткоўна вяртаецца назад;

калі вышынны лёт думкі сінтаксічна нязмушана змабілізоўваецца на павевах гісторыі ў палярызаванай нямарнасці памкненняў і небудзённавобразнае зліццё прасторы і часу пераможна ўсталёўваецца ў адзіным сэрцабіцці;

калі спасціжэнне шляхоў і кірункаў заміласванай суладнасці з-пад някідкасці лірычнай роспаведзі падсумоўваецца трымценнем духу ў святочнай будзённасці;

калі гушчыня сугучных слоў гарманізуецца з памкнёным сэнсам у спасціжэнні пачуццёвых зарадаў пераконлівай сувымернасці;

калі заглыблена і абагульнена расхінаюцца покрывы кніжнасці і ты сягаеш да пракаветных вяршынь чатырохмернай сусветнай неабсяжнасці, дзе сама вечнасць вядзе з табой узнёслую гамонку;

калі ўсеабдымнасць праблематыкі нязменна і нязгасна лучыцца праблематыкай усеабдымнасці;

калі сустрэча з неразмінутым вершам апладняе настроі вандроўнай радасцю і ладункі ўнутранага жыцця на суровых вятрах часу летуценна і цнатліва атульваюцца пяшчотнай мройнасцю;

калі ціхавейны свет паэзіі на кірунках да ўсталявання прасветленасці крыжуецца і сплятаецца ў суладдзі вялікага і малога ёмістасцю зместу,— тады маладыя леты, авеяныя светла-тужлівай самотай, сціпла і кранальна праменяць смелымі ў мастацкіх рашэннях выявамі і хочацца абедзвюма нагамі мужна ступіць праз стылёвую церассалосіцу ў густабежную плынь лірычна-крытычнага слова.

## НЕ ВЕРЦЕ МУЖЧЫНАМ

*Данута Бічэль-Загнетава*

Я табой завалодаю,
не адпушчу.
Будзеш думаць аб тым,
аб чым я захачу.

Жанчыны — адданасць, жанчыны —
сумленне,
чароўнасць, напеўнасць, ласкавасць,
натхненне.
Мужчыны — падман, ненадзейнасць
ды здрада,
усюды шукаюць спажывы-прынады;
ахвотна кідаюць пяшчотныя словы,
а сэрцы у іх — нібы айсберг лядовы.
З размовамі гэтак салодка падходзяць,
ад нашых каленак вачэй не адводзяць.
Без нас — толькі сушаць на сонейку зубы,
як быццам мы ім не патрэбны, не любы.
Мужчыны — палын, самалюбства, завея,
жанчыны — прывабнасць, лілея, надзея.
Вось я, скажам, хто?
Летуценніца проста.
А ты, мой хітрунчык, не зіркай так востра,
паводзь сябе строга, каб грэху ні-ні,
спакусныя думкі за Нёман гані.
Даўно твае хоцькі сяную, пралаза:
я з хаты, а ты да суседкі адразу?
Глядзі які шпыдкі! Цікуй за ім следам!
А чараў маіх ты яшчэ не адведаў?
Такога туману табе падпушчу,
спяваць будзеш тое, што я захачу.
А прыйдзе патрэба — свайго не мінеш! —
і вершы прымушу пісаць за мяне!

## У МЕЛОДЫЯХ ІЛЮЗІЙ

*Таіса Бондар*

Прыйдзе. Але хто? Але калі?
. . . . . . . . . . . . . . . . .
Брыду праз думкі ў ветраную сінь.

Я? Ці ты? Ці мы з табой? Ці, можа,
Дзень і ноч? Ці гэта вечар зноў?
Таямніцы звышсалодкіх сноў
Хто, калі разблытаць дапаможа?

Бэз ля тыну хіліцца аслабла.
Я камусь у гэтую пару
Месяц, нібы дулю, падару,
Сонца падарую, быццам яблык.

Штось у цішыні знячэўку блісне.
Гэта ты? Ці цень твой нікне прэч?
Адштурхну я бездань несустрэч,
Твар схаваю ў сонечны любізнік.

Скочу на памост светабудовы,
А цябе з сабой не клікну, не!
Ты пастой панікла ў баразне,
Дзе кіпяць майго натхнення словы!..

## НА ПЕРАВАЛЕ

*Пятрусь Броўка*

Кацярына!.. Кацярына!..

. . . . . . . . . . .

Паловы не люблю ва ўсім.

. . . . . . . . . . .

Я, можа быць, на перавале —
Ой, што мне бачыцца цяпер!..

Кацярына, Кацярына,
Ты з палескага сяла
Па жыццёвых каляінах
Гэткі шлях са мной прайшла!

А навокал, Кацярына,
Розных цудаў не злічыць.
Бачу: дзеўчына ля тына
Вісне ў хлопца на плячы.

Буду шчырым, Кацярына:
Я натэпаў шмат гадоў,
Ды мільгне ў натоўпе міні —
Следам кінуцца гатоў.

І павер мне, Кацярына,—
Толькі слухай і маўчы,—
Не люблю я палавіны
Анідзе і ані ў чым.

Вось таму ў старанні звычным
Не для славы ці пахвал
Ўзяў я энцыклапедычна-
Паэтычны перавал.

Я цябе не кіну-рыну,
Забяру ў густую сінь,
Каб ты знала, Кацярына,
Што мне бачыцца з вяршынь!..

## ПРАБЛЕМА СВОЕЧАСОВАЙ КОСКІ

*Дзмітрый Бугаёў*

Зрэшты, калі ўжо зайшла гаворка, дык мне, уласна кажучы, хацелася сказаць пра тое, пра што, адным словам, яшчэ не гаварылася.

Дык вось. Як справядліва заўважыў нехта з не вельмі вялікіх, часам бывае дарэчы не толькі пагаджацца, але дзе-кольвечы і не пагаджацца з думкамі іншых. У канчатковым выніку тэарэтычна, як той казаў, небяспекі ад такой пастаноўкі пытання я не бачу. Назіранне гэтае, зразумела, не пазбаўленае парадаксальнасці, слушнае не толькі само па сабе, але і ў адносінах, так сказаць, магчымых непаразуменняў. Таму, бясспрэчна, паэт меў рацыю, калі ў радку «О, як кармілі б грудзі такія» паставіў коску.

Шчыра кажучы, дасведчанасць у гэтых адносінах наўрад ці дасканала выявіў крытык Ладымер Вобаднік, калі, разглядаючы ідэйна-мастацкія вартасці паэмы «Вяль у Нарачы», зрабіў пэўны намёк, нібыта... ну, і гэтак далей, паколькі тут кожнаму ясна. Увогуле, як ужо адзначалася, я не збіраюся адмаўляць каштоўнасці і, само сабой разумеецца, патрэбнасці меркаванняў дужа паважанага крытыка. Зрэшты, разважаючы ўвогуле,

можна пагадзіцца, што ўспрыняцце твора — рэч занадта суб'ектыўная, і менавіта з гэтае прычыны з'яўляецца шэраг рознакаляровых думак. Калі гаварыць адно пра дадзены канкрэтны выпадак, дык ён не здаецца невырашальным. Прасцей кажучы, я не бяруся аспрэчваць тую ўсім вядомую ісціну, што коскі ў сказах ставяцца ў адпаведнасці з патрабаваннямі пэўных аргументаваных і, вядома, доказных параграфаў сінтаксісу. Да таго ж гэтыя зусім слушныя, на мой погляд, думкі ніколі не пярэчаць сказанаму вышэй.

Дарэчы, каб грунтоўнасць нашых довадаў стала больш відавочнай, мы, думаецца, маглі б зрабіць, як той казаў, яшчэ адно прынцыпова важнае ўдакладненне. Але справа, вядома, не ў гэтым. Важна галоўнае. Тое, што коска ў нашай мове існуе і закрэсліць яе адным махам немагчыма. І калі крытык Вобаднік прытрымліваецца той жа думкі, дык ягоныя словы гучаць дужа слушна і вельмі пераканаўча. А таму чэсць яму і, безумоўна, хвала.

Вяртаючыся да пачатку нашай гаворкі, скажам, прынамсі, што знакамі прыпынку кіруюць не прыватны разлік або нейкі хаўрус, а яны вымагаюцца характарам усёй сінтаксічнай сістэмы, і, мусіць-такі, наўрад ці будзе хто, скажам, той жа Вобаднік, сумнявацца ў гэтым. Тым больш што пісьменнік піша, не заўсёды аглядваючыся на крытыкаў. Прасцей кажучы, у дадзеным канкрэтным выпадку яскрава раскрыліся новыя бліскучыя грані індывідуальнай мастацкай манеры паэта.

Дык аб чым жа гэта я?

Ага.

Адным словам, коска ў нагаданым вышэй радку, канечне ж, патрэбна, і, самае істотнае, аўтар

правільна зрабіў, што паставіў яе. На гэты конт ці варта ўздымаць шырокую гаворку.

Таму, іншымі словамі, размову можна скончыць.

Што і патрабавалася даказаць.

## ВЯСНА

*Канстанцыя Буйло*

Люблю вясну, што ў кветкі, зелень
Аздобіць радасна зямлю.

Вясной дзянёчкі падаўжэлі
І цягне цёплым вецярком;
Жаўрук на ранку сыпле трэлі,
А салавейка — вечарком.

Вясной, парою блаславёнай,
У ціхім іслацкім кутку
Здавён узнёсла і натхнёна
Гучыць зязюльчына ку-ку.

Вясной старанна і імкліва
Папары рэжуць рандалі
І галкі ў пошуках спажывы
Нястомна ходзяць па раллі.

Шуміць вясна над родным краем,
У зелень хутае зямлю.
Люблю вясну.
За што — не знаю,
Але, дальбожачкі, люблю.

# ГВАЛТОЎНАЯ СУСТРЭЧА

*Генадзь Бураўкін*

Ах, незнаёмка, незнаёмка,
Неспадзяваная бяда!
І прыпыніць цябе няёмка,
І адпусціць цябе шкада.

Я дваццаць год каханне множыў,
Ад вернай жонкі ні на крок.
Мяне ніколькі не трывожыў
Масляны зірк чужых жанок.

Натхнёна раз сцяжынай стромкай
Я з ношкай вершаў шыбаваў,
Ды нечакана незнаёмку
Ля гнуткай вербіны спаткаў.

Ішла ў такіх чароўных міні,
Такою ззяла белынёй,
Што я, нібы перад святыняй,
Міжвольна ўкленчыў перад ёй.

З тае пары штоночы сніцца,
Я часта сам сабе не рад.
У калчане міні-спадніцы
Навек заблытаўся пагляд.

Ах вы, спаднічкі, міні-блузкі,
Каго памер ваш не кране!
Нашто ж, нашто на сцежцы вузкай
Гвалтоўна стрэлі вы мяне?..

# МОЙ ШЛЯХ

*Антон Бялевіч*

Многа зім і многа лет
Пражываю ў Мінску я,
Дарагі мой сельсавет,
Родныя ды блізкія.

Мне была дарога ў свет
І прамой, і гладкаю:
Штамп паставіў сельсавет
Ды падбіў пячаткаю —

І пайшоў я, і пайшоў
З торбай адмысловаю:
Нёс я спевы салаўёў
У сталіцу новую.

Многа зім і многа лет
Пражываю ў Мінску я,
Дарагі мой сельсавет,
Родныя ды блізкія!

Сніцца мне, як ля ракі
Вербы гуртам моляцца.
Мчацца ўбрыкі стрыгункі —
Сквіл на ўсю аколіцу.

Летам радуе прыплод
Парасятак тлусценькіх.
А ў завею кожны год
Целяцца пярвусцінкі.

Родны кут! Бягуць гады.
Я служу табе заўжды

Праўдаю і вераю:
Важу вершы на пуды,
Вёрстамі іх мераю!..

## ВЫКРЫЦЦЁ

*Мікола Ваданосаў*

Сідар Сінягубскі быў нянашынскі. Ён прыбіўся ў Шылаўку неадкуль здалёк. Кватараваў напачатку на сухамяце ў старой адзінокай Домны. А калі тая памерла, застаўся паўнапраўным гаспадаром яе хаціны. Блукала дзейка, што Сідар быў жанаты, але жонку забіў калядны пярун. Адзінокі мужчына не змог перанесці гора, падаўся з родных краёў і ўсё такое іншае.

У Сідара быў бледны, ніколечкі не загарэлы твар, аброслая доўгімі бялявымі валасамі галава. Вочы яго заўсёды глядзелі наводлег, кудысьці за вёску, за лес, міма людзей. Гаварыў ён глуха, нібы не сваім голасам.

Да Сідара пакрысе прывыклі. Жыў ён ціха, бадай непрыкметна. У працы быў не вельмі здатны, але і не апошні, не перабіваўся на дармовых вяршках і гэтак далей. Халастога прымака не вельмі каб паважалі, але спачувалі няскладнаму лёсу. Дзівіліся, што ён не праг жаночае ласкі, жыў недаткнёна, хаця даўно мог абкідацца сям'ёй.

Адно шасцігадовы Юзік не мог цярпець дзядзькі Сідара. Чула яго справядлівае маленькае сэрца злыдня.

Калі малому было тры гадкі, ён выказваўся просталінейна і непасрэдна:

— Дзядзя бяка.

Пазней Юзік зразумеў, што такая агульная, а таму прыблізная характарыстыка не вельмі дзейсная. Ці меў яго аргумент пад сабой аснову, мы хутка ўбачым.

Хлапчук пачаў шукаць надзейны спосаб выкрыць недаверка і да таго падобнае.

Нарэшце Юзік прыдумаў.

Аднойчы, калі шарай гадзінай уманежаныя мужчыны сядзелі на бярвенні, таройкаючыся і дымячы самакруткамі, хлопчык крадком падышоў да Сідара ззаду і грымнуў:

— Паліцэйскі Сінягуб, устаць!

Адбылося неспадзяванае.

Сідара нібы ўкалолі шылам. Ён падскочыў і выцягнуўся, нібы ў страі. І адразу ж спалатнеў, неяк дзіка затросся і паволі падняў угору дрыжачыя рукі. Голас яго зусім аглух.

— Так, я паліцай, былы... Вяжыце мяне...

Юзік адчуваў сябе сапраўдным героем.

## КУЗЬМА І ШТАНЫ

*Байка*

*Эдуард Валасевіч*

Кузьма Кузьміч, памначканторы,
На ранку спора ўстаў бадзёры,
Як след памыўся,
Пагаліўся,

Паснедаў згодна з распарадкам
І ў пуць пусціўся
Сцежкай гладкай.
Мінае спрытна паўдарогі,
Ды раптам зірк на ногі,—
Аслупянеў і не шманае:
То ж ён штаны забыў надзець.
А следам гурт дзяўчат ідзе,
Насустрач шмат жанок спяшае.
Кузьміч за куст сігнуў маланкай,
Прысеў, суцішыўся, як цень.
А сцежкай той бесперастанку
Народ снаваў цалюткі дзень.
Кузьма да зор, бы вінаваты,
Ў кусце праседзеў бузіны.

Мараль?
Калі выходзіш з хаты,
Не забывай надзець штаны.

## НОЧВЫ

*Адольф Варановіч*

Панімаеш, гэта я цяпер выпырхнуў з гнязда і дзецюкаваць пачаў з выбрыкамі, блытацца сапапасам. Як гавораць, вымахнуўся ў людзі. Пачаўшы жыць як набяжыць і даўшы круг па існасці, зведаў, што дзеўкі за пазухай носяць. Гэтак і драбніцы малечага жыцця адступілі. Сталасць абедзвюма рукамі за бараду ўзяла, як той казаў.

А ў маленстве іншае было. То з печкі звалю-

ся, то качку намалюю на свежапабеленай сценцы, а то панадзіўся — у гразь залезу ў новых лапціках. Наогул, раскол быў. Цярну рукавом пад носам і мераюся ўцісн ущца ў выняўку, глыбіню яе памераць.

Маці дастане з лужыны, незлабліва паўшчувае. Нялёгка ёй было са мной прававаца, але пераўпарціць жэўжыка ўмела.

Крыху пазней іншае пачалося: вуліцу вяроўкамі перамотваў, коміны шклом накрываў.

Цётка Альжбета раіла:

— Рэзні, каб порткі злезлі!

Але маці цярплівая была. Перасцярожліва зніме з мяне брудныя штонікі, кашулькі і ўносіць урачыста ночвы. Тыя ночвы помняцца больш усяго. Яны шырачэзныя, выскабленыя яшчэ прадзедам з кавалка таўшчэразнай асіны. Калі ў іх патрэбы не было, яны заўсёды стаялі ў бакоўцы, не зважаючы ў задуменна-эпічнай адметнасці на імклівы час і нібы жывучы сваім патаемным жыццём, не зразумелым мне, падшыванцу.

Маці, разумееш, налівала ў ночвы вады і загадвала садзіцца. Я спачатку бегаў круга, потым бараніўся як мог, не хацеў мыцца. Маці лавіла мяне, падымала і саджала ў ночвы. Я стараўся выкараскацца, тужыўся з апошніх сіл, ухапіўшыся за пелюсці. Крыкам крычаў, верашчаў напрэкур усяму, лупцаваў па вадзе нагамі і далонямі, так што пырскі ляцелі ва ўсе бакі. Рагатаў колькі змогі, калі маці чабарэхне з чыгунка цёплай вады.

А затым, унікні, уходаюся і сяджу ціхом або павольна валюхаюся з боку на бок. А маці націрае мылам, шаруе мачалкай, падымае мяне і абдае цёплай вадой. Пасля ўхутвае пухнатым уціральнікам і садзіць ля стала, адразае лусту хлеба,

кладзе на яе кавалак сала. Я з'ядла адкусваю ад лусты раз, другі, а потым мяне пачынае хіліць на сон. Луста з салам выпадае з рук. Маці нясе соннага распусніка ў пасцель...

Плывуць-гойдаюцца думкі. Шчымліва-больна ўспамінаць харашбу начовак. І прыемна робіцца ад успамінаў, бо не качан на плячах нашу, а самую што ні ёсць галаву сучасную. Сэрца тахкае ў грудзях, не раўнуючы як молат па кавадле. Жальба захлынае грудзі. Здаецца, і цяперака чую немы крык начовак аб прайшоўшых гадах, аб незваротным мінулым. Узнікае крыўда на сябе пякучая, невымоўная, што мала мыўся ў тых ночвах, сядзець не хацеў, паводзіў сябе легкадумна.

Часам, зразумей, і цяперака саджуся ў начоўкі. Не ў тыя, вядома, а ў бляшаныя. Але жонка не хоча мыць мяне, аднекваецца як можа, хоць мы рэдзькі між сабой не дзяром. І сяджу я без песняку, як у ваду апушчаны. Пахапкам паплюхаюся з нагоды якога-небудзь свята. А ў іншыя месяцы наогул не мыюся, бо не адчуваю праяў жаночай дабраты. Цяперашнія начоўкі, як празнаў я на ўласным вопыце, саўсім не тое, што ранейшыя...

## КАХАННЕ

*Алена Васілевіч*

Прыемна, я вам скажу, быць дарослай.

Ці даўно лётала з хлапчукамі-ўзрэзамі па выгане, спорвала грачыныя гнёзды. Гэтых сардэчных спраў і ў думках не было. Праўда, хадзілі чуткі,

што старэйшыя дзеўкі з хлопцамі чагось водзяцца, неяк абдымаюцца і — ажно гаварыць смешна — цалуюцца. Але ж гэта старэйшыя.

І неўспадзеў усё перавярнулася. Трэба ж было за адно лета гэтак выбрацца на дзяўчыну. Станік нашу як мае быць,— зусім нязгледзелася. На плечуках пакруглела, не дрыбы нейкія. Спераду тапырыцца сукенка як дурная. Маднезная, упрыкарацъ,— з крамной матэры. (А дзявочыя строі ідуць мне.) Хай тапырыцца, не дзяўчо зялёнае. (Вой, гэта я — не дзяўчо. Падумаць толькі.)

А гэты брыдэзны Максім. Нейкі дзіўны. Бэрсаецца ўслед. На чорта ён мне. То пануры маўчко, то разгаворыцца — не суняць. (А мне падабаецца слухаць яго.) Бывае, забяжыць напярэсцікі, не глядзіць на дажджовіцу. (Гэта, каб лішні раз на мяне зірнуць.) Часцяком і самую дамберыць прайсціся ў яго пад вокнамі.

Як з ім трымацца? Калі кліча па грыбах пахадзіць, ахвотна пагаджаюся. Ён падабнейшы за іншых. Вочы бліснуць усмешкай, і позірк чакальны. Часам абяцаюся не напускаць яго на выстрал. (Каб набіць сабе цану.) Дык жа вочы зусім другое кажуць, у голасе не чуецца моцы. І не хочучы становішся ласкавай, як кацянё.

Дзяўкі здумляюцца: Алёна ўкахалася.

От бо натуры. Ім толькі абы выскаляцца.

— Дуры, дзяўкі, сараматніцы! — агрызаюся.— Не мецьмеце розуму.

Пакрысе гоіцца сорам.

А тут навіна — задыхнуцца можна: Домна, равесніца, з Халімонам цалавалася. (Ніхто не бачыў, а ўсе ведаюць.)

А я? Я не, не цала... Нявож, буду я цалавацца яшчэ! (Тое, у суботу, не ў лік, і выйшла зусім незнарок.)

Дык што ж гэта са мною, га? (Гэтак хочацца ўбачыць Максіма.) А можа, яно і называецца каханне?

Чуеце: ка-хан-не!

Што ж рабіць, калі яно наступае на пяты. Скажыце, а вы самі выцерпелі б без гэтага, ну няхай — кахання, скажыце.

А што, маўчаце?..

## З-ЗА НЕШАНЦУНКУ

*Уладзімір Верамейчык*

Забі за мною браму, пекла,
На дно марское кінь ключы.
. . . . . . . . . . . .
А ты не ўмела цалавацца.

Мяне жыццё нямала секла,
Круціла, кідала праз край.
І я стаю, ўлюбёны ў пекла,
Гляджу з пагардаю на рай.

Я сустракаць суседку з працы
Хадзіў праз ноч не год, а пяць.
Яна ж не ўмела цалавацца,
Умела стоена ўздыхаць.

З другой суседкай мы блукалі
Пад цеплынёй дубовых крон.
Праз год дубы пакарчавалі,
А на слядах застыў гудрон.

Сюжэт паэмы падвярнуўся,
Якой не зналі на зямлі,

Ды паляцелі ў вырай гусі —
З сабой натхненне паняслі.

Цяпер няхай дзяўчаты пекна
Глядзяць у зманлівай цішы.
Я не да іх пайду, а ў пекла,
Мне рай, дальбог, не па душы!

## ПАРЫЖ

*Васіль Вітка*

Да Парыжа з Мінска
Шлях найболей блізкі,
Калі ўзяць адразу старт
З Камароўкі на Манмартр.

Банжур [1], Парыж!
Чакаў мяне?
Шуміш?
Шуміш...
Алон дзінэ [2].

У сё флёў [3] Сена?
У Манпарнас?
Гляджу: Мадлена
Няма у нас.

Заве Манмартр
Удаль кудысь.
Вандом — не жарт! —
Глядзіцца ўвысь.

---

[1] Добры дзень.
[2] Пайшлі абедаць.
[3] Дзе рака?

Чырвоны шпіль —
Бясспрэчна, готыка.
Пяць тысяч міль —
Вакол экзотыка.

Вось Гранд-Апер —
Замры і стой.
Айда ў партэр!
А гэта?

Вой,
Мне вецер дзьме
З Нямігі ў твар...
Адзью, месье,
Орэвуар!..[1]

## ВЯРНІ-І-СЯ-А-А!..

*Артур Вольскі*

Плачуць ліпы,
ліпы,
ліпы,
а ў машыне едзеш ты.
. . . . . . . . . . .
Усё было.
Ды ўсё сплыло
вадой
з патрэсканых начовак.

Без цябе зусім нялоўка,
За бядой ідзе бяда:

---

[1] Да пабачэння, панове,
Бывайце!..

Пашчапаліся начоўкі —
Не трымаецца вада.

Штось расчынена істопка,
Не злічыць паўсюдна страт:
Раскідаліся лазобка,
Кубел, цэбар і вушат.

Ціха выйшла ты без стуку,
Мне кругом цяпер хоць плач:
Бы згарэла дзесьці ступа,
Нібы прывід, знік таўкач.

Гаспадарыць не пад сілу,
Я зрабіўся сам не свой:
Дзе той грэбень, матавіла,
Бёрда, набілкі, сувой?

Ні на грош парадку ў хаце,
Як павесці ўмела ты.
Абваліліся палаці,
Паскідаліся шасты.

Там кагосьці ты з усмешкай
Абдымаеш галаруч —
Тут засталіся ад дзежкі
Вечка, клёпка ды абруч.

Лыжкі-міскі зніклі недзе,
Я хаджу адзін як цень.
Дзе ж ты едзеш, едзеш, едзеш?
Ну вярніся хоць на дзень!..

# ПЕРШАЯ СВАРКА

## *Міхась Вышынскі*

Ледзь бярэцца на золак, падборыстая, варушкая, гіпнатычнай красы чарнушка Праксэда борздзенька падхопліваецца з пасцелі. Уся яе станістая, гнуткая фігура гаворыць аб незямным шчасці. Яна спаласне крынічнай вадзіцай твар і з таемнай мелодыяй у душы пачынае ўходжвацца па гаспадарцы.

Той жа момант ускоквае з пасцелі ўплячэлы і ўёмісты, як бабёр, Лістрат.

— Паспаў бы, я сама ўходаюся,— лагодна ўшчувае Праксэда. Яе цёмныя і вялікія, як слівы, вочы глядзяць замілоўна, наліваюцца ціхім святлом закаханасці. Яна праясняецца абліччам і думае пра мужа пяражывацельна. Твар святліць ціхай усмешкай.

Ніякія ўгаворы на Лістрата не дзейнічаюць.

— Нічога са мной не стане! — ён хуценька ўмываецца і таксама пачынае шчыраваць па гаспадарцы. Пакуль Праксэда доіць карову, цэдзіць малако, ён запальвае ў печы, рашчыняе бліны, скрылюе сала. Пасля выганяе карову ў поле, а Праксэда забоўтвае кулеш, пражэ яечню.

Нарэшце наступае самы адказны момант — абкармленне вепрука. Праксэда замешвае цеста, абсыпае мукой і подбежкам, адчуваючы паветраную лёгкасць цела, спяшае да хлеўчука, дзе за перагародкай вішчыць ладны падсвінак. Але гаспадар стараецца аднесці вядзерца сам. Дзеля гэтага ён не раз клікаў Праксэду ў хату, нібыта паглядзець, ці так замешаны праснакі або парэзаны клёцкі. А сам у гэта імгненне порстка выскокваў у сенцы, хапаў вядзерца і шыбаваў да хлеўчука.

Праксэда ўслед толькі рукамі разводзіла.

Пасля снедання Праксэда любоўна туліцца да Лістрата і сцішваецца ў немым захапленні, успамінаючы пагулянкі-мілаванкі. На душы ў яе прасторнее. Яны садзяцца на нізенькія табурэткі адно насупраць другога і спяваюць колькі частушак. Асабліва даспадобы ім вось гэта:

Не ў тваёй, сяброўка, ўладзе
Маім любым заўладзець:
На твае калені сядзе —
На мяне будзе глядзець.

Сёння, крышачы сала, Лістрат заўважыў, што жонка ўжо замяшала вепруковы прысмакі.

— Праксэдка, падыдзі, калі ласка, глянь, як лепей разрэзаць вось гэты кавалачак,— адразу знайшоўся Лістрат.

Але яна зразумела хітрыкі.

— Сам здагадайся, Лістратка,— ласкава адказала і ўзялася за дужку вядра.

Лістрат убачыў, што яго план праваліўся, кінуў сала і, як дуж быў, у адно імгненне апынуўся ля вядра.

— Праксэдачка, любая, не трэба напінацца, я вынесу.

— Не, Лістраточак, ты ля печы і так затупаўся, я панясу.

Лістрат пацягнуў вядро да сябе. Праксэда не адпускала. Ён пацягнуў мацней. Фігурыстая Праксэда часта задыхала і ўтаропілася ў яго дзёрзкім кплівым поглядам. Чорныя з жаўцінкай вочы загарэліся помслівымі агеньчыкамі. Па ўсяму было відаць, што зніякавелая ад неспадзяванкі жанчына не адступіцца.

— Чаго ты свецішся, як навагодняя лямпачка, я панясу! — шырокія жалудовыя вочы Лістрата загарэліся няўмольна.

— Досыць, я табе назважалася, кірпа нясклёпістая! — агрызнулася Праксэда і тарганула вядро.

Вядро пахіснулася, і добрая палова яго змесціва аказалася на падлозе. Абое ажно знямелі ад такой нечаканасці. І разам адпусцілі дужку. Вядро скулілася, і астаткі вепруковага сняданка пацяклі, утвараючы вялікую лужыну.

— Ведаць я цябе не хачу! — крыкнуў Лістрат, схапіў касу і, не снедаўшы, пашыбаваў на луг.

— Каб тваёй нагі не было ў маёй хаце! — услед наказвала Праксэда.

А ў хлеўчуку як не рваў сцены галодны вяпрук.

## НАСЦЕЖ

*Анатоль Вялюгін*

А прызнацца,
у нас невялікая розніца:
год пятнаццаць...

І, заўсёды лепшая, на світанку нашча
песня запяваецца...

Ты са мной, шаленства яснага юнацтва.

Сумётамі ў маі
Самлелая квецень.
Ты выйдзеш — я знаю —
Ка мне на дасвецці.

Мы пройдземся
Проста
Ля кромкі лясочка,
Хоць ты мне па ўзросту —
Старэйшая дочка.

Яно б, калі хочаш,
Лепей бы стрымацца,
Ды ў сэрца грукоча
Шаленства юнацтва,

Кладзецца пад ногі,
Хапае за рукі...
Дык вобзем трывогі,
Раскайванняў мукі!

З душы выплываюць
Гарачыя словы:
— Я жыць пачынаю
Сягоння нанова!

Размаеным раннем
Стаю я — ўвесь насцеж.
І песня кахання
Складаецца нашча!..

## ГРАМАТЫЧНЫЯ ЭЦЮДЫ

*Вера Вярба*

З макам
маленства ляпёшка,
Ты
разгані
леваруч
Высака
ў свет,
басаножка,
Сонечны
лёгкі абруч.

Плача зманежана кошка...
Шчасце знайшла я няўзнак
Ў корані слова ляпёшка,
Ў суфіксе слова праснак.

З рэек на поўным разгоне
Збіўся кахання экспрэс.
Нікне ў пакутным сутонні
Роднай граматыкі сэнс.

Покруж маіх летуценняў
Стаў на трывалы прастой.
Радасць спакусных трымценняў
Цёплы размыў сырадой.

Выцерплю крыўду любую,
Толькі радкоў не трывож,
Хоць я часамі спрабую
Вершы пісаць леванож.

## НА ДРОВЫ

*Анатоль Вярцінскі*

Да сонца цягнучы галіны,
Расла разлатая яліна
З наростам-шышкай на камлі.
...І вось мы да яе прыйшлі.
Прыйшлі з нагостранай сякерай,
Прыйшлі з разведзенай пілой,
Прыйшлі гарачыя не ў меру,
Прыйшлі без літасці і веры,
Прыйшлі...— з якім прыйшлі намерам?
Прыйшлі!
А з мэтаю з якой?!
Прыйшлі,— піла ў руках запела,
Яліна дробна задрыжэла
Усім сваім яловым целам
І — грымнула ўніз галавой.
А мы яе — чацверталі,
Услед затым —
васьмеравалі,
Пасля —
фурманку падагналі [1],
Кражы на воз ледзь-ледзь усклалі,
Ледзь падымаючы з зямлі...
О жах!
Дзе ж спаў наш дух здаровы,
Калі без лішняе размовы
На дровы! —
чуеце? —
на дро-о-о-овы!!! —
Яліну ў вёску мы вязлі...

---

[1] Кабылу Машку гэтым часам
Прыгнаў Пятрусь Макаль з Парнаса.

# ГРЫШКА І ШАРЫК-ВЫХАВАЦЕЛЬ

*Вісарыён Гарбук*

Шмат я бачыў розных дзяцей. Хлопчыкаў і дзяўчынак, паслухмяных і неслухаў, смелых і палахліўцаў. Добрыя дзеці, як і трэба, рабілі добрыя ўчынкі. А кепскія ў мяне заўсёды перавыхоўваюцца. Бо як жа іначай. Праўда, я ні слова не сказаў яшчэ пра Грышку. Дык вось паслухайце.

Гэты самы Грышка ў мінулы панядзелак таргаў за касічку Алачку-даганялачку. Ды каб жа раз таргануў, а то цэлых чатыры разы. А Марынцы, калі яна бегла хавацца, падставіў падножку. Дзяўчынка ўпала, запэцкала новую сукеначку і збіла да крыві калена.

У аўторак Грышка ганяў Шарыка. Сабачка такі маленькі жыве ў нашым двары. Мы ўсе яго любім, кормім. Старэйшыя хлапчукі Міша і Саша домік яму зрабілі. Шарык спіць у тым доміку. А Грышка схапіў Шарыка за вуха і давай цягаць па двары. Сабачка плакаў, прасіўся, ледзь вырваўся. Тады Грышка пачаў ганяцца за Шарыкам з палкай. Той ледзь уцёк ад распусніка.

Калі мы хадзілі ў лясок, Грышка задушыў вусеня, затаптаў мурашку, адарваў крылцы страказе і лавіў чмяля.

А сёння Грышка заўважыў на грушы верабейку. Той нешта весела расказваў сам сабе, пераскокваючы з галінкі на галінку. Хлапчук рашыў яго злавіць і палез на дрэва. Узлез на ніжні сук. Але верабейка бесклапотна чырыкнуў і пералеў вышэй. Тады і Грышка пачаў карабкацца вышэй. Верабейчык прыгнуў галаву, зірнуў адным вокам уніз, нешта прачырыкаў і пераляцеў на бярозку.

— Ну пачакай жа,— праказаў Грышка,— я цябе з рагаткі дастану.— І пачаў злязаць. Раптам яго правая нага пакаўзнулася. Ён неспадзеўкі адпусціў левую руку і сарваўся. Але кашуля зачапілася за тоўсты сук, і свавольнік павіс на грушы. Вісіць, рукамі махае, а адчапіцца не можа.

— А-я-яй,— заенчыў Грышка.— А-я-яй! Ратуйце! Зніміце!

Паблізу гуляў Шарык. Ён убачыў Грышку, пабег да дзяцей, якія гулялі па другі бок дома, і пачаў гаўкаць. Гаўкне, адбяжыцца і зноў вяртаецца, нібы кліча за сабой.

— Нешта здарылася! — здагадаўся Сёмка і паклікаў: — Бяжым хутчэй!

Шарык быццам зразумеў дзяцей і кінуўся да грушы.

— А-я-яй! — енчыў Грышка.— Я не магу злезці.

Сёмка мігам узлез на дрэва, моцна стаў на сукі і падняў Грышку за кашулю так, што той рукамі ўхапіўся за сук, а потым спусціўся на зямлю.

Тут усе дружна пачалі сарамаціць Грышку за яго свавольствы.

Хлопчык заплакаў і паабяцаў:

— Больш я не буду крыўдзіць нікога.

І сапраўды, ён адразу паламаў рагатку, перастаў цягаць Шарыка за вуха і не таргаў за касічкі Алачку-даганялачку.

А піянер Сёмка сказаў:

— Гэта Шарык дапамог Грышку зразумець свае памылкі.

# ДА ХАРЭЯ ПРАЗ ПАЛІ

*Віктар Гардзей*

> Электрычнае ёсць поле.
> Ёсць магнітныя палі.
> . . . . . . . . . . . . .
> Пасадзі аглоблю ў глебу —
> Дрэва кронай зашуміць!

Шмат палёў на белым свеце —
Поле жыта і аўса;
Над адным з іх сонца свеціць,
На другім блішчыць раса.

Знаю поле за таполяй,
За імшыстым валуном.
Я пасею грэчку ў полі
І прысыплю талакном.

Выйду ранкам на раздолле,
З канапель пужну курэй.
Пасаджу аглоблю ў полі —
Расцвіце на ёй харэй.

Палячу ўпярод без стрыму,
На вярбе сарву ранет.
Эх, катрэны-пантарымы,
Тут свісцёлка, там кларнет.

Дом высокі, ганак новы,
На круках няма дзвярэй.
Ты ў жыцці маім аснова,
Расхарэісты харэй!..

## ДУМКІ-РАЗВАГІ

*Тацьцяна Гарэлікава*

З самага-перасамага ранку-світанку Асклініяда адчувала: павінна штосьці здарыцца-адбыцца. Учора а дзесятай часіне-гадзіне яна развіталася з Фармакеем без абдымкаў-пацалункаў, якіх прагнуў каханы-жаданы, без хісткіх-трапяткіх прызнанняў-абяцанняў. Пайшоў ён, як здалося-паказалася дзяўчыне-прыгажуні, пакрыўджаны-расчараваны. Пайшоў, ступаючы ціха-нячутна, не азірнуўся, не аглянуўся.

А сёння пра яго думалася.

І неўзабаве маленькая хмарка-аблачынка павісла над сэрцам-душою. Муліла-вярэдзіла думка-гаданне: ці варта было адштурхоўваць-адпрэчваць? Хто ён? — салодкае шчасце-радасць ці горкая бяда-злыбеда?

Таму пра яго думалася.

Упынак-месцейка хмаркі той раптам-знянацку заняла кволенькая надзея-спадзяванак. І ўжо цудам-здзіўленнем свяціліся вочайкі, задумліва-засяроджана глядзелі-пазіралі кудысь у той бок-старану, дзе пакалыхалася тады шапка-васьміклінка. Нястрымна-пакутлівае жаданне перапаўняла грудзі, прымушала аглядна-насцярожліва прыслухоўвацца да крокаў-павеваў ветрыку-гарэзы.

Пра яго думалася безупынна.

І раптам нібы адкаснулася ад мар-летуценняў, усцешылася нечым, што не выкажаш словам-выразам. І тое невыказна-таемнае замлела глыбока, запынілася-засяродзілася на скіраваным у сябе зірку-позірку. Неперарможна-загадкавая ўсмешка саступіла набок, і тое, што мучыла-вя-

рэдзіла Асклііяду, заблукала па губах, валюхаста пырханула на шчочкі-ружачкі і ціха-спакойна павісла над левай скроняй, заблытаўшыся ў кудзерках-завітках. Невідушча ўзіралася яна ў разлегласць-сіняву, спрабавала дацяміць далечбясконцасць шляху-дарогі, поўнячыся трывогайнепакоем. Нязгода з сабой пачынала тачыць-свідравацьмагутна-ўладна.

Па-ранейшаму думалася пра яго.

Нязвычная сіла-ўпэўненасць прымусіла адступіць-адысці непрымірэнчасць. Нарастала-павялічвалася шкадоба. У закаханай усхвалёванасці ніякавела-нікла ружа-дзяўчына. Не зразумець было, ці яна гаварыла з ім у думках-згадках шчыра-зычліва, ці гэта хтось-якісь іншы думаў у лад з ёю. Падзеі выклікалі неабдымную радасць. Яна расла-шырылася, ахопліваючы сусвет-першазданак.

У хвілі пярэдыху соладка думалася пра яго.

Прага чакання горасцю асядала на вуснах, лётам ляцела да адрынутага-адпрэчанага. Хацелася сказаць яму пра веліч-невымернасць пачуццяў-трапятанняў. Заманулася ўбачыць-супакоіць, схіліць галаву на шырокія грудзі, пачуць уладнае біццё-трапятанне жаданага сэрца, злучыцца з ім назаўжды-назаўсёды.

Ногі прывялі на прыпынак-супынак. Ляцелі-мігцелі машыны. Клікала-вабіла іх шыра-разгон. І яны не спыняліся ў сваім лёце-імкненні.

Стаяла Асклііяда сумотна-гаротна.

І ёй думалася пра яго!..

# ТРЫУМФАЛЬНЫМ ПОСТУПАМ

*Сцяпан Гаўрусёў*

> Гады не гнятуць мае плечы.
> Крок цвёрды. Рука не
> дрыжыць.
> . . . . . . . . . . . . . . . . .
> Іду праз трыумфальныя
> вароты.

Я класці скаргі не ахвочы,
Хоць у віхурнасці гадоў
Мяне імкнуўся гном сурочыць,
Злы дух распетрыць быў гатоў.

Дарэмна ў лютасці стазыкай
Пякельна роў калядны гром
І завываў штоночы дзіка
Шалёны вецер-ветраном.

Я рад прайсці зямлёй прасторнай.
Сутоння бачыць не хачу.
Няхай заўсёды светазорна
Траіцца радуга ўваччу.

Я так люблю, каб мне шторанку
Святлісты промень на шчаку,
Пяшчотны позірк з-за фіранкі
І зайчык сонечны ў руку.

Мяне не страшаць павароты
Крутой няўцямнасці жыцця.
Праз трыумфальныя вароты,
Абуўшы ялавыя боты,
Іду я ў неруш пачуцця.

# ЯК ЯНО БУДЗЕ

*Васіль Гігевіч*

Сябры, як і дамаўляліся, будуць сыходзіцца за вёскай павольна і асцярожна, каб не выклікаць падазронасці.

Першым пакажацца Кудлаты. Ён спыніцца, абвядзе вакол сябе кіёчкам магічны круг і будзе стаяць, углядаючыся ў перыстыя аблокі.

Мурзаты вынырне амаль нячутна. Ён шмаргане рукавом па носе і абапрэцца аб алешыну.

Затым падыдуць Стракаты і Паласаты. Яны стануць каля круга і таксама задзяруць уверх галовы.

Апошнім з'явіцца Лабаты. Ён з ходу паведаміць, што праз два дні абавязкова зловіць Мурку-Казюрку.

— Гэта яшчэ туды-сюды, віламі па вадзе пісана,— не пагодзіцца Кудлаты.— Мурку-Казюрку можа злавіць той, хто чуў калядны гром.

— Што галава, то й розум! — усклікне Стракаты.— Думаць трэба, пра што гаворыш. Мурка-Казюрка паказваецца толькі таму, хто з'еў паўтара чмяля.

— Абодва разумнікі,— падкусіць Кудлатага і Стракатага Паласаты.— Перш чым лавіць Мурку-Казюрку, трэба ўлагодзіць Бабу-Ягу.

Ашаломленыя дасведчанасцю Паласатага, іншыя не знойдуцца што адказаць. Але Мурзаты маўчаць не захоча, а таму скажа:

— Ты на гару, а чорт за нагу, так і ета. Баба-Яга каля вёскі не паказваецца. Яе можна ўбачыць толькі ў густым лесе за сямю дарогамі на восьмай палянцы.

— Маніш ты і сам толкам не ведаеш навошта,

як дзіця якое,— адрэжа Кудлаты зусім па-ўзросламу.— Баба-Яга даўно памерла.

— А ў які бок трэба ісці, каб убачыць Бабу-Ягу? — нібы не чуючы Кудлатага, спытае Стракаты.

— У той! — упэўнена пакажа Паласаты.

— От бо галава! — запярэчыць Лабаты.— Баба-Яга заўсёды жыла вунь дзе! — і пакажа ў адваротны бок.

— Каб мне з гэтага месца не сысці! — паклянецца Мурзаты.— Баба-Яга жыве там,— і пакажа ў трэці бок.— Мой дзед на ўласныя вочы яе бачыў.

— То як жа твой дзед мог бачыць Бабу-Ягу, калі яна памерла? — усумніцца Кудлаты.— Мёртвыя толькі ў зарубежных раманах прыходзяць з таго свету.

— Га! — адклікнецца Паласаты.— Вось я нядаўна прачытаў аповесць «Ячменева», дык тамака мерцвякі свабодна разгульваюць па вёсцы. Нават у хаты заходзяць.

— То, мусіць, ёсць нейкае таямніцтва на свеце,— дрыготкім голасам прамовіць Мурзаты.— Бо інакш навошта змерлым з'яўляцца ў вёсцы.

— Я баюся! — захныча Лабаты і пачне падступацца да магічнага круга.

— Чаго толькі на свеце не дзеецца! — з філасофскім выглядам абзавецца Стракаты.— Ідзеш па вуліцы, а табе насустрач бразгае касцьмі самюсенькі дзед Брыська, што памёр у мінулым годзе.— І, памаўчаўшы, дадасць у заключэнне:
— Жыт-ту-уха!

— Каб веданне, дзе сустрэнеш мерцвяка, дык абышоў бы тое месца за тры вярсты,— прашэпча Паласаты.

— Не трэба мне Муркі-Казюркі, не буду я яе

лавіць,— праз слёзы прагаворыць Лабаты.— Я хачу да мамкі.

Сябры пачнуць спалохана аглядвацца па баках, а потым з гучным румзаннем ірвануць угрунём назад, у вёску.

## КАХАННЕ І ВОСЫ

*Ніл Гілевіч*

Жнівень, арэхі і жоўтыя восы,
Што заміналі цябе цалаваць.

Жнівеньскі бор з асалодай цнатліваю
Шэпча, таемна ўздыхае і крэхае.
Дзікай высочанькай козкай пудліваю
Стрэў я цябе за кустом за арэхавым.

Прагна уся ты ў абдымкі імкнулася,
Лашчылі вочкі з павекамі-крыльцамі,
Губы да губ гэтак смачна цягнуліся,
Раптам... арэх зверху бац па патыліцы.

Тут, як на грэх, восы жоўтыя кучаю
Рынулі,— скуль іх нанесла нячыстая...
Наша каханне навечна раскручана,
Знікла бясследна імгненне ўрачыстае.

У жнівеньскіх росах з тых пор не купаюся,
Цягнуць арэхі на роздумы сумныя.
Восы! — ад іх я і ў снах адбіваюся!..
Што ж натварылі вы, мошкі бяздумныя...

# І МЫ ПІСАЛІ

*Пятро Глебка*

> Перад захадам сонца
> Ёсць хвіліна тугі.

Перад захадам сонца
Ёсць хвіліна тугі.
Пішa вершы на ўслонцы,
Ды не я — хтось другі.

Я ж не стану пунцовець,
Рваць над вершамі пуп.
Дам уступ да прадмовы
І прадмову ва ўступ.

Ува ўводзінах спорых
Будзе стрыманы тон:
І пакладзісты порах,
І спагадлівы тол.

Толькі дзядзька увішны,
Ледзь хаваючы гнеў,
Скажа, нібы між іншым:
— А пісаць жа — умеў!..

# ПРАГА

## *Юрка Голуб*

> І толькі змеціш ноччу:
> У белай паласе —
> Наводліў крэўны почырк
> Па шыбе паласне.

Алыча успамінаў,
Развагі баабаб.
Кляновыя галіны,
Як перысты усхрап.

Забуду нешанцунак
У сне лімонных мук.
Мне стаў нібы ратунак
Вяровак важкі пук.

Я словы, як дзічыну,
Ў крушынавай нудзе
Разбэрсанай ляйчынай
Кілзаю дзень у дзень.

Індычыць ранак волле
Праз сорак галасоў.
Не выпушчу на волю
Ніводнага са слоў.

У празе сэрца млее.
Не кідаю склімець,
Бо хочацца хоць неяк
Сябе паразумець.

# ВОБЛАКІ НАД АВЕЧКАМІ

*Іван Грамовіч*

О, воблакі...

Што ёсць прыгажэйшае, чым воблакі? Белыя і кучаравыя, далёкія-далёкія. Колькі разоў у маленстве я шпурляў палкай у воблакі! Здаецца, вось-вось удару. Аж не. Палка вярталася на зямлю-матухну, нават не закрануўшы іх. Ведама, дурненькі быў. Аж брыдка ўспомніць. Каб на цяперашні розум, дык хіба дазволіў бы такое? Ніколі!..

Так, воблакі!

А яшчэ авечкі.

Воблакі і авечкі. Ці знайсці што-небудзь больш цудоўнейшае?

Дзе воблакі? Яны сабраліся на сінім-сінім полі і плывуць паціхусеньку. Хто іх кліча? Хто прымушае рухацца невядома адкуль, невядома куды і чаго!..

Воблакі на небе.

Авечкі на зямлі.

Як гэта захапляльна! Гэта хвалюе, непакоіць, зварушліва аддаецца ў самых патаемных куточках сэрца, прыемна казыча пяткі.

Воблакі выклікаюць развагі. Пра авечак думаецца бясконца.

Воблакі бываюць розныя. Цёмныя і светлыя. Авечкі бываюць белыя і чорныя. Сустракаюцца сівыя. У Ямелькі Цупрыянчыка была рыжая ў яблыкі. Аж смешна: авечка — і рыжая. Ды яшчэ ў яблыкі.

Хораша!

З воблакаў, бывае, збіраюцца хмары. Тады капае дожджык. Кап-кап. Адна кропля. Другая.

Падаюць-падаюць. На голаў. На плечы. Нейкая трапляе за каўнер і цячэ ніжэй. Казытліва і прыемна. У навальніцу воблакі таўкуцца, штурхаюцца. Гэтак паводзяць сябе авечкі. Дакладней — бараны. Асабліва Ігнасёў і Хвядорын. Яны разыходзяцца. Апускаюць пысы ў зямлю. Топаюць. Спачатку левай нагой, пасля правай, некалькі разоў запар. Раптам зрываюцца з месца і тр-р-рах! — коціцца глухаватае рэха ад сутыкнення іхніх ілбоў. Канечне, не зусім разумных.

Цуд-д-доўна!

Воблакі недасягальныя. Як і авечкі. Бо паспрабуй злаві авечку ў полі. Трасцы!

Воблакі гавораць паміж сабой і з людзьмі. Авечкі таксама размаўляюць. Звычайна паміж сабой.

— Б-е-е! — цягне аднарогая Сымонава.

— Б-бе,— коратка адказвае Лявонава.

— Бя? — пытаецца Мархвуткіна.

— Бь-ф-фып-бя-г,— праз поўны рот дзяцельніку дзелавіта мармыча ненаедная Стэхванава.

Я замілавана слухаю іх размову і разумею кожнае «бе». Гэта ж вунь Сымонава прапаноўвае пабегчы ў ярыну. Лявонава дае згоду. Мархвуткіна пытаецца, дзе пастух, гэта значыць я. Ежце, дзе пасуць, чаго вас нячысцік носіць, стрымлівае ласуніх Стэхванава.

Чароўна!

Аднекуль наплывае песня:

Мае вочанькі
закрываюцца,
Маё сэрцайка
разрываецца.

Воб...

Ав...

Бе-е-е...

## КАЖУШОК

*Сяргей Грахоўскі*

У кажушку — наросхрыст грудзі,
З цыгаркай — хвацкі самасад —
Я выйшаў першы раз у людзі
Да Верамейчыных прысад.

Вялікдзень курчыўся ў сівусе,
Смяяўся, плакаў, роў, бляваў.
Я Верамейчыну Марусю
Крысом да рання акрываў.

Цяпер касцюм нашу з бастону,
Кашулю — першай маркі шоўк.
Ды будзе помніцца да скону
Памяты бабчын кажушок.

## СПЯШАЙЦЕСЯ

*Анатоль Грачанікаў*

І ціхіх дум дрыготкае свячэнне
Павольна узыходзіць нада мной.
. . . . . . . . . . . . . . .
У лясы падбрыду адзін.

Люблю прайсці па сонечных пасёлках,
Знаёмы ўсім і ўсім у дошку свой.
І трапяткія думкі, як анёлкі,
Лунаюць над маёю галавой.

Мяне сустрэць ласі шыбуюць з лесу,
Зязюлі звонка мне гады куюць,
Насустрач мне вужы са скуры лезуць,
Мне совы, як наложніцы, пяюць.

Мяне на розных перавалах трэсла,
Любыя мне нягоды па плячу.
Самаспапелены,
                самаўваскрэслы,
Я на Алімп, акрылены, лячу.

Лячу!..
А позірк флоры ўсёвідушчай
Настойліва слізгае па спіне.
Дык покуль я яшчэ не збег у пушчу,
Спяшайце наглядзецца на мяне!..

## КАХАННЕ І КРУПНІК

*Мікола Гроднеў*

Да Ігната і Мальгрэты ніяк не падыходзіла казань «Чорт чорта пазнаў дый на піва пазваў», бо з першага зірку відаць было, што адно з іх гарачка, а другое балячка. Нават гаспадыня, у якой яны здымалі асобныя пакойчыкі-бакавушкі, не раз, бывала, перасмыкнуўшы плячамі, гаварыла:

— Анягож, мае людцы, не. Гэта ж чорт, пэўна, не адну пару лапцей стаптаў, пакуль звёў іх. Ён выдыгае перад ёю, а яна нібы і не бачыць.

Жывуць жа побач, праз сценку, але яна яго ні нагою цераз парог да сябе. Сустракаюцца, бач ты, на кухні.

Сапраўды, зразумець іх было цяжка. Мальгрэта то была адна мяккасць і згаворлівасць, то ў яе серада высільвалася перасягнуць праз аўторак, а субота заскоквала за пятніцу. Любіла яна хварснуць агністымі кудзеркамі, магла, казырнуўшы, кульнуць чарку і тут жа другую папрасіць. А то, здаралася, першага сустрэчнага хлопца цмокне як свайго і часам калі адзычыць каму ўсмешку, дык у таго цэлы тыдзень гармонікі ў душы.

А на любошчы была ўнадлівая, і Ігната кахала шчыра і самааддана. Кожную раніцу Мальгрэта ўставала першай і ціхутка, каб нікога не патрывожыць, шмыгала на кухню і там завіхалася, варачы поўны чыгунок крупніку для Ігната. Гэтак жа ціхенька яна выходзіла з дому, спяшаючыся на завод. Ігнату выходзіць было на дзве гадзіны пазней, і ён яшчэ соладка пахропваў за перагародкай.

Справа грунтоўна і пэўна ішла к вяселлю — і трэба ж было намянташыцца гэтай Парасцы, Ігнатавай суседцы па станку. Прыліпла і прыліпла ў чацвер да хлопца: я цябе праводжу дадому. Ігнат і так і гэтак адкараскваўся — ды не: павісла на руцэ і пацягнулася амаль праз увесь горад, рагочучы ледзь не на тры кварталы. Мальгрэта якраз стаяла ля акна. Аж зірк — вядзе Параска Ігната і гэтак шчыльненька прылягае да пляча. Яе ўсю аж у калатэчу кінула, а наступная думка што кіпенем ашпарыла:

— Дык за што ж я табе крупнік варыць буду, гіцаль ты гэтакі? Бач ты, іншых водзіць, а пра мяне, мусіць, і не шманае. Нялюбы ты мне! З вачэй далоў і з сэрца вон!

Калі ранкам, як звычайна, выйшаў Ігнат на кухню, каб з'есці талерку густога наварыстага крупніку, яго стрэла перавернутая ўверх дном каструля. Яна нібы гаварыла: вось палюбуйся на мяне разам са сваёй Параскай. Ігнат адразу зразумеў: каханне скончылася назаўсёды...

## РАЗВІТАННЕ

*Леанід Дайнека*

Цягнікі... Машыны...
Матацыклы...
Грымнула... Завыла... Загуло...
. . . . . . . . . . . . . . .
Бывай, паэзія, бывай!

Рублі. Капейкі. Ашчадкніжка...
Нумараваная чарга.
Падлік... Юначым планам крышка...
З увішнай радасцю туга.

Вучоба. Курсы. Хваляванне...
Квяты. Экзамены. Правы!..
Шыкоўнасць мар... Нясцерп чакання...
Салодкі покруж галавы...

Здзяйсненне!..
Колы. Руль. Кілімы.
Густое шчасце цераз край...
Харэі — міма.
Ямбы — міма.
Бывай, паэзія, бы-ыва-ай!..

## НЕПАРАЗУМЕННЕ

*Генрых Далідовіч*

Не спявалі птушкі, не крактaлі жабы. Сшэрхла зелянота, збяднеліся на лісцё дрэвы. Словам, прыйшла восень.

Была нядзеля. Ад ранку з хмар, нізкіх, цяжкіх, цабаніў нудны дождж. Маладому настаўніку-першагодку Міхею сумнавацілася аднаму ў пакоі. Просвету ў надвор'і не бачылася. Невялікая соладзь уталоплена глядзець праз шыбу на непралазную хлёпанку, у якой цярэбяцца качкі.

Не хацелася ступаць у хлюпаткое месіва, і Міхей імкнуўся перахітрыць сябе думкамі пра планы, сшыткі, урокі. Але цвярозлівай, здаровай прычыны не знаходзілася, каб не пайсці да Мархвы.

Колькі разоў збіраўся ён сказаць дзяўчыне аб сваім каханні, але пачуваў сябе няроўняй, і тыя адзіныя словы, неабходныя ў патрэбны момант, не знаходзіліся.

— Трэба жыць сталей,— нудзіўся настаўнік.— З Мархвай сем'янінамі вунь як бы мы пачуваліся. Але ці пойдзе яна за мяне?

Нарэшце перамог сумненні і пачаў апранацца.

Мархва ў гэты час таксама стаяла ля акна і ціха кратала валізку з бялізнай, толькі што адпрасаванай. Яна была чысцёха і такая ж настаўніца-першагодка.

Шэрае камякаватае неба быццам давіла на плечы. Нідзе не выяснівалася, не выблакітнівалася.

Хлопцы за Мархвай чамусь не падалі. А сэрца яе прагла кахання, вялікага, як у кіно.

— Відаць, раней лепш любіліся,— мільгатнула знячэўку. Жаласна шчымнулі сухія вусны. Успомніла, як таго тыдня на ростанях Міхей даў буську і шпарка марсянуў па высакаросцю дамоў. Быццам чужаніўся нечага.

— Канешне, я Міхею не пара. Ён прыгожы, а я, што я...— сыходзіла жалем Мархва яшчэ і ад таго, што трэці месяц адчувала сябе пры надзеі.

Раптам пагрукалі ў дзверы. Увайшоў Міхей, мокры, запырсканы. Ён быў сама рашучасць. Не распранаючыся, накіраваўся да дзяўчыны.

— Мархва,— голас яго зрываўся,— я кахаю цябе. Але я не варты тваёй увагі, даруй мне.

— Не трэба, дарагі,— ад хвалявання Мархва не магла гаварыць.— Не кажы так. Гэта я не варта твайго ўсеабдымнага, як свет, кахання. Сына, як народзіцца, я ўзгадую адна.

— Мархвачка, любая,— пачаў Міхей, але яна перабіла:

— Міхейка, ты знойдзеш сабе лепшую, а я,— у голасе пачуліся слёзы,— а я... адна... як-небудзь...

Ногі нібы самі павярнулі Міхея. Ён вопрамецьь выскачыў за дзверы і, не разбіраючы дарогі, па лужах пашыбаваў да свае кватэры.

А над усім дробнымі слязьмі нескончона плакала набраклае неба.

# ШЛЯХ У ПРОСТРАНЬ

*Міхась Даніленка*

Падаіўшы кароў, кабеты ўселіся на пазалеташнім сене, якое духмяна пахла прывялымі краскамі. Уперадзе, непадалёк, стаяла бяроза-патрыярх, пад якой жанчыны штораніцы назбірвалі па кошыку казлякоў. Ззаду вілася даўно высахлая рэчка, дзе звонка булькала празрыстая вада. Злева стаяла дзічка з улежанымі грушамі. Жоўтыя, з янтарным адлівам плады, здавалася, самі прасіліся ў рот. Кабеты з хрумстам імі ласаваліся. За дзічкамі ў бязмежную пространь цягнуліся межы, па якіх мясцовы калгас сеяў проса ўперамежку са шчаўем. Справа раскінулася пустазелле — крапіва, макрэц, лебяда і асот. Каруся глянула на гэты зараснік, падскочыла, бы ўджаленая, і са злосцю кінулася вырываць пустазелле. Здавалася, яна знішчала ненавіснага ворага. Асабліва дасталося крапіве і асоту. Гарэлі агнём апечаныя і паколатыя рукі, але непатрэбная парасць была пераможана. Багуся і Палуся ўхвалілі работу. Каруся з той жа злосцю хацела накінуцца на макрэц. Аўгуся ажно здзівілася:

— Гэта ж наша Каруся-шчыруха цярэбіць шлях у пространь! Але Ганудя запярэчыла:

— Пачакайце з пространню, нікуды яна не дзенецца. Трэба пра мужыкоў пагаварыць. Бо яны ўзялі за звычай бегаць аж занадта. Дык як будзем выказвацца?

— Па алфавіту! Па алфавіту! — у адзін голас закрычалі Каруся і Палуся.— Хай Аўгуся пачынае.

— А што, і пачну! — азіраючыся падмаляванымі вачыма, паднялася Аўгуся, ад якой Іван,

трактарыст найвышэйшага класа, перабраўся да цёткі.— Няхай бы іх лепей зусім не было на свеце, гэтых мужыкоў. Ад іх адно гора. Вось майго вазьміце. Не даваў уздрамнуць апоўдні ані хвіліны. Зараклася я глядзець на іх.

— Што ні кажыце, а мужчына пры гаспадарцы рэч патрэбная,— запярэчыла тоўстая, як капіца сена, Багуся. Яна [redacted] самавітай няспешнасцю абапнула на плячах канаплянку і пазяхнула, аж кляцнулі сківіцы.— Ты яму толькі не давай пыніцца. Мой што рабіў? Рубанцоў прынясе — пашлю бялізну мыць. Куранят пакорміць — ідзі кароўку падой. Калі штодзень кіраваць, да ўсяго можна дакласці. Вось хіба немаўлят прыводзіць ці змогуць. Але належным чынам патрэніраваўшы... Ага, дык я пра свайго. Смятанку з гладышоў збярэ, на зэдлік сядзе, капяне нагой ката і не рухаецца. «Не, мой галубок,— кажу яму,— з катом я сама пазабаўляюся, а ты курачак пакатом шчупай». Ён і пайшоў. Ахвоча. Каторы гадочак мацае. Тэклю-магазіншчыцу, каб ёй пуста было. Ні кала ні двара не мае. Адно вецер у галаве свішча.

— Мужыка трэба ў руках трымаць моцна,— пераконвала сябровак Ганnormal.— Мой быў такі, што выхапіць гарачае з агню і пальцаў не апячэ. Пакуль я наводжу апалубку, ён смаліць таўшчэзныя цыгаркі і зіркае з непаразуменнем. Адзін раз вызвeрыўся: «Ці не перад бычанкамі ты штукатурышся?» А пасля не звясціў нічога і збег, хоць сама што жытка настала.

Нейкая думка тачыла Карусю, і яна доўга вагалася. Затым насупілася і паглядзела невідушча. Нібы [redacted] натугай пачала:

— З аднаго боку, яны як бы непатрэбны, а з другога — неяк нялоўка без іх. Калі пачуеш, што

за хвастамі пабег, дык глядзець на яго не хочацца. А як абдыме горача, пацалуе, жалкуеш у душы, здаецца, век бы не праганяла. Вось так плаваюць-снуюцца бязладныя думкі, і не ведаеш, на якой спыніцца.

— Гэ, патрэбны, патрэбны! — фыркнула Палуся, і твар яе аж запунсавеў ад злосці.— Я свайго падхлябістага нягегу турнула, і ён стрыбануў, як заяц. Не чуваць, дзе носіцца. Пры ім паясніцу нечага ламала, а там, глядзіш, і салёненькага заманецца. Дзе ты таго засушанага лешчыка знойдзеш? А без яго я так не кволюся. Не-э, хай бегае! — цвёрда заключыла кабета.

— Вось мы і выказаліся,— падвяла вынікі абмеркавання разважлівая Аўгуся.

Пасля гэтага кабеты начапурыліся, накруцілі валасы на бігудзі, палажылі ў даёнкі па ласкавічку сыру і подбежкам падаліся ў бязмежную падсіненую пространь.

## ВЯСНОВЫ СПЕЎ

*Авяр'ян Дзеружынскі*

Зімою золкі вецер дзьмуў,
Мароз са сцюжай ятраваўся.
Вясны чакаў я ўсю зіму
І вось, нарэшце, дачакаўся.
П р ы п е ў:
Вясною ручайкі бягуць
З бурлівай радасцю штогодняй.

Вясною птушачкі пяюць,
Вясною кветачкі цвітуць,
Каханкі робяцца лагодней.
Прыходзіць лета за вясной,
За летам восень след свой цягне.
А ты, вясна, заўжды са мной,
І сэрца дзён вясновых прагне.
Прыпеў:
Вясною ручайкі бягуць
З штогодняй радасцю бурлівай.
Вясною птушачкі пяюць,
Вясною кветачкі цвітуць,
Ды жонкі робяцца бурклівей.

## БАЮ-БАЙ

*Сяргей Дзяргай*

Ліха мае, ліханька —
што мялю?

Я ішла, спяшалася,
ўсё трушком.
Хмызнячком, разораю,
беражком.
Накалола ножаньку
на мяжы.
Ой, Сяргей-Сярожанька,
памажы.

Не вядзі ў жыты мяне,
ані ў гай.
За камлёт-кашуленьку
не дзяргай.
Мае шчочкі-ружачкі
аж гараць.
Мне сягоння стукнула
дваццаць пяць.
Ой, мялю я, людзечкі,
неўпапад.
Гэта ж заўтра будзе мне
пяцьдзесят.
Штось вярзецца-трызніцца —
хоць канай.
Спі, Сяргейка-ўнучачак,
баю-бай.

## ВЕКАПОМНАЕ

*Уладзімір Дубоўка*

На ліпе верабейка ўстрапянуўся.
— Чык-чык, чырык! — са шпакам агрызнуўся
І скокнуў на ніжэйшую галінку.

Якая векапомная хвілінка!

## БОЙЦЕСЯ

*Мар'ян Дукса*

Шукаю вусцішныя словы я.

. . . . . . . . . . . . . . .

Сваю развінчваю душу.

Адмычка, цвік-пляскач — адвёрткаю,
Ключ развадны, калун, дамкрат,
Стамеска з ручкаю кароткаю —
Ў душу не ўлезеш без прылад.

Дэталі ў ёй іржой абляпаны,
Мне гэты бруд не па нутру.
Я салідолам змажу клапаны,
Шчыткі суконкаю пратру.

Абдзьмухну ўсе галюцынацыі,
Бо выдавецкі брацъ мне старт;
З усіх бакоў як след абмацаю
І перыкард, і міякард.

І заблішчыць душа як новая!
Як пасля чэрвеньскіх дажджоў.
Цяпер знайду такія словы я,
Што жах агорне чытачоў.

# ЗАВУЧ І КАЗЁЛ

*Якуб Ермаловіч*

Завуч дзесяцігодкі, звеку тутэйшы Парамон Сільвестравіч, пругкі, учэпісты, жылісты і вынослівы працавень, усім быў харош. Твар ён меў ясны, празрысты, высакародны і адухоўлены. Адзенне, абутак, падпяразку і галаўны ўбор заўсёды трымаў у належным парадку. Ні касцюм, ні кашуля, ні гальштук, ні магерка ніколі ў яго не былі бруднымі. У школу абуваў хромавыя боты, а ля двара шломаў у тэпцях на босую нагу, у зношаных кірзачах, дзедавых атопках або пахлапнях. Ростам, паставай, хадою ён быў хоць куды, ■ людзьмі абыходзіўся тактоўна, памяркоўна, разумна і разважліва. Можкаў працаваць удзень, уначы, ранкам і ўвечары. У ежу ўжываў мяса, шчаўе, рэдзьку і паджалеўшую бульбу.

Свае ўрокі Парамон Сільвестравіч праводзіў змястоўна, таленавіта, цікава і на высокім узроўні. Вучняў не лаяў, не палохаў, не папярэджваў, не караў. Штодзённа ўразнабой наведваў урокі белмовы, русмовы, фізкультуры і спеваў. Падпісваўся на газеты, часопісы, альманахі і бюлетэні.

Любіў завуч лясы, палі, рэкі і лугі. На прысядзібным участку сеяў проса, віку, грэчку і каноплі. На градах у яго буялі боб, гарох, мак і рэпа. У садзе раслі яблыні, грушы, слівы і вішні, а ў палісадніку заўсёды красавалі астры, півоні, гладыёлусы і хрызантэмы. Яму быў прыемны пах лебяды, канюшыны, піжмы і ніцай лазы. Дровы рыхтаваў дубовыя, крушынавыя і ядлоўцавыя.

З жывёлы завучу даспадобы было markдобы было featuredрознае рагаццё — быкі, бараны, зубры і козы. У гаспадарцы ён трымаў карову, барана і казла.

Жонка Парамона Сільвестравіча была высокая, тонкая, белавалосая і светлавокая. Хадзіла яна галаногая, галарукая, галашыяя і напаўгалагрудая. Часам жонка нязлосна бурчала, для якога разурства трымаць гэта рагатае стварэнне, хапіла б адной каровы. Але гаспадар строга, унушальна, востра і доказна тлумачыў, што не яе ганчуркіна справа ўмешвацца ў мужчынскія меркаванні вышэйшага плана. І дзеля важкасці дадаваў:

— Неразбірака ты!

Казёл усюды хадзіў за ім уступня і кожны ранак праводзіў да школы, а пасля паважна ішоў пасвіцца на выган.

У той панядзелак Парамону Сільвестравічу па дарозе ў школу нечага не ставала, нібы гняло адчуванне ўласнай недасканаласці. Над ім кружылася чарада сівалезых нехлямяжых варон і вёрткіх крыклівых галак, садзячыся на бярозы, сосны, елкі і ліпы. Казёл неяк невыразна мэкнуў, зняверліва глянуў і наўгрунь пакіраваў назад, нібы яму папала пад хвост крапівіна.

Вярнуўшыся дамоў, завуч зразумеў прычыну стоенай трывогі. Выявілася, казёл пайшоў не на выган, а завярнуў дахаты. Там ён праз адчыненыя дзверы зайшоў на кухню, скінуў міску, талерку, гладыш і макотру, а таксама разбіў варэнне вішнёвае, малінавае, слівовае і брусЕнічнае.

— Што рабіць? — думкі Парамона Сільвестравіча рынуліся ўперад смела, настойліва, ладна і згуртавана.

Зарэзаць, нягодніка!

Рашуча, упэўнена, цвёрда і пераканана Парамон Сільвестравіч адшукаў брусок, асялок, рашпіль і мянташку і пачаў вастрыць нож.

# КРЫНІЦА НАТХНЕННЯ

## *Васіль Жуковіч*

Хай ляжа мне на сцежку, лубін,
тваё спакойнае святло.

Вунь сонца топчацца над гаем,
Сягае промнямі ў душу.
Пішу я вершы і складаю,
Затым складаю і пішу.

Гарошак звоніць мне стазыка,
Уладна кліча спеў дарог.
Мяне хвалюе ў полі віка,
А на градзе — густы гарох.

Свірэпа погляд мой спыняе,
Палоніць бобу першацвет.
Мяне на верш пырэй натхняе,
Асот натхняе на санет.

Ды лубін больш нясе натхнення,—
Не на гадзіну, а на год,
Бо ў вузляках яго карэння
У глебу ўносіцца азот.

# ЯК ЖА ЗЛАВІЦЬ?

## *Хведар Жычка*

Лянiва буду ў хмарнай золі
Шукаць ружовага каня.

Забуду ўсё — пунцовы ветразь,
Ялбот, пасаджаны на мель,
Марскім прасоленыя ветрам
Ван-трапы, ванты і гафель.

Па сон-траве, па кменным шчасці
Пайду, прачнуўшыся да дня,
Сваёй каханцы ў белым плацці
Злаўлю блакітнага каня.

Ён станам статны, крупам моцны,
А грыва пеніць, бы ў агні.
Яшчэ ні Ставер, ні Наўроцкі
Не гарцаваў на тым кані.

Там, дзе зарніцы цемру ліжуць,
Дзе водар мяты не прымгне,
Між конематак масці рыжай
Ён ходзіць вольна ў табуне,

Каля яго траццячка сарнай
Трымціць у страсці незямной...
— Кось-кось! —
А конь зласліва сарпне
І знікне ў цемені начной.

Адно кабыла дзядзькі Яна,
За росным стоячы кустом,
Мне па знаёмству ў знак пашаны
Махне спагадліва хвастом.

# НА ПАЭТЫЧНЫМ АГАРОДЗЕ

*Сяргей Законнікаў*

Цяжкіх пладоў
вячэрні одум
Плыве нябачным туманом,
Прывабны дух
ляных гародаў
Сагрэт апошнім прамянём.

Чмялёў няспешныя чароды,
Ляная квецень, млявы пах,—
Мне зразумелы дух гарода,
Якраз як рыфма і стапа.

Я разумею ўсё патроху —
Вячэрні одум агуркоў,
Развагу хрумсткага гароху,
Маўчанне сціплых буракоў.

На агароднай глебе тлустай
Буяе мак вышэйшых проб,
Расце задумліва капуста,
Да сонца цягнецца укроп.

Тут гарбузам разгон для росту,
Тут бачыш нават цераз плот
Фасолі вытанчаны роздум
І часнаковых дум узлёт.

На агародзе — больш нідзе! — я
Сягаю ў марах аж да зор,
Калі гляджу, як без надзеі
Агністы млее памідор.

# АПОВЕСЦЬ ПРА ПОМНІК

*Аляксей Зарыцкі*

Настроіў ліру я і заспяваць гатоў
Пра бабкі, маслякі, апенькі,
гаварушкі.
Ды ўспомніў раптам:
мне ж не да грыбоў,—
Да сябра-скульптара спяшаюся узрушаны.
Прыбег, гляджу. Дапраўды, гэта — я.
І рыхтачкі пабраў,— а божа ж любы.
Фігура ўся мая!
І выпраўка мая,
Чупрына, рот, і нос, і нават губы.
Я поглядам да мармуру прынік,
У захапленні аглядаючы скульптуру.
Тры метры шырыні,
Пяць метраў вышыні!
Вось гэта дык размах,
Вось гэта кубатура!
А скульптар між скульптур паходжвае,
як бог,
Снуе задумы план, каго і як змастачыць.
Дык дзякуй, дружа, ты мне дапамог
У натуральны рост сябе самога ўбачыць.

# САНЕТ № 101

## *Алесь Звонак*

Як Дыяген, блукаў я з ліхтаром.

Усё цячэ, змяняецца. Парой
Канцоў не знойдзеш ва ўчарашняй справе.
Бяжыць развагі філасофскі строй
На людзі у смарагдавай аправе.

Праз індэкс руху бачыцца пакрой
Трыумфавальнай дзіўнасці наяве.
Ставуснай хвалі плёскат пад гарой
Прыемней адпачынку на атаве.

Паміж святліста-паэтычных стром,
Як Дыяген, блукаю з ліхтаром,—
Палоннік вечны рыфм зімой і летам.

Ды ў забыцці не трачу думак ніць,
Прыемна іх чаканны лад адліць
У форму філіграннага санета.

# НЕ ЕДЗЬ ПАРАЖНЯКОМ

*Васіль Зуёнак*

Дні —
колавыя спіцы,
А час —
агонь-рысак.
Стрымай,
стрымай,
вазнічы,
Фурманку-паражняк...

Уперад —
каб са свістам,
Каб млеў здзіўлёны свет...
Стаеннікаў агністых
Заклаў у драндулет.

Дарогай —
вельмі кружна:
Сем вёрст уздоўж ракі.
Бярыце ж, коні, дружна,—
Кірую напрасткі.

Разгон —
як вокам змерыць,
Прастор — няма граніц.
А час —
эпохі, эры,
Вякі —
мільганне спіц.
І —
кінула калёсы:
Штуршок,
рывок,
уд-дар!..

У крэндзелі —
атосы,
А шворан —
аж да хмар.
Дзве восі —
ўшчэнт нагладка,
Ад ручак —
хоць бы знак...
Вось бачыце, нашчадкі,
Што значыць паражняк.

## НА ВЯРШЫНІ ЛІТАРАТУРНЫХ ПРАЦЭСАЎ

*Васіль Івашын*

Літаратурныя працэсы не развіваюцца самі па сабе.

І гэта, безумоўна, правільна.

Для пацвярджэння нашай тэорыі мы паставілі семнаццаць пытанняў, і іх будзе дастаткова, каб асвятліць заканамернасці ўсіх развіццяў.

Дык чаму ж літаратурны працэс не развіваецца сам па сабе? Ці можа ён пайсці ў адваротным кірунку? Ці можа адхіліцца ўправа або пахіснуцца ўлева?..

Нашы прыведзеныя і непрыведзеныя пытанні азначаюць, па-першае, правільнасць высунутых намі праблем, па-другое, своечасовасць і надзённасць іх высоўвання і, нарэшце, па-трэцяе, наша непераадольнае жаданне іх канкрэтызаваць і дэталізаваць, так сказаць, на ўзроўні дасягнутых намі вяршынь.

Дык ці маглі мы не паставіць пастаўленыя пытанні? Не, не маглі.

І гэта адпавядае сапраўднасці.

Паглядзіце, з якой сілай, з якой глыбінёй, з якой пранікнёнасцю неабходна глядзець на поступ усёй літаратуры, каб убачыць тое, што хаваецца пад вокладкай рамана, за старонкамі байкі, каля радкоў эпіграмы, паміж літарамі прыпеўкі. Вельмі паказальна, што ўбачыць усё гэта ўдалося ўпершыню менавіта нам. І справа не толькі ў тым, які пункт гледжання абралі мы для назірання.

Удумайцеся ў нашы меркаванні, прыслухайцеся да нашых разважанняў, учытайцеся ў нашы даследаванні — і вы адразу, у той жа момант зразумееце, што недаацэньваць нашы вывады было недаравальным заблуджэннем.

Які вострыя, які надзённы, які арыгінальны матэрыял прыцягнулі мы!

А хіба не мы высунулі новую канцэпцыю літаратурнага працэсу? Хіба не мы далі поўны і вычарпальны адказ на пастаўленыя намі ж пытанні? І таму было б зусім няправільна, зусім недарэчна, зусім бяздоказна недаацэньваць нашай агромністай, нашай каласальнай, нашай грандыёзнай ролі ў высвятленні і асвятленні ўсіх катэгорый літаратуразнаўчай навукі.

Таму мы не згодны, мы пярэчым, мы, у рэшце рэшт, пратэстуем супраць агульнага даследавання літаратурных з'яў. Мы катэгарычна сцвярджаем, што напішам аб усім самі і не дазволім займацца гэтым іншым.

І гэта сапраўды так!..

# ПАКЛІЧ

*Вольга Іпатава*

Помніш? За рукі ўзяўшыся, мы ішлі
Яшчэ ў нейкім далёкім стагоддзі.
. . . . . . . . . . . . . . .
Я табе сустракаюся ў кожным новым
стагоддзі.

Міналі стагоддзі, праходзілі эры,
Мяняўся пакутліва воблік Зямлі.
А мы, мой каханы, праз зольную шэрань
Адно да другога дайсці не маглі.

З кім сёння ты бавіш свой час мне на гора?
Ці ты з Аэлітай страчаешся зноў?
Ці мо з пітэкантрапкай спіш у пячоры?
Ці з неандэрталкаю круціш любоў?

Трывога пячэцца, няма паратунку,
Твой воблік напевам гучыць у душы.
Дарую абдымкі, усе пацалункі,
Ты толькі ласкавае слова скажы.

Пралеглі між намі эпохі і мілі,
Штоверанку туманяцца вочы слязой...
Ты клікні — і я хоць на міг ці на хвілю,
Але прыбягу да цябе ў кайназой.

# СІНЕЧА ЗІМОВЫХ ПЯЛЁСТКАЎ

*Віктар Каваленка*

Наіўна і несур'ёзна было б даказваць, што Хвэлька Пяшчотны, галоўны герой эпапеі «Пыльным мяшком па сонцы!», чалавек абсалютна ідэальны. І тым не менш унутраны пафас героя і кола яго інтарэсаў дазваляюць сцвярджаць адваротнае.

Хай сабе ён злодзей, нахабнік і забойца, хай насільнік і хлус. Хай сабе так. Не будзем спрачацца. Але ці ўлічылі мы ўсе аб'ектыўныя і суб'ектыўныя зрухі душы, пры якіх наш герой мог бы стаць сумленным чалавекам. Не, і яшчэ раз не. Вось яскравы прыклад. Хвэлька ідзе красці. Ідзе, заўважце, цёмнай ноччу. А ці мог ён пайсці днём? Так, скажам мы, і яшчэ раз так. Значыцца, сумленне мучыць гэтага чалавека, і ён баіцца пільнага позірку чужых вачэй. У цемры ж такі позірк бадай непрыкметны. У рэшце рэшт, што такое «ўкраў»? Гэта праблема вечная, як вечнае само жыццё. Вунь Праметэй у свой час таксама ўкраў. Але ж ніхто не судзіць яго за гэта. Наадварот! Потым, хочам запытацца мы, куды глядзела міліцыя. Гэта ж яе прамы абавязак папярэджваць злачынствы.

А хто з нас даследаваў унутраныя якасці Хвэлькі Пяшчотнага? Можа, ён удзень і ўночы раскайваецца над зробленым, і толькі спадчынная гордасць не дазваляе яму сказаць пра гэта ўголас.

Дык не будзем няшчырымі, хочацца ўсклікнуць нам, і прасочым увесь жыццёвы Хвэлькаў шлях. А паглядзець ёсць на што. Ужо ў трохгадовым узросце ён умеў перамагчы прыватнаўласніцкія звычкі і шчыра падзяліўся цукеркай са

сваёю стрыечнай суседкай. А яшчэ праз год, заўважце: толькі праз год, тройчы падаваў дзеду ваду на печ цэлымі кубкамі.

Таму мы катэгарычна асмельваемся сцвярджаць: не што іншае, а менавіта жыццёвыя абставіны, паглынуўшы дыялектыку станаўлення, штурхнулі Хвэльку на рад злачынстваў.

Сапраўды! Колькі разоў наш герой з дзіцячых год бачыў, як бацька калоў вепрукоў, дзед рэзаў авечак, а маці адным узмахам не вельмі гострай сякеры пазбаўляла галоў курэй і пеўняў. Не дзіва, што, стаўшы дарослым, Хвэлька кінуўся з аглаблёй на чалавека. Ва ўзросце шасці год ён ужо прасачыў, як Цупрукоў Ладымер ледзь не ўсю ноч прытуляў ля веснічак Саўкаву Тэклю. Хіба не адсюль ідзе карэнне яго насільніцтва? Так, адкажам мы і яшчэ раз пацвердзім — так.

Сапраўды гуманістычнае гучанне набывае сцэна, калі Хвэлька з яўна непрытворным шкадаваннем дастае з украдзенага кашалька пакамечаныя рублёўкі. Той-сёй гатовы сцвярджаць, быццам Хвэлька пакутуе ад таго, што ў кашальку не аказалася соцень. Але гэта, мякка кажучы, старамодны погляд і адвольнае абыходжанне з фактамі. Хвэльку трывожаць і хвалююць канкрэтныя непасрэдныя ўспрыманні дзіцячых год: такі ж самы кашалёк быў у яго бабулькі. Дык дзякуй яму за ўсё!

І хай сабе Хвэлька не прызнаецца ў дрэнных учынках. У прынцыпе ён можа прызнацца. А гэта што-небудзь ды значыць.

Такім чынам вобраз Хвэлькі Пяшчотнага выходзіць далёка за рамкі нашых уяўленняў. Добра гэта ці дрэнна? Не станем хлусіць сабе і ашукваць саміх сябе: гэта і добра і дрэнна.

— Дык ці варта яго судзіць? — спытаюцца некаторыя.

Будзем шчырымі: пакуль што мы не бачым адказу. Але, даследаваўшы з усёй глыбінёй і адказнасцю рэмаркаўска-кафкаўскія дашкольныя сачыненні, станоўча-адмоўны адказ на гэта праблемнае пытанне мы несумненна знойдзем.

## ПАПАЎСЯ

*Павел Кавалёў*

Падзеі развіваліся такім парадкам. Участковы ўпаўнаважаны Архіп Жалезабетонны да самага світанку не спаў. Прычынай была не бяссонніца, а, наадварот, паведамленне першакласнікаў Стасіка Пільнага і Ясіка Уважлівага аб тым, што яны бачылі, ідучы са школы.

А бачылі яны вось што. Каля хмызнячку, што па левы бок ад дарогі, пасвіліся авечкі. Некалькі з іх зайшло ў крайнія кусцікі. І раптам увесь статак кінуўся ад хмызнячку ў поле. Напалохаць іх, безумоўна, мог толькі шпіён, які, напэўна, хацеў злавіць авечку, зарэзаць і засмажыць.

Усю ноч Жалезабетонны строіў планы, як злавіць шпіёна.

Ужо зусім развідняла. Вось-вось пакажацца сонца. Дзесяткі планаў вярцеліся ў разгарачанай Архіпавай галаве.

Раптам пачуўся нясмелы стук у дзверы. Архіп як сядзеў, у споднім кашулі, портках, босы, пайшоў у сенцы і адкінуў кручок. Крокі за тры ад

дзвярэй стаяў змарнелы, аброслы шчэццю чалавек, трымаючы рукі ўгору і спалохана, запалымі вачыма гледзячы на Жалезабетоннага.

— Я... я... ш-ш-піён,— дрыжачым голасам прагаварыў незнаёмы.— Я зразумеў, што мне ад вас не ўцячы, калі ўбачыў, што праз цэлую ноч у вашай хаце свеціцца акно... Я здаюся добраахвотна, на вашу літасць. Запражыце фурманку, я пакажу, дзе схавана мая зброя.

Архіп паклікаў жонку. З яе дапамогай моцна звязаў шпіёна і, наказаўшы ёй не спускаць з чужынца вачэй, пабег па фурманку.

## ПОЎНАЯ ГАТОЎНАСЦЬ

*Міхась Калачынскі*

«Пражыгулілі» пад сонцам
З форсам.
. . . . . . . . . . . . .
Першы хтось нястрымна
зацымбаліў.

Я жыгулюю вобак з часам,
І, прэч адкінуўшы журбу,
Я слаўлю выкасы, папасы
І пульхнай глебы харашбу.

Мне прыкры той, хто хоча ўкрыцца,
Хто сцяўся ў суцемку, як крот;
Я ганю брыцу і макрыцу,
Пырэц, свірэпу і асот.

Я ганю незнань, поседзь, прыціш,
Вітаю помкліў у хадзе...
Аззянасць дум, калі ж ты прыйдзеш
І наталь здзёйснаў прывядзеш?

Агністасць дзей мяне палоніць,
І я гатовы дзень у дзень
Цымбаліць, гусліць і гармоніць,
Баяніць, флейціць і дудзець!

## БУЛЬБА

*Іван Калеснік*

Колькі, бульба, абудзіла
Успамінаў у душы!

Знаю, ў кожнага нямала
З бульбай звязана прыгод.
У жыццё яна трывала
Увайшла з дзіцячых год.

Натварыўшы шкоды ў хаце,
Я спагады не чакаў:
Ад разгневанае маці
Па бульбоўніку ўцякаў.

Беглі строем зімы, леты,
Згодна, ладна, крок у крок.
На бульбянішчы Альжбету
Пакахаў я незнарок.

А сягоння як ніколі
Люба мне успамінаць,

Як было прыемна ў полі
Бульбу з Магдаю капаць.

Капаў дождж за кропляй кропля,
Шышкі падалі ў бары...
Эх ты, бульба — сорт картопля,
Тры паўнюткія вядры!..

## НА АЧЫСТКУ ЛЕСУ

*Леанід Калодзежны*

Ціціхін Апанас нехаця ўстаў, хапатком апаласнуў твар, шырока зяхнуў і прыладзіўся ўскрай стала каля едзіва, нібы не хочучы, пачаў сёрбаць круглай ліповай размаляванай лыжкай учарашні халодны бурачнік, запраўлены буйнымі крышанамі цыбулі, лапкамі кропу, казытлівым хрэнам, а яшчэ больш пазаўчорашняй ладна-такі падкіслай смятанай, затым хлібнуў разы два астылай і немаведама нашто перасоленай забялянкі і ўзяўся за цецерукова мяса, якое гарэніла асінай, аддавала бярозай і ялчыла хвояй, умяў крыло, другое, цюмрыў — нос хадзіў упрысядкі, падумаўшы, разламаў падсмажаны сцягняк, хапаў папоўніцы, услед умянціў другі, акурат іх не было на талерцы, расправіўся з шыйкай і спінкай, абцмактаў усе костачкі і нарэшце запіў сянаданак падсалоджаным грушавым адварам.

Ёхвачкін Трахім глянуў на жончыны засукраныя нерасчасаныя кудзеркі валасоў, падвязаны замусоленым паяском сіні непрасаваны андарак

па самыя пяты, натапыраную кофтачку, адно крысо якой апусцілася ўніз, а другое было падцягнута кверху, звярнуў увагу на шыракаватыя насупленыя бровы, з-пад якіх неспакоем зіркалі заснаваныя сумам вочы, паасобку і разам выказваючы незадаволенасць яго раннім адыходам і робячы выраз твару зласнаватым, адзначыў капрызліва падцягнутыя пульхныя губы і зрабіў вывад, што яна надзьмулася як мыш на крупы, быццам яе хто супраць шчэцця пагладзіў, і ўсім сваім выглядам давала ад варот паварот, лічачы, што ён сабраўся сабакам сена касіць, а яна не прыбрала да рук і цяпер сноўдалася, нібы пяты вугал шукала.

Нявестухнін Сідар, чырвоны, хоць прыкурвай, тэпаў глыжавата-бугрыстай, з капытавінамі, парэзанай глыбокімі няўдаўненымі каляінамі дарогай, якая віхляла туды-сюды, палахлівым зайцам выскоквала на прагаліны, змяюкай прапаўзала засланыя аксамітам мурагу, хвашчастымі жоўтымі густымі — вуж не праплішчыцца — раманáмі, вішнёвай, з гаркаватай млявасцю смолкай лугавіны, праставала ў сыраватае, аплеценае калючай ажынай кучмацістае кустоўе, збрадлівай казой нізала парослы бярэзнікам пагорак, памаўзлівым катом скакала на спехам слануюз тапорніка гаць, кіравала па куп'істай, агалошанай крыкам кнігавак балацявіне, ырала ў цемнаваты лясок, у якім ён заблудзіўся малечай, пагнаўшыся за шматкаляровай мятлухай, і застаўся начаваць пад арэхавым кустом, дзе ўсю ноч дрыжаў ад незразумелых таемных гукаў, а на ранку звёў вочы і прачнуўся адурманены пахам нечапанай травы, атлумлены несціханым гудам пчол і чмялёў.

Калі Макарыхін Сымон сабраўся ў дарогу, калючае, быццам вожык, сонца, пырснула сляпучы-

мі промнямі, бо выглядала не краднем, а зіхацела адкрыта, не тоячыся, аднак задухі не насылала, таму што з цянькоў, дзе танюсенька нылі неўтаймоўныя камары-назолы і ў расянай золачы трымаліся рэшткі мройнасці, пастуджвала прыхаваным на ўсякі выпадак неразвеяным ад ночы халадком, а ўверсе, спаміж цянлівай лістоты пагульвалі жывыя, падвяселеныя свежачкі, варушачы старожкую астоеную ціш; і аблашчаныя сонечнымі зіркамі, задаволеныя жыццём, цінькалі, свісталі крапіўніцы, сініцы, пліскі, усхваляючы наступленне пагоднага дзянька, абзываўся на не зусім зразумелай мове ўдод, некаму старанна лічыла гады зязюля і задзірыста буркаваў вяхір.

І само сабой здзеялася, што Апанас, Трахім, Сідар і Сымон у адначассе падышлі да выпетранага ламачча, храбусткога шыгалля, глыжаватага пянёўніку, жудлівага сухастою, цубкіх камлюкоў, трухлявых калод, змачаленых, нібы пажаваных карчаг, што чорт на воз не ўскіне, ды настрыбуленага сушняку, каб прыкласці свае агульныя сілы да высакароднай справы ачысткі лесу.

## НЕПАКОЙ

*Казімір Камейша*

> Мы — свінапасы з табою.
> А што нам, сядзі ды вартуй.

Калісь на ўсю акругу
Я быў пастух, што струк.
І быў мне лепшым другам
Шчаціністы парсюк.

Бывала, круціць лычам,
Да рук бяжыць здалёк,
Калі яго паклічаш:
— Дзюлёк-дзюлёк-дзюлёк!

Даўно я з'ехаў з вёскі.
Не будзь, чытач мой, строг:
Чуваць мне адгалоскі
Тых колішніх «рох-рох».

У Мінску жыць прыемней,
Тут розных шмат прыгод,
Ды востра не стае мне
Сяброў мінулых год.

Калі ў кубельцы сала
Бяру, дрыжыць рука:
Здаецца, той кавалак
З рабога парсюка.

## Я ЦІ НЕ Я?

*Анатоль Канапелька*

Я пазнаю сябе
ў аблоках,
у кроплях радасных дажджу.
Я пазнаю сябе
па кроках,
па сцежках тых,
дзе я хаджу!

Перад усім шаноўным людам
высокай праўды не таю:
я пазнаю сябе усюды,
ў любой драбніцы пазнаю.

Я пазнаю сябе ў пупышках,
у пазалеташніх лаўжах,
у падзяўбаных дзятлам шышках,
ва ўсіх арэхах-спарышах;

я пазнаю сябе ў тумане,
у мяккай восеньскай імжы;
на летняй сонечнай паляне,
на гразкай сцежцы, на шашы;

у дрыгатлівасці асінак,
у незгінальнасці дубкоў,
у ціхай грэшнасці ялінак,
у мужнай святасці клянкоў;

я пазнаю сябе у першых
вясновых песнях салаўя...
Але ў сваіх, прабачце, вершах
пазнаць сябе не здолеў я!..

## ДУМКІ Ў ДАРОЗЕ

*Аркадзь Кандрусевіч*

Імчыць жыццё, подбежкі шлапоча ў шуме і гамане, аж дух зацінае. Пра яго, слухай сюды, добра думаецца ў дарозе. Крок за крокам джвогаеш ботамі, усё дазваннечка заўважаеш. Панабачышся рознага і тады розумам сягаеш уздагон сівым вякам ці ў паслязаўтрашні тыдзень заглядваеш наперад. У адзін ланцужок выстройваюцца выпадковасці і заканамернасці. А ты па іх розу-

мам, ёлкі-маталкі, думкаю! Да ўсяго хочацца даўмецца, усё да адненькай праявы перабраць.

Джвог-джвог. Вунь сядзіць пень. От бо гужыпастронкі! Калі я штыльгаў пазалетась, ён быў высокай разложыстай ліпай. Вясной яна зваблівa квітнела-зелянела густой засенню маладой лістоты, гойдала вераб'ёў. Вер — не вер, а мог на яе апускацца сам бусел. І пэўна ж, у некага былі звязаны з ліпай сардэчныя ўспаміны. Іба пад ёй сядзелі ён і яна, гаварылі пра каханне і, бясспрэчна, цалаваліся. Хоць зусім магчыма, яна нішпорыла носам.

На зіму ліпа распраналася, і яе галінкі звінелі пад подыхам настылага паветра.

А потым прыйшлі, ядрона мыш, людзі, спілавалі дрэва, спалілі ў печы. І расплылася ліпа сіняватым дымком па ўсяму свету, попелам пайшла ў зямлю.

Вось так, атосы-калёсы, жытка цячэ. Розныя нагоды сустракаюцца на шляху. Ляжыць, бач, пад нагамі камень. Чаму ён ляжыць тут, а не ў іншым месцы? Хто яго паклаў-палажыў? Аб яго можна нагу збіць, чаравік сапсаваць. І не прыбярэ ніхто. Эх, людзі-чалавекі!

А тут спакон вякоў не было мастка праз рачулку. Ехалі ўброд. Тапіла было. Грузлі коні, высільваліся. Вазы ламаліся. А сабраўся гурт, падвезлі палячын, каладзяк розных, крэкатней дубовых. Пабудавалі масток, і ніхто не едзе ўброд. Паспрабуй тут падзялі-памнож!

А гэта ж, бадай яго, заяц мільгануў праз дарогу. Бач ты, порсткі які. От пустапас, таека таго! А мог сігнуць гэтаксама, і пэўна-такі сігаў, сам воўк. Бо зверыны розна на зямлі да чмуры. Дзікі, гэтыя, як іх, алені. Па зямлі гойсаюць. А вавёрка — тая па дрэвах лазіць. Ментузы ўсялякія

ды іншыя плоткі да рачнога жыцця прызвычаіліся. Крот у зямлю закапаўся, кузуркі з кветкі на кветку пералятаюць. Матылёк-аднадзёнка ўсяго колькі гадзін свет бачыць, а іншая чарапаха тры вякі адбамберыць і не шманае. Гэтак вось яно, ручкі-драбіны.

Ці вазьмі, трасцы-матары, гарачыня паліла, спякота ў цень заганяла. Не было чым дыхаць. Потым хмары напаўзлі, маланка бліснула, пярун ударыў. Дождж лінуў як з вядра, паветрайка прамыў. Не што іншае, як кругазварот вады ў прыродзе адбыўся.

Іду я, рубанкі-стамескі, радуюся, усімі лялётамі песню спяваю. Бо хто забароніць спяваць! А думкі нямазнаць адкуль наплываюць самаволяй, не адкараскацца. Спяваць перашкаджаюць.

Пытанні наважыста грувасцяцца. Хто іх развяжа і калі?

Удыхаю паднасосенае азонам паветра. Эх, утулкі-загваздкі,— не надыхацца!

Джвог-джвог...

## ГУЗІК

*Аляксандр Капусцін*

Маёр міліцыі Сымон Праніклівы вельмі ганарыўся, што яму даверылі справу аб садзе Парамона Апенькі. Тыдзень таму назад задыханы Парамон прыбег у аддзел і нарабіў вэрхалу, што яго абрабавалі. Ён крычаў, быццам невядома што дзеецца на свеце, а міліцыя нічога не глядзіць. Яго

ледзь супакоіў сам начальнік. Выявілася, што ў Апенькі абтрэслі некалькі яблынь.

Начальнік склікаў усіх супрацоўнікаў і сказаў палымяную прамову аб тым, што ў іхнім раёне ўжо даўно не было аніякіх здарэнняў, а таму гэта злачынства неабходна як мага хутчэй раскрыць. Іначай ганьба чорнай плямай ляжа на іх высакародныя мундзіры. Потым ён уважліва абвёў вачыма падначаленых і спыніў позірк на Праніклівым:

— Таварыш маёр, вам асабіста даручаю расследаванне!

— Ёсць! — чотка прамовіў Праніклівы і запытаўся: — Дазвольце ісці?

— Ідзіце! — кіўнуў начальнік.

Праніклівы пахапліва спланаваў: агледзець месца злачынства — траву, плот, падыходы, сабраць паказанні тых, што бачылі злачынства, што маглі бачыць, і нават тых, што не бачылі, а толькі здагадваліся.

— Вывесці злодзея на чыстую ваду! Выкрыць хітрыкі-мітрыкі без сентыментальнага далікатнічання, цвёрда і непахісна! — палкія разважанні ўслугоўвалі маёру.

Вось ужо каторы раз Праніклівы ходка дае кругаля вакол Парамонавага саду, аглядае тоўстыя слупы, новыя смаловыя дошкі з калючым дротам паверсе. Нідзе ніякага следу. Тады ён мабілізаваў інтуіцыю і эмоцыі, на поўную катушку раскруціў інтэлект. Нішто не дапамагала. Сад суцішыўся ў задумнай нерухомасці і нема маўчаў. Толькі мякка шпокалі ў ім спелыя яблыкі.

Доўжыліся трывожныя дні. Праніклівага смактала прыкрасць. Ён перастаў есці, аднаго разу нават забыў пабрыцца, хадзіў як аглушаны. Няўзгодненасць з самім сабою рупіла загадкавай супярэчнасцю. Няпэўнасць тарнавала душу. Не было часу

заняцца сведкамі. Але маёр не дазваляў сабе размагнічіцца і, абыходзячы ў трыццаць чацвёрты раз сад, раптам на ўтравянелым прыплатку ўбачыў блішчасты гузік. Звычайны, металічны, на моцнай дужцы. Уважліва агледзеў зямлю, плот. Слядоў нідзе не значылася, быццам злачынца пералятаў па паветры. Датычнасць гаспадара гузіка да злачынства не выклікала сумненняў.

— Цяперака мы возьмем быка за рог! — сам сабе радаваўся Сымон.— Ён можа быць той нітачкай,— ухмыльнуўся: гузік — нітачкай,— якая прывядзе да выкрыцця злачынцы.— І адразу падумалася: — Які вялікі гонар у ягонай працы!

Новая акалічнасць з усемагутным гузікам наддала ахвоты. Ён асцярожна разаслаў насоўку, былінкай ускаціў на яе гузік, каб не сцерліся адбіткі пальцаў. Загарнуў хусцінку і намерыўся несці на экспертызу. Але ў апошні момант разважанні далі асечку: не было фрэнча, ад якога гузік адарваўся. Значыць, эксперту нечага будзе даказваць.

Праз навалач турбот і трывог увайшоў новы неспакой: дзе знайсці фрэнч без гэтага гузіка. Праніклівы адразу вырашыў даведацца, хто ў вёсцы носіць фрэнчы з такімі гузікамі.

У вёсцы ён першым сустрэў дзеда Мялешку.

— Паспрабую пагаварыць з гэтым,— рашыў пра сябе Праніклівы і павітаўся: — Дзень добры, дзядуля.

— Добры дзень, галубок,— адказаў стары і адразу зашамкаў: — Дзівуюся я на цябе, даражэнькі начальнік, што ты цэлы тыдзень шмон робіш ля гэтага саду. Гэта ж якраз тыдзень назад, поцемкам адвёз гіцаль гэты Парамонка некалькі мяшкоў яблык сваёй каханцы. А ты з-за гэтых яблык схуднеў, шчокі запалі, вунь на фрэнчы адарваны гузік няма хвіліны прышыць.

Праніклівы хапянуўся за фрэнч. Там сапраўды аднаго гузіка не ставала. Ён шпарка крутануўся і, забыўшыся развітацца са старым, подбегам пакіраваў у райаддзел.

## АДНА НОЧ

*Віктар Карамазаў*

Падаіўшы карову і працадзіўшы малако, ва ўладзе салодкай трапятлівасці выйшаў я няспешна за калітку, увесь набраклы ядронай сілай.

Ціхая бралася ноч. Не шалёстаў вецер. Зямля дыхала чуйнай вечнасцю. Вялікасна-белы месяц думна цалаваў таямніча-цёплы змрок пад дзяруждкай аблокаў. Неўпрыкмет закарцела цалавацца самому, бо душа знудзілася ў адзіноце. Ударыла ў голаў шалёная кроў. Таму ішоў збалелы ад прагнай надзеі.

І, нібы ўступаючы жаданню, праз цьмянасць хітнулася нейчая ломкая фігура — басанож.

Гэта ішла Луцэя. Адгукнулася згоднай душой на вярэдлівасць маёй нескладухі. Яе прагныя вочы без уздыхання і наракання глядзелі праз мяне. Ва ўладзе духмянай надзеі шагнуў насустрач. Аж не паверыў:

— Ці гэта ты?

— Як бачыш.

Нібы даўно свая, скаланулася ў маіх руках ласкавая і даверлівая. Ціхмана-глыбока тулілася і цупка, бо разумела акрасу маёй мужчынскай натуры.

Сустракаў да гэтага яе двойчы: на грукатлівым

кацеры разам пераязджалі праз раку ды на разгойсаным «газіку» ляснічы падкінуў у раён. І хоць не ведаў, як жыла-кідалася, шчымліва-ціхае трызненне ёю тачылася незагойна. Абудзілася раптоўная даверлівасць да яе вабнай жаноцкасці.

Колькі часу мы слухалі спешліва-суладную таўкатнечу нашых сэрцаў. Прыхапкам жмакала яна ў руках хусцінку. Чулася, як аддана напінаецца яе мякка-прагнае цела.

— Колькі ў цябе дзетак? — спытаў я ў палюбоўнай размове.

— Сямёра. Але дзеля цябе я гатова на ўсё,— без пярэдыху шапталі яе губы.— Да мужыка я болей не вярнуся. Бо з табой адчула ранак апоўначы.

Я хацеў сцяць свае пачуцці, але гэта было звыш майго пажаданку. У безуладдзе душы наплываў казытлівы розваг. Шапаткая летуценнасць азаралася ружовасцю зманлівай невядомасці пра будучую жытоўку. Немінучасць яе святам абнаўлення паланіла мяне ўсяго.

Час імклівіў неўпрыкмець. На ўсходзе ранарасяная світань аберуч задзірала квола-крамяны падолак...

## ІНТЭЛЕКТУАЛЬНАЯ ДАГІСТАРЫЧНАЯ

*Уладзімір Караткевіч*

Чэрап вохры і пэндзаль-вехаць —
Вылівай колькі хочаш тугу...
Прада мной пітэкантрапка нехаця
Палажыла нагу на нагу.

Млявы погляд вачэй яе слівістых
Клікаў-зваў у нязнаную даль,
Калі песні выгыркваў залівіста
Першаптах у вяршалінах пальм.

У грудзях невыказнае, кволае
Штось расло; не хапала слоў.
І глядзець на натуршчыцу голую
Мне хацелася зноў і зноў.

Так сярод супляменнікаў першым я
У дзяўчыне адчуў прыгажосць
І, як прыязні знак, разам з вершамі
Ёй паднёс мазгавую косць.

## ЦУДЫ

*Галіна Каржанеўская*

Мне лепей не хадзіць
На кірмашы,
Дзе прадаюць лазовыя кашы.
. . . . . . . . . . . .

Няма на дарозе тваёй
Тупікоў,
А дрэвы растуць без сукоў.

Нядзеля. Святкую — іду на кірмаш,
Хоць ведаю цвёрда: цябе там нямаш.
Затое на тым гаманкім кірмашы,
Як рыцары, горда пасталі кашы.
Ля цэбра кадоўбчык прыткнуўся, бы ў сне,
З надзеяю дзежка глядзіць на мяне.

Калі я зірнула уверх з-пад рукі,
Убачыла ліпу. На ліпе — сукі.
А я ж уяўляла з дзіцячых гадкоў,
Што дрэвы заўсёды растуць без сукоў.
Тут цудаў — як быццам наслаў чараўнік:
Твой чуб ля дзявок матлянуўся і знік.
І я зразумела: заганна маўчаць.
Пра безліч праяў трэба ў вершах пісаць.

## ПРАЦЭНТЫ КАХАННЯ

*Уладзімір Карпаў*

Самы галоўны з усіх, як эта сказаць, герояў ухвацісты Пiлiп на гэты раз не доўга барабаніў у дзверы. Амаль адразу ляснула зашчапка, і хлопец пераступіў парог. Хруза, як была ў даўгой начной сарочцы, мілавеючы лягла грудзямі на яго левае плячо.

Такая ўвага маладухі палесціла Піліпу і ў той жа час паклала на ягоны твар водсвет збянтэжанасці. Хлопец гадзіну як вылез з цёплай Маўрынай пасцелі і яшчэ помніў, як прагная ў сваіх жаданнях славутая ўдава, укленчыўшы, абхапіла яго ногі, прыпала да іх жыватом, пачала натужна дыхаць. Тады ён быў асалапеў ад раптоўнасці, уразумеўшы, што Маўра думае забраніраваць жаніха і, нібы каралева-спакусніца, прывучае к дому.

Цяпер Піліпам авалодала самавітая задумка пра ўсё расказаць Хрузе. Рот ужо расчыніўся, каб вымавіць першае «даруй», але ў самы апошні міг за сэрца ўшчыкнуў драбнюткі чарвячок:

— Навошта?

— Сапраўды навошта? — мільгнула следам азарэнне. Піліп вызваліўся з плыні сваіх нікчэмных думак. У закарвушках душы пабольшала раданага хвалявання.

— Не буду. Амбец! — хлопец адторгнуў ад сябе Маўру і паправіў на Хрузіным плячы шлейку.— Усё, цю-цю, знікае. Успышкамі страсці трэба карыстацца. А Маўра падношаная, хоць яна і прынесла нямала харошых хвілін.

— Хруза,— голас у Піліпа дрогнуў, і хлопец горача зашаптаў: — Хруза, ты зразумей, я кахаў цябе. Больш я не зраблю ніводнага прагулу і буду берагчы тэхніку. Абяцаю табе стаць ударнікам і выконваць вытворчыя планы на 102,1 працэнта. І яшчэ я абавязваюся ўступіць у Таварыства Чырвонага Крыжа і Паўмесяца.

Хруза згодна маргнула вачамі і адказала:

— Дарагі мой і любы Піліпок. Прадчуваючы тваё прызнанне, я запісалася ў Таварыства паляўнічых і рыбаловаў, а вытворчыя планы абавязваюся выконваць на 103,7 працэнта.

«Добра, што я не сказаў пра Маўру,— падумаў Піліп.— Хруза не будзе хвалявацца і хутчэй пераўвыканае план. Бо каханне каханнем, а на першым месцы павінны быць абавязкі перад грамадствам».

Святло пагасла.

Піліп хапатліва адшукаў губамі пажадлівыя маладзіцыны вусны. Цалаваліся навобмацак доўга, страсна.

Смаката!..

# ВЯРТАННЕ Ў РЭАЛЬНАСЦЬ

## *Аляксей Карпюк*

Сяджу я, тоненькая фарбаваная бландзінка, уся ў творчым парыве. Рука бытта сама выводзіць радок за радком. А думкі-і! Яны апярэджваюць час, вяртаюцца назад і зноў нястрымна імкнуць у заўтра. Перакідваюцца на сябе самую.

Хлопцы заўсёды вытрэшчвалі на мяне вочы. Казалі разбудзіцельныя словы. На іх тварах свяцілася бытта добразычлівасць і пажэнднасць. Але маё сэрца не раздавалася ўшыркі, не ўбірала ўвесь свет, заставалася спакойным і ўраўнаважаным.

А сёння сустрэўся ён. Я адразу зразумела, што гэта той, адзіны, каго я чакала ўсё жыццё. Ён той жа мэнт разбудзіў маё ўяўленне, акунуў у шчаслівыя мары.

Мы бытта разам. Жывём з ім душа ў душу і разумеем адно аднаго з паўслова. Не, з чвэрцьслова, нават падсвядома. Паміж намі ўстанавіўся штохвілінны ўзгоднены кантакт. Не пойдзе ён забіваць казла, бытта іншыя. Не змарнуе часу з сябрам у забягалаўцы.

Я буду з'яўляцца перад ім райскім цудам, абдару яго незямнымі шчадротамі. Тулячыся спрагнёным целам, зраблюся вабліваю сілаю магніта. Заўсёды буду праяўляць вернасць дзікай качкі. Але і ад яго з цвёрдасцю дыямэнта запатрабую вернасці лябендзя. Я прываблю яго с нясмеласцю трусіка і апяку яму сэрца позіркам лані. Вазьму ў палон яго думкі з майстэрствам павука і пеленгаванымі пальцамі буду гладзіць валасы з хітрасцю лісіцы.

Калі ж ён паспрабуе глядзець на суседак, на вуліцы я адвярнуся з ганарлівасцю павы, а ў ква-

тэры накінуся з лютасцю тыгрыцы і буду дапякаць з мсцівасцю асы, пакуль ён не адчуе гаркаты палыну і не выверне перада мною навонак душу, стане бытта іншым, абноўленым.

Сплатай стане ўзаемаразуменне, моманты пастаяннай душэўнай еднасці і спокую. Паміж намі ўзнікне бытта неадольнасць прыцягнення, і я заўсёды пачну трымаць яго ў сваім гравітацыйным полі. З-за неабходнасці душэўнага кантакту буду весці з ім глосныя размовы. Праз які тыдзень пачну чытаць яму «Пушчанскую адысею», зачарую «Данутай» і нарэшце пакажу «Чаго мы варты».

Апрача духоўнай стравы я захаплю яго матэрыяльнай. Буду заўша гатаваць яму бытта паветраныя салаты і іншыя стравы багоў. Стану ім апекавацца, дарую ляніўства. З-за яго буду цярпець велькі нядосып.

Не паскуплюся ні на фрызуры, ні на макіяшы, каб бачыў маю прывабнасць. Дзеля патончання і памаладзэння буду суткамі выстойваць на адной назе. Для замацунку мікраклімату набуду магічны пояс з зубровай шкуры. А перад тым як стаць парадухай, пакладу пад ложак начараваную костку. Яна спразантуе нам сына.

Мы зробімся адно файнае цэлае. Мяне стануць клікаць Ляксеіха...

— Ляксей, холера ясна,— разам з рэзкім жончыным галасам на кухні бразнуў нажыска,— зноў нікуды не дашлешся! У падвале свежую рыбу даюць. А заадно колькі кіль картоплі прынясі. Есці хочаш смачнэго, а парупіцца ніц нічэго!..

Уся слодыч мар і чароўнасць відзэння зніклі. Каб не слухаць дакучлівага верашчання, бяру сетку, пакамечаную траячку і паныла тэпаю ў падвал займаць калейку за свежаю рыбаю...

# БЕГЛІ НОЖКІ

*Уладзімір Карызна*

Ой, чаму такія ножкі
Мне мамка дала,
Што не могуць, каб дарожка
Ад бяды адвяла.
. . . . . . . .
З перапёлкай п'янай
Гавару, як п'яны...

Беглі ножкі той дарожкай,
Дзе мой міленькі хадзіў.
На бягу з-пад левай ножкі
Рыфмы сыпнулі наўздзіў.

Прыпеў:
Нібы стужкі, на прадвесні
Пачынаюць дні даўжэць.
А карызнаўскія песні
Лепей мукаць, а не пець.
Беглі ножкі полем колкім,
Мялі зольную траву.
З перапуду перапёлкі
Скіравалі ў крапіву.

Прыпеў:
Бойкі ветрык лёгка крэсліў
Рабацінкі на вадзе.
А карызнаўскія песні
Нават сп'яну не звядзеш.

## КІРЭЯНЕТ

*Кастусь Кірэенка*

> Сто песень... Сто жывых паданняў...
> . . . . . . . . . . . . . .
> Стой горда, мой каханы верш!

Сто раз па сто — дык дзесяць тысяч.
Сто ў кубе — роўны лік мільён.
Не ўсіхны лёс бясстрашна высеч
З мярэжных спеваў шчодры плён.

Мяне на ўзлёце дзён трывожыць
Уветны рух няспадных зор.
Каму ж яшчэ дано прыўмножыць
Класічны жанравы набор?!

Хай там, дзе наскія акорды
Вядуць санет і трыялет,—
Хай стане ў строй сумліва-горды
Каханы верш — кірэянет!

## ФОРМУЛА БЕЛАГА ВЕРША

*Анатоль Клышка*

Белы верш!.. Не шэры, не ружовы, а — белы! Твае высненыя радкі нібы лучаць святло юнацкай ідыліі, смела прарываючыся за межы прывычных уяўленняў. Даеш ты, белы верш, усведамленне по-

маладзі і летуценішся на старонках нашых часопісаў непасрэднасцю ўражанняў. Уладна ўваходзіш ты, спадкаемца Гамера і Авідзія, у нашы зборнікі, вяртаючы нас да першапачатковых нефальсіфікаваных праўд.

Возьмем навобмацак першы з нашай слабады верш і прыслухаемся да яго змястоўных навацый. Унутраная музыка яго пачатковага радка «Я сёння пяку свой хлеб» вызвоньвае разнастайнасцю шырокага светаадчування. Нездарма ён паўтараецца праз 23 радкі ў крыху змененай форме: «А сёння вось пяку свой хлеб...»

У вершы адкрываюцца новыя рыфмы — рыфмы сэнсу. Уласна рыфма адступіла за межы старонкі, нібы зразумеўшы сваю ўдуху і спалохаўшыся падабраць сугучнае слова. Адсюль вынікае, што гэты твор вышэйшай, арганічнай будовы. Радкі яго разбегліся, галосячы гучна; яны крычаць, и словы ў іх смяюцца, падвойваючыся і патройваючыся.

Залаты люстровак верша — восьмы радок: «Паклічце муляра!». (Заўважце: з клічным знакам.) Думка гэтага радка энергічна пераплёскваецца ў наступны, дзевяты: «Хай разбірае пелюсць печы...» Але не будзем працягваць, верш гаворыць між слоў.

Яшчэ больш жывое прадчуванне вершатворчага маўлення выгучваецца ў трэцім завулку нашай слабады. Няцяжка заўважыць, што аўтар адужаў гэтым завулкам, набыўшы сапраўды інтэлектуальна-эмацыянальнае здароўе. Мы бачым, як не схопленае застылаю формулай выказванне першага радка «У мядзведзя сорак песень» уладна ўваходзіць у другі: «Трыццаць дзевяць з іх пра мёд». Стаўшы поруч, радкі адразу заінтрыгоўваюць: «А пра што саракавая?» І сапраўды, пра што ж

яшчэ спявае касалапы гаспадар лесу, ласуючыся духмяным мядком. Гэтым запытаннем напал радка адразу павялічыўся ў тры і сем адзінаццатых раза.

Вялікая праўда ісцін не прымушае доўга сябе чакаць. Адказ прыходзіць не марудзячы: «Зноў пра той жа самы мёд».

Не ад учора прычыніўся свет да белага верша, і нашай няўдзячнай няпамяццю няможна кратаць сакрэтаў яго цэлага і паасобных частак. Яшчэ лягаюць рыфмы пад нечым старамодным поступам, яшчэ блудзяць знявераныя думы ў лучве гіпердактылік і актаў. Але хіба можна спыніць белы верш нейкім ямбам ці, прашу прабачэння, харэем?

Дык няхай жа пылок белай рыфмы асядае на дзічку алітэрацыйна-асананснага верша, каб праясніць формулу нашай слабады: у глыб думкі, зразумець якую не кожнаму дадзена.

## АЛАДКІ

*Генадзь Кляўко*

Я прыйшоў у той дом,
Дзе гарачыя пахнуць аладкі.

Жаўтым кураняткам нам сонейка ззяе,
Праклюнуўшы ціха шкарлупіну неба.
Цябе я сустрэну чаромхавым маем,—
А больш сустракаць мне нікога не трэба.

Мяне павядзеш ты адразу дахаты
Дарогаю новай,

Густым кветкабоем.
Дасі на сняданак мне пульхных аладак,
Паставіш на закусь жбанок сырадою.

Я, сыты уволю, з застолля палезу
З адною надзеяй
І думкай адною:
Калі дачакаемся квецені бэзу,
Ты мне напячэш тады дранікаў з лоем.

## ВЫНАХОДНІК

*Байка*

*Уладзімір Корбан*

Сусед мой Цішка Байкароў
(Хай будзе ён здароў)
Займаўся вынаходніцтвам сем год.
Праседжваў ночы навылёт.
Глядзіш: то кола зробіць, то стырно.
І вынайшаў — ды не, не зоркалёт,—
Верацяно!

І я часамі так раблю:
З гармат па вераб'ях палю!

## КУДЫ І АДКУЛЬ?

*Валянціна Коўтун*

Смуга кацілася на лавы,
Плыла вячэрняй гаманой.
Аркестрамі старой канавы
Абсягі трызнілі вясной.

Сувой туману ў знак нязгоды
Крадзьком на вішні ападзе.
Крыляюць высненыя годы
Над ломкай рутвіцай надзей.

Пасля сардэчнай патрасухі
Абсяг наструнены сканаў.
Мне ў летуценні люба слухаць
Аркестры спуджаных канаў.

Разводдзе згадак напрадвесні
Суцішкам хіліцца няўзнак.
Нясуць маю густую песню
Нашчадкі ветру на вільчак.

Намітку мройліва рассцеле
Цната пад важкія дары.
Спрадуць з аблок буслы кудзелю,
Каб выткаць посцілку зары.

А я за год душой схацелай
Ніяк адказу не знайду,
Куды пайсці мне ў панядзелак,
Адкуль вярнуцца ў сераду...

## З ВЫШЫНІ

*Яўген Крупенька*

А на елку высокую я ўзбіраўся заўжды.
. . . . . . . . . . . . . . . .
Тое, што ўбачыў з елкі, не пазабуду з гадамі.

Каля лесу-гаю, каля рэчкі мелкай,
Як віхор, імчу я да высокай елкі.
Я на елку лезу колькі моцы-сілы,
Стуль я ўбачу любу, стуль я ўбачу мілу.
Вось узлез на елку, ледзь хапіла змогі.
Бачу з высі: люба мые ў рэчцы ногі,
Трэ іх асакою, хутае спадніцай.
Памутнела ў рэчцы чыстая вадзіца.
А другая люба ў пятніцу, ў нядзелю
Па мне плача-сохне, прадучы кудзелю.
Трэцяя каханка штось на мэце мае:
За вароты выйшла і кагось чакае.
Падкажы мне, елка, падкажы, сястрыца,
З якой любай-мілай лепей ажаніцца,
Дзе знайсці мне шчасце, дзе знайсці мне долю,—
Я тамоў фальклорных начытаўся ўволю.

## ЛЁКСА І СТЭПА

*Анатоль Кудравец*

Калі Лёкса ўзбіўся на шлях, неба мурзалася, але пасля нейкай гадзіны хмары як рассунуліся.

Была субота. За два тыдні Лёкса зніякавеў ду-

шою ў горадзе. Хацелася ў вёску, цягнула зацята, неадольна. Пехам чатыры гадзіны праскочылі як міг, і ён не прыкмеціў, калі апынуўся ля роднай аселіцы.

— Неча гультаяваць,— пачуў Лёкса раптам амаль знаёмы голас. Ля веснічак крайняй хаты стаяла Стэпа і згаладала чыркала чаравіком па зямлі.

— Ідзі дапамажы, чарка будзе.

— А можа, я не хачу? — запытаў як дзеля габдзісь, бо ведаў: зойдзе абавязкова. Дый Стэпа была дзеўка ласістая. Што ні кажы, а тройчы пабывала замужам. Не кожнай гэтак шанцуе. Праўда, мужыкі на другі дзень адразу білі ў хамут. Чаму — нікому невядома. І цяперака па ўсяму відаць было: яна аж пішчыць — зноў замуж хоча.

— Заходзь, заходзь, не пакрыўджу.

Лёкса пераступіў парог. Свежая кроў і вантробы густа ўдарылі па чыхаўцы. На слоне, падкурчыўшыся, ляжаў сярэдні кабан, асмалены і выскаблены, і дакорліва, не мігаючы, таропіўся на Лёксу.

— Стэпа,— вярнуўся ён да гаспадыні,— мо дарэмна калолі? Каму ж гэта прыемна, калі колюць?

— Выдумай,— хмэкнула Стэпа.— Свежаніну ты ж любіш...

Яна аціхла, стаяла, склаўшы рукі на прыполе. Нешта незразумела светлае соладка і тоненька заныла ў грудзях. Ласкавы туман забыцця, нягледзячы на пусты пасля дарогі жывот, прывёў да яснаты цвярозага азарэння: яе можна кахаць... Шчымлівае і размякчанае даўняе памкнула ўсю яго істоту да Стэпы.

...Калі абодва ачомаліся пасля хапатлівай узрушанасці, узялося на панядзелак. Ні забегчы да

старых, ні тым больш разбіраць кабана часу не засталося. Спяшаючыся, узбіўся на шлях. Ішоў як у тумане, не разумеючы, што робіцца з ім. За ўсю дарогу, да самай прахадной, Лёкса не вырашыў, ці заставацца на заводзе, ці вяртацца ў вёску...

## У САНАТОРЫЙКУ

*Аляксей Кулакоўскі*

Любата ў санаторыйках адпачываць. Фондзік выпісвае пуцёвачку па першаму майму слоўку, і, канешне, найлепшую. Асобны пакойчык. Супалатнікаў не выношу.

Зрабіўшы заезд, перш-наперш прапытваю, ці ёсць землячкі. Як правіла, хоць адзін знаходзіцца. Нягучна і спаважна пачынаю роспыткі: ці добра яму вядома мая вёска, як адносіцца да маіх сваякоў, суседзяў. Калі ён чалавек лаяльны і не абражае слых глупствам, частую яго слуцкай бэрай. З чарвячком, вядома, і з зялёнымі прожылкамі. Адразу ж даходліва растлумачваю:

— Фрукта чыстая. Калі чарвячок грызе, і нам можна.

Асцярожна намякаю, каб там-сям падказаў, хто я такі.

У пакойчыку наводжу свае парадачкі. У першы ж дзень з рупным гаспадарскім спяшком прыношу ладны пук лебяды, рассцілаю на падлозе каля правай сцяны — дзеля паху. Падабаецца з дзяцінства. Да левай сценкі накладаю макрыцы. Ад яе заўсёды адчуваецца прыемная вільгаць. Пучок

свірэпы абавязкова стаўлю на стол букецікам. Люблю яе вушкі-лісцікі. Калі трапляецца крапіва, прыношу некалькі сцяблінак на падаконнік. Шмат не прынясеш, пячэцца, халера на яе. Затое выгляд пакойчыка — залюбавацца.

Сядні не люблю. Штодзень вывучаю наваколле. У роспыткі не кідаюся, бронь божа, сам, усё сам. З захапленнем разглядаю дарожкі, кружыняю па сцяжынках. На кожнай каларытная гама слядоў. Па адбітках пазнаю, хто прыйшоў. Вялізная колькасць маленькіх ямачак — гэта з рознагалосым бэканнем беглі на пашу статкам авечкі. Іх слядкі нечым зачароўваюць, выклікаюць захапленне і смутак. Сумнавата, што беглі без мяне, што я следам ■ дратаванкай не тэпаў. Але я пераадольваю сум. Мая літаратурная струнка пачынае шчасна трымцець, а сэрца выспеўвае ад радасці, калі бачу глыбокі след ад раздвоенага капыта. Гэта ішлі каровы з прыпацелымі ад спякоты бакамі і намочанымі мяцёлкамі хвастоў. Каб яны ведалі, што буду я столькі пра іх думаць! Амаль наяву чую прыхрыплы голас пастуха з ляскам пугі і не зусім запіснымі слоўкамі. А вось нераздвоены круглы след: хтосьці праехаў вярхом. На кані ці кабыле — гэтага па слядах бадай не пазнаеш.

Так, прыглядваючыся, за паўдзёнку праходжу цэлую кіламетру. А як тхнуць расістыя выпарынкі! Па адной паветры можна жыць. Спачатку іду ціхам, а пасля спрабую ледзь не бежкам крыху водбач ад сцяжыны. Зняць бы чаравікі ды ступіць колькі крокаў босаму. Але ж сорам.

Пакуль вывучыў сляды, мне і ўрэмя не сцягнулася.

Калі надыходзіць час абеду, увіратна вяртаюся. У сталоўцы ўжо чуваць звонныя гукі посуду. Пынюся. Церану насоўкай лоб і асцярожліва за-

ходжу. Кідаю стрымлівы позірк на саабедніц і непазнавальна перайначваюся. Выбачваю зручны выпадак — да адной:

— Што ў вас у ручцы?

Суседка-ласуня ўхвальна і астажована глядзіць на мяне. Каб далей разагнаць няёмкасць, заводжу гуллівыя, свавольныя росказні. Жанчыны глядзяць сарамліва і азадачана, згодліва пасміхваюцца.

З'еўшы абед, заказваю на заўтра дранікі. Ад суседак стараюся адбыцца агульнымі словамі. Павольна выходжу. Адразу надыходзіць згодлівае разуменне самога сябе. У пакойчыку падлепшваю парадак, нейкі час кволюся ў пасцелі. Замгну на хвілінку і пачынаю сцішана разважаць на агульныя тэмы.

А вечарам прымалоджуся, ускладу бручны касцюм. Выходжу на прагулянку. Пяюць дразды, клапатлівыя і здагадлівыя. Іду пад нябесным ліхтаром паміж какарузы. Без месяца сцежку намацваю нагамі. Слухаю шапаценне дрэў. Падлятае камар, кружыцца вакол мае галавы, нахабнік... Рашуча адмахваюся і тэпаю назад, разважаючы аб карысці санаторыяў.

# ХТО Я?

*Аркадзь Куляшоў*

Існуем мы з табой як выключэнне,
Мая любоў,— як свет і антысвет.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Ніколі мы адной не ходзім сцежкай,
Не дзелім хлеб і дзелім толькі соль.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Мне сніўся сон: ты адляцела ў вечнасць
І зоркай там зрабілася між зор.

Я, мусіць, я, а ты ёсць ты. Даволі!
Мы цукар з'елі; засталася соль.
Чаму ж тады з такім нясцерпным болем
Я адчуваю твой сардэчны боль?

Нашто гадаць, якая антысіла
Цябе з зямлі узнесла да планет,
Калі з тых пор мне горкі і нямілы
Не толькі свет, а нават антысвет.

Мне зорны бляск тугою вочы рэжа.
Агорне сум — няўцям, чаго хачу.
Вось хіба з'ем талерку антыежы
І за табою следам палячу.

Бо я даўно жыву, як выключэнне,
Як водбліск-цень зямнога быція.
Таму падчас грызе мяне сумненне:
Я — гэта я ці, можа, анты-я?

# У ПРАБАЧЛІВЫМ АСВЯТЛЕННІ

*Фёдар Куляшоў*

Нядаўна я вычытаў правільную, на мой погляд, думку, што будаваць жывыя характары — рэч вельмі складаная. Зыходзячы з гэтага пункту гледжання, я асмельваюся сказаць, што кніга нашага шаноўнага калегі Сымона Пярэстага, якога я, без сумнення, вельмі паважаю, выдатная, не, лепш сказаць, велічная з'ява ў нашым пісьменніцкім жыцці. Няхай сабе я памыляюся, але мне надзвычай шкада, што не кожны пісьменны чалавек мог з ёю пазнаёміцца. Кажучы крыху напышліва, тут да ілюзіі праўдзіва, як нідзе ў іншым месцы, выкладзены асацыяцыі быту і штодзённасці. Я захапляўся не толькі першай старонкай кнігі, але і апошняй.

Праўда, некалькі іншае ўражанне складаецца, калі чытаеш кнігу з канца да пачатку. Адразу, калі можна так сказаць, страчваецца пачуццё рэальнасці, і паступова, але неадступна нараджаецца жаданне, мякка кажучы, закрыць кнігу. І хоць я глыбока вінаваты перад аўтарам, але яго вытанчанасцей зразумець не магу. Я бездапаможны ўбачыць, куды пойдуць яго героі пасля заключных старонак кнігі. Канешне, аўтару гэта добра вядома, але мне, недаверліваму літаратурнаму старавеpу, гэта незразумела зусім і абсалютна. Таму было б памылкай лічыць, што ў святле праблемы вырашэння жыццёвых канфліктаў глыбока правільныя думкі знайшлі належнае выйсце.

Праўда, у сяго-таго можа скласціся ўражанне, што я кнігі не чытаў зусім, але — каюся — сам я ў гэтым не ўпэўнены. У пацвярджэнне такой думкі прывяду радкі:

Мой родны кут, як ты мне мілы!..
Забыць цябе не маю сілы!

Згадзіцеся са мной, што гэта — цудоўныя радкі. Але памятайце — напісаў іх не Сымон Пярэсты, а Якуб Колас. Вось у чым уся справа. А колькі паэзіі, хараства ў наступных радках:

Пухнаты кот
Залез на плот,
Быў плот гнілы,
А кот малы.

На жаль, і гэтыя радкі, як мне ўдалося высветліць, належаць не Пярэстаму, а зусім іншаму аўтару.

Таму значна лепш было б, калі б, як гэта сказаць дакладней, наш глыбокашаноўны аўтар сваю кнігу не пісаў зусім. Бо калі гэта мастацтва, дык што ж тады ментузы? І мне вельмі шкада, што я патраціў час на яе чытанне, паколькі яе дачыненне да літаратуры вельмі ўскоснае. Але гэта прыватнасці, і спыняцца на іх зусім не варта.

Прашу прабачэння.

## БАБКАВІЧЫ

*Сцяпан Кухараў*

Мае Бабкавічы!.. У іх я нарадзіўся і рос. Тутацькі і цяперачы жыву. Тоісь не спрэс. Быў час, калі я ў Бабкавічах не жыў. Пазамінулае лета хадзіў зяцем у Дзедкавічы. Але аблетаваць не справіўся: праз тыдзень ачомаўся і збег. Одум у калган прыйшоў: маладзёнак жаніхавацьмуся, хваця.

Парахонне сваё ў торбу, чухмянёк на плечы і цёмначы, не палевіком, а па крывалессю дзвінуў з падгопцам дамоўкі. Тыдзень на адсідку патраціў, баяўся: жонка прышылякае за мной. Але яна перадала адно: «Гамзадзей!» У Бабкавічах так не абзываюцца. Не ведаю, што ета.

Дык ось. Бабкавічы здавён вядомы. Іх не зблытаеш з якімі вёскамі. Яны справа ад райвона, не тое што нейкія (цьфу, аж памінаць не хочацца) Дзедкавічы, якія зусім злева.

Нашы Бабкавічы — ета вам і не Цёткавічы, дзе Хомка Вярзей парыцца летам пад паветкаю. У нас — не. Усе парацца ў лазеньках. Балазе апал не надыць шукаць, дрываломy ў лесе да хваробы.

Або возьмеш Браткавічы. Каза ў калодзеж укінулася, ад казла ўцякала. Лічы бадай самагубства. У нас на етых рагатых стварэнняў навогул не было завядзёнкі.

Ці хваціся ты Швагрэнічы, ззаду адсюлецька. Купляў падгерысты Сымон Ламей цёлачку. У райцэнтры. Купіў. І барышы распілі. Прывёў дадому. Тудэй-сюдэй глянулі — а тутацькі бычок. Бадай ты спрахла! Ніводзін бабкавіцкі дзядзька да еткай канфузіі не даклыгаў бы.

А ў Сестрыне! Зусім за жываты схопіцеся. Жыў некалі Сідар Лепяцень, балака-манюка. Пакуцілька гамзаў раз нешта языком, хлапчукі-падшывальцы прывязалі яму ногі да ножак лавы. Бабкавец жа адразу б пачуў няладнае і не папусціўся б да еткіх спіктакляў.

Ну, а пра Дзевяроўшчыну зусім расказваюць несусвецце. Нібыта Гараська Лантух цягнуў тамацька жаробку на хлеў, штоб травіцу са страхі стравіць.

Не-е-е, брахінька мой, з бабкаўцам не прайдзёць, каб яго падгрэчылі, на зругу сябе не дасць

Вось ніхай бы етый самы я. Нарадзіўся і вырас тута. Нават абразу знёс. «Гамзадзей!» Ад блізкага, так сказаць, чалавека,— ад жонкі. Хоць і былой. Але ж вёсцы не здрадзіў.

— Я — бабкавец!

Анягож не...

## ЛІСТ МАДОННЫ ПАСЛЯ ЛАЗНІ

*Леанід Левановіч*

...А яшчэ я пішу табе, даражэнькая дзева Марэя, што ўчора мой нягеглік, лайдак гэты нехрысць Езус паліў лазню. Хоць ён абібок і выпівоха ладны, але напаліў нядрэнна.

Пасля лазні лысы плечавень мой забурыўся адразу да старога Іллі. Тамака яны, латругі, закінуць у шумулейку — святых крапляў нацэдзюцца, паспяваюць аву Марыю і заваляцца дрыхнуць. Хіба я іх не ведаю? Уволю нагледзелася, галубачка мая, з давён-даўна, ад самага стварэння свету. Нікога, апрыч бутэлькі, за горла не бяруць.

Паклікала я свенту куму Барбару, Іллёву старую, і жонку Пятра-апостала гукнула, цётку Магдалену. Барбара ўжо нацёгалася па свету, стапталася, а Петрачыха яшчэ ў самым саку, гарачая кабета, хоць, праўда, у клубах трохі ўсохла. Любіць прычапурыцца, падфарсіць, каленкамі бліснуць. Без палікмахерскіх нустаўбуніцца гулёна як семнаццатка. На чалавека свайго даўно рукой махнула.

Гэтак ужо шчыравалі мы на палку. Млела да

чырвані цела, распаранае венікам з райскай бярозы. Вады было ўволю і гарачай, і халоднай. Іллюшчыха як умасцілася ў шайку, дык і вылазіць не хацела.

Позна вечара вярталася я дахаты. Знарок адна засталася, нібы сэрцайкам прадчувала штосьці. Але гэта толькі табе адной і пад вялікім сакрэтам. Насустрач мне з завулка выйшаў Амурчык. Я даўно заўважала яго позіркі. Зірне і хуценька вочкі апусціць, нібы засаромеецца. Але ніколі не падыходзіў.

І вось нарэшце асмеліўся. Падносіць мне, мая таічка, галанскія макі. Кажа, ледва паспеў купіць. Смяхоцце адно! Свенты Себасцян падарыў мне кажух з леапардаў. Свенты Дамінік футры з собаляў паднёс. Бенядыкт аднойчы рыдыкюлю з кракадзіла расстараўся. Вось гэта падарункі!

Хацела я вільнуць кармой, кінуць ухажору нязважлівыя словы, але ў пору стрымалася. Бо дзе ты каго цяперака знойдзеш? Навогул, скажу табе шчыра, здрабнелі неяк мужыкі, бадай і сапраўды слабым полам сталі. Да матрыярхату вяртаемся. Бывалача, зойдзе Францыск, абдыме горача, ніякага граху, кажа, з табой не баюся.

Узяла я кветкі. Ідом разам, і я нібы п'янею ад водару блакітных макаў. Потым ён паклікаў мяне на Святое возера пакатацца ў лодцы. Я, вядома, аднеквалася дзеля прыліку, затым быццам нехаця пагадзілася. Трэба ўмець набіваць сабе цану. Мы паплылі паўз бераг, пасля заехалі ў чарот. Было такое хараство! Амур, як ведаеш, сястрыца, маладзён, ледзь прыкметны пушок над верхняй губой з'явіўся і вусны гэтакія прыпухлыя. Лодка спынілася. Палажыў ён вёслы, бліжэй падсеў. З абдымкамі палез. Але не ўмее, зусім не ўмее ля кабеты. Тут я дала паварот. Ды бачу: зусім замаркоціўся

мой баранчык. Пагладзіла злёгку па бялявых, бы спелае жыта, валасах. Я ведаю сілу сваіх чараў, хоць екадземію не канчала, еткаму мазгі жыва закручу. А ён у сардэчных справах акзаменту яшчэ не здаў. Прытулілася бліжэй. Ажывае маё цялятка. Я тады галаву яго да сваіх грудзей прыхінула ды чмок у губы. Ажно млее ад асалоды. Мне і самой прыемнасць.

— Светлая радасць мая,— туманом атуманьваю,— я твая навечна...

Аж бачу, і ён мужчынскі нораў праяўляе...

Трэба, мая даражэнькая, лавіць моманты шчасця, трэба цвісці, гарэць. Мне даўно адкрыўся свет зямных радасцяў. Чаго і табе жадаю.

Твая мадонна найсвентша Катажына.

Аман!

## ПА ДАРОЗЕ Ў СТАРАГРАДАК

*Яўген Лецка*

Акурат стары дзед, схоплены падучкай, аўтобус чмыхнуў, без дыху скрыгнуўшы перадачай, пасля тузнуўся на месцы, фыркнуў і ўмлеў матором упраўне. Гэта быў удалы прыклад пераходу ад аналізу да сінтэзу, цюцелька ў цюцельку стылявая дамінанта ў яе жыццёвай абумоўленасці.

Шафёр, цеперсе не могучы заціць злосць, вылаяўся сам сабе, акурат мой стрыечны дзядзька пазамінулым летам, парваўшы плацянковыя споднікі.

— Вылязай, прыехалі! — яго дзеркатлівы голас патануў у хрыпаценні.

Надышло ўскладненне ўсіх супярэчнасцей. Наша імкненне ўгнацца за хуткаплыннай рэчаіснасцю ўмэнт астапорылася.

Раздумоўваючы, усе пачалі вылузвацца з аўтобуса. Для мяне наступіў час збірання жыццёвых фактаў і іх творчай перапрацоўкі.

— То цо ж робіць? — пошаптам спытала кабета ў вушанцы.

— Пойдземо пехатом! — адрэзаў я.

— Як жа пехатом, коўзко. Хіба можно?

— Анёж не. Дзівуйся.

Узяўшы ў рукі вандзэлак, акурат забаўку, я паддаў ямчэй пакаўны пляцак, круцянуўся ў ялавых ботах і наструнена заперабіраў нагамі ўроскарач.

— Вой, людцэ, гляньцё, што зрабіласё хлопцу, выдурняецца! — перахліпіста загаласіла кабета без вушанкі, акурат па нябожчыку, і шырока пеAfter:ражагналасё.— Ці ж можна ісці, ежалі дождж зацабаніў.

— Відаць, наквасіўсё,— забядована прамовіла кабета ў бравэрцы.— Яму акурат засляпіло.

Я не аскірзнуўся і ламануў па хлюпэчы, акурат апёкшыся.

Неспадзеўкі паказаўся конь, які пудка касіў вока. Верхам сядзела дзяўчына, патрэсваючы лагазінай. Я кінуўся напярэсцігі і акурат аклуміўся. Гэта ехала Таклюся на ўкрампаванай павадамі кабыле Мілцы, якая выглядала акурат заезджаны Пегас, не дзыгавала, адно слаба падгігікнула. Тым не менш я вызверыўся, акурат мой дзед на разлагоджаную нявестку:

— Ану, ваўчаё, стой, халерыя цябе кідаё! Хай табе хвост асыплецца!

Я трымцеў ад няўцерпу, каб хутчэй укульнуцца ў сядло і калывацца ў такт Мілчыных крокаў. Але запытаў Таклюсю з прыспевам урасцяжку:

— Што рабіцьмем?

— Паедом! — адрэзала дзяўчына закаханым голасам. Яна заўсміхалася, акурат збіраючыся пайсці ў скокі. Яе ўсмешка аддалася неўразумеласцю.

Я натужліва западскокваў і сутаргава гупнуўся ў сядло за Таклюсяй. Адчуў, як варушацца яе плечукі. Не паспеў як след прыгарнуць дзеўчыну да сябе, толькі з нейкай страхатлівай радасцю запачуваў пад далонямі тугія грудочкі, як яна, каб выцерабіцца, папусціла павады. Мілка здала тылам, акурат прысядаючы ў рэверансе, потым падбрыкнула, і мы з Таклюсяй апынуліся на раллі ў тваністай багне. Я хацеў перацягнуць Мілку навотлег па ненавіснай храпе, але яна гальцанула наўзгалоп, і той жа мэнт яе след выстыў.

Спапэнду я не ведаў, што рабіць, акурат спудлаваў і з прыстрахам глянуў на Таклюсю, думаючы, як выдзеўбацца на свет. Конча не хацелася заставацца адзінцом. Глянуў і ледва не спетрыўся: дзеўчына палагаднела аблiччам і намервалася падлашчвацца, акурат замурзанае каценя. Гэта наўзахапкі падвяло рэальны грунт пад зыходныя пазіцыі і запоўніла істотны прагал у паяднанні гістарызму з псіхалагізмам. На сэрцы ў мяне паласкавело, я павалюхаў наперад з распагоджаным тварам. Дарогай мы сціха перамаўляліся зніякавелымі галасамі. Затым Таклюся стрэпнулася цэлам, зяўнула, заружавелася, стрэльнула смяшлівымі вачыма, яе зрэнкі замружыліся, і яна прынішчылася шчакой да майго твару. Такая выхілка была мне спанараву. Паміж намі ўстанавілася ідэальная мадэль узаемаадносін.




5 Зак. 1802

Адчайныя думкі бунтаваліся ў галаве. Час шастануў імгнення. Акурат прывід, паказаўся ўдалечы Старагарадак. Перамяклыя і скалелыя, мы пабраліся да першай смаловай хаты.

## ПЕСНЯ І ЯЕ МЕНАВІЦІКІ

*Арсень Ліс*

Жніво!

Каго ні кранаді векавечнай традыцыйнасцю яго мройлівыя напевы і найтамлівыя мелодыі.

Таму мы найуважліва паставіліся да самога факта яго існавання, і ў нас знайшлося колькі старонак для разведу жнівовай песні «Дзеўкі спрытна жыта жалі» з яе грацыёзным рытмам і найтанклівымі намёкамі на рыфму. Відаць, кожнаму паразумела наша імкненне запабегнуць няпоўнасць ахопу дзейных асоб твора (на жніво часцей дзевак выходзілі жанкі). Нядзейныя асобы песні — гэта чысты прыём умоўнасці.

Для найлепшай знакамітасці мы возьмем кірунак паводле найбольш слыннай дарогі, а менавіта: пачнем уважней прыглядацца да твораў, званых адменнікамі, прабачце, менавіцікамі або яшчэ зынакш — паасобнікамі.

Адшуканы намі першы адменнік, перапрашаем, менавіцік, безумоўна, заслугоўвае на ўвагу сваёй нечаканасцю. Вось паслухайма: «Дзеўкі жыта спрытна жалі». Чутно, як мігатлівыя цені парадку слоў, шчодра пачэрпнутыя ў глыбінях стагоддзяў, даюць шырокі прастор фантазіі. У зме-

неным парадку слоў уладна прабіваецца цудадзейнае пачуванне грунтоўнай высновы.

А хіба зашкодзіць крыху спыніцца на яшчэ адным паасобніку — «Спрытна жалі жыта дзеўкі». Не надасланы раней у Сектар навукаў, ён перахоўваецца намі ў правым кішані і падае на цікаўнасць з пункту зірку атмасферы новых барваў. Пад скальпелем нашага аналізу тут пачынае пялёхацца бязбрэжжа думак і абвеяная паэзіяй знарокавая тэндэнцыйнасць.

Незалішнім будзе нагадаць і трэці менавіцік, сустраканы намі тады, калі мы як найшпарчэй сягалі паводле малапрыкметнай сцяжынкі з-пад ракі Лань, з асяродку сапраўднага песневага запаведніка. Вось ён: «Жалі дзеўкі жыта спрытна». Заўважым, як добра глядзіцца ў ім знітаваны адлюстровак працы на фоне таго захаванага ледзьледзь, за якім маскуецца намітка-сінеча недалёкага кумлення.

Спрыяе належнаму адданню ўвагі паасобнік «Жыта жалі спрытна дзеўкі». Ён вымагае быць прыведзеным цалкам і заняць паноўнае месца падчас патлумачэння, але, на жаль, яшчэ не адшуканы.

Такім чынам, мы пайшлі прама паводле ўладных слядоў эпохі не дзеля хісткага месіва згадак, а ў імя пошуку рэальнага грунту. І застаецца вартай жалю самаўпэўненасць тых, што прытрымліваюцца іншых вызнакаў. А нам з гэтакімі не паводле шляху!..

## ІЛЬЯ ШЭМЕТ

*Мікола Лобан*

Эйш ты яго. Не дурань, чалавек пракідкі, хай сабе і не здзешняй. Вунь толькі праплішчыўся ў лес — адразу сякеру з-за пояса і пайшоў махаць, як наняты, і пайшоў,— па камлюках цюк-цюк. Разваротку як бач зрабіў. Спаперваначалу не бавіўся, таму к восені, глядзі, і хату сцягаў. Квацерка — не квацерка, а нейкі прыпынак есь. Так і астояўся. А раз хата — то і жонка. Гэта ўжо — уга! А дзе жонка, там і сынок. Сынок, можа, і малачка хоча. Чаму не! Дык Шэмет умеў і да пана падлабуніцца. Ён і пакланіцца не ўломак, мадыгацца не стане і шапку скіне. Пана цікавасць бярэ:

— Ай да хадзяін! Вот маё павяленне, за тваю сазнацільнасць даю цібе цялушку. Строй жызню!

— Як-та? — Ілюха нібы і блізка не здагадваецца.

— Чаго спрашываш,— скасавурыўся пан,— как вернаму служыцелю, карову цібе даю — аднагалетку. Эта, значыт, ты, па маяму ўсматрэнню, гадзён. Толькі помні: у камунію ні-ні. Цвёрда бо ведай: там твая баба тваею не будзець.

Дык назаўтра прыцемкам Шэмет говяду на плечы і тарабаніць.

І стараўся Ілья,— не прымгне. Ускруціцца сярэдначы і цярэспале ў лес. Хай сабе перуны ярашацца, хай нізавічок стругае шэрань. Адно кулітку хлеба ў кішэнь возьме. Хоць і вусцішна, а калавурыць. Укінецца між сасён і, бывала, тыднямі не вылузваецца з прыкараткага кажушка. Рукі склеюць на віскутні, а — ідзе.

Наконт парубшчыкаў — ні-ні. Стр-р-рогі быў!

Папаўся — дык не шманай, адразу ўгібае. Рукі табе за спіну — не ўпросіш, не ўмоліш. Лазінай разы чатыры вакол абедзвюх абкруціць, яшчэ канцы паміж прапусціць, чортавым вузлом завяжа — і гатова. А заўпарцішся, марскане загрудкі — не ўстоіш. Цябе самога на твае ж калёсы пасадзіць і вязе, як пана,— у панскі двор. А ўцякаць паспрабуй — адразу напярэсцігі. Усё роўна пярэйме.

— Злыдух пранцаваты! — лаяліся мужыкі.— Калі ж бо ты патрапіш на сваё. То мо ж вомегам вылезуць слёзы нашы.

А яму нібы ярунда.

Толькі час бяжыць.

Не паспеў агляну́цца — а ўжо дзед. А там яшчэ і яшчэ раз. Ухваста ходзяць. Ну, яно, канешне, нікому не ў крыўду. Аднаго Шэмета возьмеш — вось табе і раман. А пра двух — ужо і пэўная дыялогія атрымліваецца.

Так вось і яно.

Разумець трэба.

## ПА НОВЫЯ ВЕРШЫ

### *Алег Лойка*

Якая шырокая Прыпяці плынь,
Як хвалі разгоніста ходзяць!..

Вуркоча магутнага АНа матор,
Спяшаю на збор матар'ялу.
Унізе Палессе шматфарбны узор
Умелай рукой разаслала.

За Пінаю сеюцца дробна дажджы,
Над Цной сонца хмары прабіла.
Вунь Тураў. Там Тураўскі некалі жыў,
Па імені дзядзька Кірыла.

Віецца істужкаю Шчара-прыток;
Каналы ляглі праз балота.
Авохці мне, злева Кажан-Гарадок
Мільгнуў пад крылом самалёта.

Са шчырасцю я прызнаю без прынук:
Палессе — прывабная штучка.
Там, кажуць, жыве селянін-паляшук
І жонка ў яго — паляшучка.

## СЛОВА ЗА СЛОВАМ

*Еўдакія Лось*

Волма-Волма,
А не Волга,
Чэрвень-чэрвень,
Не іюнь...
. . . . . . . . . . . .
Канца-краю не відно.

Закраніце толькі тэму,
Для пачатку дайце сказ —
Верш — не верш, расце паэма,—
Вось паслухайце якраз.

У майго мілога бáкі,
Нібы ў вожыка бакі;

Лезуць печаныя ракі
Задам-перадам з ракі.

Словы любага пра нашу
Дружбу ў сэрцы я нашу:
— Раніцою з'еўшы кашу,
Да паўдня мурог кашу.

Да пучка маніцы змяла,
У куток кастру змяла
І прагнала аж да вала
Чарнахвостага вала.

Падняла знячэўку гайку
У бярозавым гайку;
Запрасіла ў госці чайку
Выпіць шкляначку чайку.

Зайчанё што мае сілы
Ў жаху рвалася з сіла.
Зачапіўшы крук за вілы,
Я вяровачку віла.

Вечарком малы і сталы
Спрытна лезуць за сталы.
Усцілае ліст апалы
Габляваныя палы.

Волма, Чэрвень, Вайнілова,
Паплавы, Беразіно,—
Слова вяжацца за слова —
Канца-краю не відно.

# КРЫХУ ЭПАСУ
# ПРА ЗНАКАМІТАГА КРАЎЦА

## *Максім Лужанін*

> Снежань тут нічым не вінны,
> Крой абмален, як ні ўдзень...

Наш кравец сядзіць у зморы,
Вольнай хвілі ані-ні.
Нешта шые, штосьці пора,
Дзень у руху, ў сумятні.

А калі завечарыцца,
Цьмы пасееццa труха,
Ён са снінкай спаць лажыцца,
А не ловіць мятлуха.

Хай прамочыць дождж у полі,
Хай праніжа ветру свіст,—
Ён не зважыцца ніколі
Папрасіць бальнічны ліст.

Шые, пора, прымярае —
Не выходзіць самараз.
Кажушыну па звычаю
Сем разоў бярэ пад прас.

Зноў прымерка! — эх ты, доля,
Ніадкуль не падысці:
Вельмі шырака ў падоле,
Надта вузка ў пастаці.

Хоць у сценку лбом упрыся,
Стрэль у самае брыво —
Крыва боўтаецца крыссе,
Бокам служыць рукаво.

Шые, пора, слоў не чуе,
Спрытна кроіць дзень у дзень.
Не адразу змаракуеш,
На каго той крой уздзець.

## АТАВА

*Валянцін Лукша*

Зазімак першы сыпле рэдкім хлоп'ем,
Задзірыста раз'яхкаўся ганчак.
Атаву я кашу на крутаўзлоб'і
І слухаю, як вохкае тартак.

Мне любы брыганціны, каравелы,
З рагаткай флібусцьер — мой ідэал.
Але перад атаваю, знямелы,
Глушу я свой няўрымслівы запал.

У ёй водар, свежасць, мяккасць,—
не кажыце!
Хоць падавай ахапкам да стала...
У гэтую б атаву —
Неферціці,—
Дальбог жа, праз хвіліну б ажыла!

# ПРА ХРАБРАГА ВАЯКУ ДЗЕДА БЕЗ ТАВАРЫШАЎ

## *Міхась Лынькоў*

Раскажу я вам, уюнашы, якія справы мы рабілі ў свой час, аж гула-дрыжала зямля ад спраў тых неспакойных, бунтарных ды геройскіх. Праўда, даўнавата гэта было. Час тады называўся царызмам, паганым царызмам, прападзі ты пропадам. Багатыя ў той час жылі багата, а бедныя — бедна. А які з мяне багацей? — кажух заваляшчы ды шапка худзюшчая, праўду вам скажу, нікудышная і нікчэмная, выгляд адзін што шапка. А так — цьфу, адным словам. Праўда, служыла яна і за капшук, і за кішэню, і за пазуху. І крэсала тама хаваў, бывала, і тытуню жменю ўсыплеш, а здаралася — скарынку хлеба запхнеш за падкладку. Ідзеш сабе, а ад хлеба пах духмяны, так і казыча ў носе, так і казыча. Яшчэ валёнкі больш-менш ніштаватыя, валяныя ды катаныя.

І прыходзілася нам, люду рабочаму, мазольнаму люду працавітаму, загрудкі брацца з нечысцю рознай, буржуйскай і белапагоннай. Біў яе, усмак біў, ёлкі-палкі зялёныя, сябе не шкадуючы.

Сяджу гэта я аднойчы ў засадзе, адзінока сяджу, на пуцявіну-каляіну гляджу на іскрыстую. Кажух мой белы не відзён за ядлоўцам заснежаным, перастылым ды наянтараным.

Сяджу,— а думкі галаву свідруюць, наскрозь працінаюць, неспакойныя, бунтарныя. Рукі самі кулямёт сціскаюць.

І раптам калона на дарозе паказваецца, варожая, нямецкая. Наперадзе афіцэр-палкоўнік гарцуе, падцягнены і рамянямі перашпілены бліскучымі з пазалотай. А конь пад ім віхурай круціц-

ца, сербіянку вытанцоўвае, з усхрапам, упрысядкі.

Немцы бліжэй і бліжэй.

Хочацца палкоўніка першым на мушку ўзяць, перарэзаць чаргой кулямётнай. Але ж не. Чакай. Я цябе, гада печанага, не буду страляць, жывым схаплю. Судзіць будзем. Нашым судом, сялянска-пралетарскім. Уюном ты круціцца будзеш, лапці цалаваць мужыцкія ды чобаты рабочыя, мазутам прапахшыя, вугальным пылам прыпудраныя. І ў валёнак мой чмокнеш, не дзе дзенешся. Але ж не, не даруем, за ўсё расплацішся — за курэй пакрадзеных, за вепрукоў асмаленых, раней пары-часу жывата пазбаўленых, за спіны спісяганыя.

І вось немцы як рукой дастаць.

Эх, і загаварыў жа кулямёт мой, на мове сваёй загаварыў, кулямёцкай. Захлёбваючыся загаварыў, скорагаворкай. Нібы радуючыся, што выгаварыцца можа, ды баючыся нібы, каб не перапынілі, не перарвалі гаворку шалёную, рогат нечалавечы. І радаваўся яшчэ, нутром сваім жалезным радаваўся, што ворагаў косіць, чужаніц праклятых, нязваных чужаніц, няклікаtных.

Нібы качаны, валіліся ворагі, на снег наш падалі, чысты, некрануты. Ашаламуціўся палкоўнік, сядзеў на кані пад асінай, апруцянелы сядзеў, не ведаючы, дзе падзецца, схавацца дзе. І трэсліся яго паджылкі, рукі трэсліся акупанцкія, заграбушчыя рукі. З жахам глядзеў ён на полк свой, перабіты полк, вынішчаны.

Выскачыў я тут з засады сваёй аснежанай, рулю гарачую пад нос яму тыцнуў, пад палкоўніцкі нос, акаянны.

Злез ён паволі з каня, мяшком асунуўся, і ногі не трымаюць яго, паганца, трасуцца, падгінаюц-

ца. Думкі ліхаманкавыя ў вачах ашклелых скачуць, у замагільных вачах.

Прывёў яго, буржуя, да партызан, хлопцаў бясстрашных, ваяўнічых.

Размова была кароткай, зусім кароткай была размова.

За кроў... за здзекі... за слёзы крыштальныя... за дзявочыя...

Сам камандзір мне руку пацiснуў.

А потым песня ўзнялася. Спачатку нясмела, а пасля смялей і смялей, узляцела песня вышэй лесу, пад аблокі самыя, у прастор безгранічны, баявая песня, агняцветная...

## ДАГАРЫ КАРЭННЕМ

*Уладзімір Ляпёшкін*

> У мяне даўно ўжо адцвітанне.
> . . . . . . . . . . . . . .
>
> О, колькі ламала ты дровы!
> О, як я варочаў карчы!

Ты ў шчасці з ружовых пялёнак
Не знаеш узроставых меж.
Даўно я адцвіў, як рамонак,
А ты ўсё, як ружа, цвіцеш.

Праз годы не ўцямлю я толькі,
Куды скіраваў наш паром:
Цябе запрашаў я на польку,
А ты вальсавала з Пятром.

Мігценне стракатых стасункаў
Сіберны вятрыска раздзьмуў.
Я прагнуў тваіх пацалункаў,
А ты цалавала Кузьму.

Надзеі пужлівай сініцай
Знікалі пад посвіст крыла.
Я клікаў цябе ў сянніцу —
Ты Кліма ў прылазнік вяла.

Няўзнак, нібы дробныя трэскі,
Растрэсліся прывіды чар.
Жадаў я прайсціся па ўзлеску —
Ты цёгла настырна ў гушчар.

І сёння, ўздымаючы бровы,
Глядзіш праз мяне ўдалячынь...
Натхнёна ламала ты дровы,
Узнёсла ірваў я карчы!..

## БЯСШКОДНАЕ ПЕРАЎТВАРЭННЕ

### *Пятрусь Макаль*

Я — кола.

Я быў Макалём і паэтам.
— Пятру-усь! — мяне клікала жонка.
А сёння качуся па свету —
Мільгаюць асінкі, сасонкі.
Не рукі ў мяне, а спіцы,
Не галава, а ўтулак.
І вобад замест паясніцы;
Пах дзёгцю, як водар, гартуе.

Прыемна, калі па асфальту.
А там, дзе выбоінам цесна,
Такое вырабіш сальта —
Шышак насядзе балесных.
Калі качуся па бруку,
Па выбітай камяніцы,
На ўсю аколіцу грукат,
Дранцвеюць вобад і спіцы.
Качуся. Хачу ці нехаць.
І шмат хто — бачу — цаляе,
Каб без чаргі пад'ехаць
Шпарчэй да зямнога раю.
Уссесці гатовы ўсякі,
Прарвацца да большай місы —
Хто ў мастакі, хто ў пісакі,
А хто да гары,
Да Лысай!
Я — кола. Грымлю, кручуся.
Ды помніце: тую мінуту,
Калі я ў паэты вярнуся,
Вам стане і пеша, і крута!

## ПА НІШЧЫМНІЦЫ

*Мікола Маляўка*

Я даражыў шпакоўняй, пер'ем.
Я абыходзіўся штогод
Жыццём —
Нішчымніцаю шэрай
Без жоўтых скалачак прыгод.

Не баючыся кары боскай,
Задраўшы нагаль дзве нагі,

Шпурнуў я смела ў кошку соскай
І вывеў гнуткае ку-гі-і-і...

Ў маёй душы — дрымотнай пушчы —
З тае пары — каторы год —
Няўтомна хтосьці песню трушчыць
Без жоўтых скалачак прыгод.

З жыцця не браў я поўнай жменяй.
Яно нясе — ў каторы раз! —
Адну нішчымную крупеню
Замест вяндліны і каўбас.

Таму і верш мой бровы хмурыць,
Яго чытаць — аж зводзіць рот:
Як быццам таркаю па скуры
Шаруе нейкі абармот.

## КЛАДКА

*Аркадзь Марціновіч*

Вялікі дар прыроды — чалавечая думка. І мне, скажу шчыра, адразу падумалася, што я валодаю ім у поўнай меры. Я прывык хадзіць па сваіх слядах. Дарагія, незабыўныя сцежкі! Шыракалобыя камяні па ўзбочынах. Лужкі-беражкі з узлескамі, дрыгвяністыя балотцы. Праз тоўшчу гадоў пачуецца да болю знаёмае бульканне ручайка. Папабегаў я тут шчымліва-прыемна, папагойсаў са сваім басаногім маленствам.

Усё вяртае дарагія ўспаміны.

І самае трапяткое ўражанне пакінула спракаветная кладка.

Так, кладка.

Кладка... кладачка... кладуська... кладусенька...

Колькі помню, ляжала яна праз тую ручаіну. Ляжала зімою і летам, у гразь і ў сухмель. Не скардзілася на лёс свой незайздросны, на абавязак дакучліва-аднастайны.

Я, прызнацца, падумаў, што некалі яна стаяла прыгожым раскідзістым дрэвам. Колькі год прапяцела над ім! Дзе тыя вятры, што шумелі некалі ў лістоце яго вяршыні! Дзе хмары, у якіх грымелі над ім навальніцы? Дзе дажджы, што паілі яго?

Мне, хачу сказаць, памроілася тая піла, якой пілавалі магутнае дрэва. Той майстар, які наразаў зуб'е пілы. Мне ўявілася гострая сякера, якой бязлітасна ссякалі цупкае суччо, і той лесаруб, што асаджваў сякеру.

Я, паверце, раздумваў над тым, у якой тужлівай скрусе расставалася дрэва з прысадзістым шырачэзным пнём, расставалася, каб ніколі больш не сустрэцца, развітвалася з родным карэннем, якое шчодра паіла яго вільгаццю.

У той жа час мне захацелася прыгадаць птушак, якія пелі свае звонкія песні ў зяляніне дрэва. Магчыма, яно прыйшлося даспадобы нават буслам, і яны зрабілі тут гняздо, выводзілі буслянят, насілі ім жаб з усяго наваколля, пасля вучылі маленькіх станавіцца на крыло. А восенню адляталі ў вырай, каб цёплымі днямі вярнуцца назад і прадоўжыць свой буслiны род.

Яшчэ я, да слова, падумаў, што, магчыма, пад гэтым дрэвам мой прадзед цалаваў-мілаваў недатыкальную дзяўчыну з кудзеркамі русявых вала-

соў і мякенькімі мочкамі вушэй. У яе быў тужлівы позірк добрых вачэй, а кволая ўсмешка вільготніла яе пульхныя вусны. Каханне ў іх успыхнула як порах, бо ў яе быў вабны шчадралюбы тварык, а ў яго належная форма, каб пакахаць дзяўчыну. Кахаючыся, яны вышуквалі магчымасці незямное, нерэальнае шчасце няспыннаператвараць у яву. Высокія грудзі дзяўчыны пяшчотна дакраналіся да грудзей прадзеда, і яму было балюча адарвацца ад каханай. Ад асалоды цямнела ў вачах. Яны сустракаліся кожненькі вечар, і прадзед ні разу не ўсумніўся ў яе харастве. Але аднойчы ён, мусіць, убачыў яе брудныя каленкі і той жа момант разлюбіў, хоць пасля згадваў яе з журботнай любасцю, шкадобай і тугой.

Нарэшце, кажучы праўду, мне падумалася пра шкадаўлівага дзеда, якога я добра памятаю. І не пра самога дзеда, а пра яго сярмягу. Нават не столькі пра сярмягу, колькі пра кашулю, на якую сярмяга апраналася. І нават не пра кашулю, а пра гузікі, якімі яна зашпільвалася. Дакладней, не пра ўсе гузікі, а пра ніжні. Таму што ўсе былі прышыты чорнымі ніткамі, а ніжні белымі. І з гэтай нагоды ён мне асабліва запомніўся. І цяпер, калі бачу я гузікі, прышытыя белымі ніткамі, у мяне трывожна халадае пад сэрцам.

Вось колькі думак выклікала простая падгнілая кладка. Да таго ж мне заманулася падумаць, што надыдзе часіна, калі яна назаўсёды знікне з твару зямлі і ні ў кога з маіх наступнікаў не выкліча аніякіх уражанняў.

І на астатак ува мне варухнулася думка, што паасобныя кнігі рэдагуюцца досыць няўважліва.

# БАБРОБЫЯ ЛОВЫ

*Алесь Масарэнка*

Бабёр, ядры яго матары, дальбожачкі гэтакі: добраахвотна да рук не падыдзе, хоць богам ублагай ці курапкаю ля нары станавіся. Не тое што Леўшакоў Жук або тая Цецікава Лыска. Не-е-е...

Калі ж вам досмерці замануліся бабры і зусім няўседня бярэ, смужлівым золкам зазбірайцеся ў дарогу. Забудзьце друз будзёншчыны і заклічце тых з сябрукоў, хто адчувае бабровыя памкненні.

Важна ўнікнуць у стройнасць руху вашай кумпаніі і пагадзіцца міжсобі. Паперад, значыцца, хай навуж чыкільгікае мінавіцай Адам Луцэін, вушлы, не лыкам сцёганы хлопец. Ручы, ён у сарочцы радзіўся. Будзе млець ад насалоды, спрытнюга.

Пасяродкі лэхаць больш тычыцца Сахвеінаму байстручыну Цімку. Вы яго бачылі? Мурло саўсімацька, як у кормніка. Ладны матло і пройда несусветны, іці яго пяты.

Ляксандра, чуйце, хай дубічыць уследкі, разіньку ловіць. Усё адно нявехна абазвала яго рапухай, усюды гудзіць.

Перад намі няхай абгойсвае балоціны добрая сучэнцыя. Але можна клікнуць любую сабачэнцыю. Асноўнае — каб яна ўмела мудра ўсміхацца і кідацца ўгалоп.

Як дачапаеце да гушчэчы, агняздуйцеся перамарыць чарвяка,— насухама. Во дзе смаката, ей-праўдачка. Не менш латва запіпчыць, седзячы на сукардычыне. Паддыхніце трохі і тахтоньце далей.

Ля Хадоравай пратокі ўсяму прычындаллю знайдзіце сховань, навырунку нічога не кіньце, бо

нейкая чмурэча краз можа спуліць брызентавы курцік ці збагрыць шчупы, а то і зусім збаёдаць лаўкі, не сысці мне з етага места.

Пошук нары пачынайце спасцярожліва. Акалпачыць зверука не проста. Ён празукаваты ў сваіх партаментах. Пад любой карчакай сядзіць як карапузік усё роўна. Дый ушчунку на яго, радзімца, няма, што заўгодна можа адчубучыць. Таму паперша трэба агледзецца і ўбачыць палазу, каб было куды ўляпётваць, калі пачне барабаніць лапамі.

А будзе зверука не ўбачыце — не баёдзьцеся. Забірайце прычындалле і смела зыгуйце дамоўкі. Тым больш за самавольны ловы трыста рублёў штрапяка — шчупянуцца не паспееце — узучаць. Па сабе ведаю. Так што кумекайце пра пальзіцельнасць...

## ПУПЫШКІ

*Васіль Матэвушаў*

І стала ўраз пупышка
Паданнем на зямлі.

Хто любіць мёд, хто шышкі,
Хто хрэн, хто дзівасіл,
А я люблю пупышкі,
Люблю з апошніх сіл —

На здрыжлівай асінцы,
На ядраным клянку,
На гнуценькай лазінцы,
На крэпенькім дубку.

Я буду пецъ пакрышку —
Паслухайце, сябры,
Пра клейкія пупышкі
На голейцы ў бары.

Схаваліся ў зацішку
Ад злюкі-вецярка
Пупышачкі-пупышкі,
Калысачкі лістка.

## ПАЧАКАЙЦЕ ТРОШКІ

*Ніна Мацяш*

Што ведаем
Пра бліжніх нашых мы?
. . . . . . . . . . . . .
Мы помнім іх памер пантофлі,
Мы ведаем любімы колер іх.

Кажнюткі міг, відаць, не будзе лішнім
Пра ўсіх знаёмых весці гаману.
Я колькі слоў скажу пра нашых бліжніх
І дальніх добрым словам памяну.

Няўтомна Зося поліць кукурузу.
Пра снёных дзевак думае Антон.
Па соль у магазін спяшае Хруза.
Гарэлку жлукціць Стахаў Сілівон.

Чакае Чэсь мінальнай веснавосці.
Лякаецца Барбара гучных слоў.
Паехаў Халімон да свацці ў госці.
Нупрэй упрочкі выбраўся ізноў.

Спрагнела Хрол глядзіць на Паланею,
Ціт любіць размаіты дух лясны.
Адліжняе на сэрцы ў Гедымея
Ад стрэч раптоўных з Тэкляй ля сасны.

Марцініха дачок нянькуе ўвішна.
Лукаш пантофлі ставіць на дзяжу.
На выгарбку сядзіць Мірась.
Пра іншых
Я заўтра па абедзе раскажу.

## НЕ ХВАЛЯВАЦЦА

*Міхась Машара*

Пішу... і думкі йдуць не роўна.
. . . . . . . . . . . . . . . .
А з крыніцаў журчаць ручаіны.
. . . . . . . . . . . . . .
Мільёны ў небе яркіх зораў.

Лічыў я: сто семдзесят штукаў
Ля вёскаў бярозкаў як раць.
Дык сённяка новых навукаў
На заўтрака нельга кідаць.

У бляску выключных прычынаў
З галінаў злятае мітрэнь.
Убач ля мужчынаў жанчынаў,
Пагляд іхніх вочаў сустрэнь.

З асінаў, з ялінаў, з травіцаў
Да зораў шугаюць вятры.
Напіся ж з крыніцаў вадзіцаў
І кропелькі з губаў сатры.

# ПАТАЕМНАЕ

## *Уладзімір Мехаў*

Нехай траская падвода стукоча, цеслі нехай адмыслова грукаюць, дальбо думы высокія штурхель ды штурхель мяне трывожліва, жэбы занятку свайго штодзеннага, звышай дадзенага не забываў.

Хто аз есм? Чалавек аз есм. Уладзімеж, отрак Няхамкін, кліканы Мехаў. Барзо нязнатны, удародны велмі. Аталі ж пацягнула грэшным чынам на небывальшчыну,— занятак дзівачлівы, справу нязнаную,— пісаць! Стрымунку не маю. Цалкам захвоціўся. Пачуваю невымерныя здольнасці і майстравітасць у сэнсе артыстычнага слова.

А жыціе зусім непрыкметнае вяду. У гачах палатняных хаджу, як прасталюдзін харчуюся. Чорны кургузы кафтанец ды капялюш брылясты тылкі ў мроях бачацца. Тэраз у сне сасніў сябе ў лісавай гарлатнай шапцы [illegible] верхам веніцэйскага атласу, у мантыі парчовай. Прыемна сасніў. І Юдзіф, прыгажуня, сэрцам мудрая, вобак. Пад вейкамі цікаўна-заміловацы позірк. Лёгкія, бы матыльковыя крылцы, ручкі на раме кладзе мне...

Тое ж ёсць сон.

А на справе ад занятку свайго турбацыі зяло вялікія маю. Крытыкі, гіцалі мардатыя, выскаляюцца, нячысцікі, словы непрыемныя кажуць, жывоцікі мала не надрываюць са смяшынкамі сатанінскімі, аспіды. Тое не так ім, змяюкам-незычліўцам, ды гэтае не гэтак. Сапуць сапяткамі, натрэнты, зіркалкамі выведнікі тайных спраў валюптарна зіркаюць. Не токма звягаюць вадцы, абняславіць мамзеры стараюцца.

А знойдзецца кімідзянт хіхіклівы, у пашкві-

люс, пародыяй нарачоны, цябе ўставіць, бессаромнік, епікграмай, разбойца, праедзецца. Навокруг зубаскальства адно.

Скрыгатанне пашчэннае стрымліваю, гнятлівы страх перамагаю. Галава ўнурваецца, вушы і тыя заклапочана маршчакамі бяруцца. Пляжу бесурман акрутных такімі словамі, што вымавіць нельга ўголас, у думках пляжу.

Затое салодкай нагародай сабе сказ выдрукованы бачу. Ажно кружыцца замілована галава. Удзячнасцю да сябе цешуся. І тое-сёе тыкі намазюкаў. Не адарвешся чытаючы, пунсовею, вачыма агатавымі вільготнею. Стараюся, аддыхвацца часу не маю. Вось і ў леташнім годзе аскаромеўся, кніжкаю разгавеўся. Акцэсія за ўсе мукі несправядлівыя, воку незычліваму наперакор.

Не сумлявайся, і яшчэ будзе. Чытай, праваслаўны люд!..

## ПАСТУХІ

### *Павел Місько*

Хапіла ў старшыні рыхтобы: папаўгаворваў Янку на розныя пасады, нават намеснікам сваім рабіў. Але той адно жадом зажадаў — у пастухі.

Нарэшце праўленне ўважыла.

— У нашым дзеле глаўнае што? — пытаўся ў одуме Янка і тут жа адказваў: — Глядзі, каб каровы не трывожылі адна адну рагамі, не дапусціліся да порчы. Не варта пудзіць без патрэбы, нерваваць, але трэба тупаць, каб не забывалі, што пастух ёсць. І канешне ж — накарміць.

Да пастухоўства Янка адносіўся сур'ёзна. Лез са статкам напрапалую туды, дзе ёсць травы на адзін гам. Любіў прапусціцца за высыпанку, хоць ведаў, што бычаняты могуць гізануць, паставіўшы прутам хвасты, а каровы лаўгануць языкамі, ловячы каласы. Блізка падпускаўся Янка да канюшыны, але совеслівасці і атвецственнасці не губляў. Цяляты пры ім сталі што таўсмацікі, а каровы малака патроілі.

Чараду Янка глядзеў абярэжліва, то забягаў наперад, то хапатліва калываўся за кароўмі, бо ведаў: на таго таўсцяля Сідара — памочніка — усядно не пакладзешся. Сідару хоць жару падсып у залошчаныя брызянтовыя штаны — не махнецца за брыклівым бычанком.

— От неўдач, каб цябе агонь высмаліў,— як не з сябе выходзіў Янка.— Седню саб'еш на біштэк, гэтак пасучы, будзеш хадзіць раскаракаю. Хоць дзе табе хадзіць. Толькі і думаеш пакачацца. Сідар і сапраўды ніц-нічагенька не думаў.

— Лавай мамент! — гаварыў не раз і сапраўды лаваў. Круць-верць і залёг пад кустом.

— Не ўзбіцца мне на добрага памочніка,— бедаваў Янка і накідваўся на Сідара: — Бэнсь ты у прыполе, на маё няшчасце, страхавідла выкшталцонае, кловун жаўташтанны.

Але колькі Янка ні туркаў, ушчунак не дапамагаў. Сідар слухаў зацухмоленыя кампліменты і не зыбкаўся. Буркане штось праз нежывыя губы і меціцца ў цянёк.

Затое ж як радуецца Янка, калі статак прыхопіцца скубці духмяную сакавітую шчэць маладой атаўкі. Каровы хапаюць напоўніцу, жвялямі, бычанёткі стараюцца, аж сапуць. Тады неяк прагодзіць злосць, душу апаноўваюць салодкія хвалюючыя мроі. У такую хвіліну любіць Янка вы-

браць сушэйшую купіну, прысесці і дастаць з палявой сумкі неразлучны свой спадарожнік — часопіс «Пытанні рэлігіі і атэізму».

## ВЯНОК І ВЕРШЫ

*Іван Муравейка*

Збірала Ната кветкі,
Сабе вянок пляла.
Задумалася раптам
І на траву лягла.
. . . . . . . . . . .
Мішкі больш усіх кружыліся —
Аж дубы абмарачыліся.

Ля рэчкі гуртам дзеткі
Гулялі: прыг ды скок.
Смяюха Ната кветкі
Збірала на вянок.

Да кветачкі квяточак
Прыкладвала ўвесь дзень.
Спляла яна вяночак —
Аж люба паглядзець.

Пасля ў задуме нейкай,
Ледзь перавёўшы дых,
Раскрыла Муравейку
І верш чытае ўслых.

Ды што за цуд стварыўся:
Прамовіла радок —
І ўміг абмарачыўся
Увесь яе вянок.

## У ВЯРШЫНЯХ ДАСЛЕДЧАСЦІ

*Міхась Мушынскі*

Важнейшай перадумовай з'яўлення мясцовага прарока была вострая ў ім патрэба. Чакаць не выпадала. Разлеглая абшара крытычнай дзейнасці клікала горача і натхнёна. Таму ён неўзабаве прыйшоў і — скажам прама — адразу запоўніў сабою ўвесь крытычны мацярык. Якой лініі прытрымлівацца? Гэтае пытанне было для яго вырашана раз і назаўсёды: крытычную службу ён паставіў вышэй усякай іншай. Слоўная завілаватасць і заклікальна-бадзёрыя інтанацыі выяўлялі ў ім лідэра ад нараджэння. Абраны напрамак — нібыта яму ўсё вядома — дазваляў лічыцца сапраўдным яснавідцам. Зыходныя палажэнні канцэпцыі аб шчодрых маральных субсідыях і прымусовае падштурхоўванне да праблематыкі жыццёвай сімволікі і дынамічнай кампазіцыі як нельга лепш імпанавалі пачаткоўцам. А зайдроснае ўменне зыходзіць з прымата тых фактараў, што звілістыя лініі павінны перасякацца на належным узроўні, адпавядала канчаткоўцам.

Ці трэба гаварыць, якімі актуальнымі былі яго тэарэтычныя пасылкі?

Тым не менш паступоўцы затоена крывіліся, а сераднякоўцы дзейнічалі ў плане нейтралізацыі. Не будзем забываць і таго, што крытыку засцілалі вочы, назавём іх прама, начотчыкі і талмудзісты. Таму яго ваяўнічы пазітывізм у радзе выпадкаў аказваўся, не раўнуючы, самазадаволенай траянскай кабылай. Ён, крытык, кляўся ў вернасці — гісторыя таму сведка! — абвешчанаму напрамку, і ў той жа час адвольнае чытанне і голае крытыканства аддавалі перавагу сініцы ў руцэ

перад жураўлём у небе. Дзіўная, шчыра кажучы, логіка (а мы заўсёды гаворым шчыра): напачатку ён жывасілам аб'яднаў імітацыю глыбакадумнасці і праявы недаацэнкі мастацкасці, а пасля ў цэху пачынаючых убачыў адметнасць зместу, у цэху прадаўжаючых адзначыў слоўны камуфляж, а ў апошні, па яго вызначэнні, цэх не заглядваў зусім. Пазней ён катэгарычна адмовіцца ад такога падзелу.

Трэба думаць, некаторыя рэчы крытык бачыў не ў лепшым святле. Мы ўжо не кажам аб тым, што яго думкі часамі луналі высока над зямлёю, вышэй памянёнага жураўля. Як апасродкаваны вынік усяго гэтага, ён даў прыклады някрытыкі і ўзоры антыкрытыкі. Згадзіцеся, гэта было нелагічна ў адносінах першасных памкненняў захаваць рэнамэ аб'ектывіста. Штучна сканструяваныя пасылкі вялі да неабгрунтаваных вывадаў, нібыта іх аўтар зводзіў свае рахункі з рэчаіснасцю.

Разам з тым было б вялікай памылкай не бачыць, што крытык з абсягаў абмежаванасці смела ішоў да здавальняючага ўзроўню. Нельга абысці маўчаннем таго факта, што ён быў у кроўным сваяцтве з настражоўцамі, але яго не западозрыце ў няшчырасці да юнатнікаў і — трэба аддаць належнае — таксама да агністаўцаў.

Палеткі, засеяныя яго збожжам, вельмі паказальныя: яны прымушаюць ацвярэзліва паглядзець на таленавітую прастату яго пераддаследчых пошукаў. Хацелася б звярнуць увагу, скажам, і на тое, што абсягі яго дзейнасці ў вертыкальным разрэзе набіралі шпаркі разгон і, як знаць-ведаць, маглі перакінуцца ў гарызантальную плоскасць.

Таму прадстаўнікі новай генерацыі крытычнай гвардыі — і пра гэта хочацца сказаць асобна — павінны даказаць, што наш крытык паступова,

але няўхільна, супярэчачы самому сабе і абвяргаючы палажэнні іншых, натуральна жыў у стыхіі паступоўчасці.

А мы вымушаны абмежаваць сябе вышэйдаложаным.

## ЛІСТ З АЛЕЙНАЙ ГУТЫ

*Валянцін Мыслівец*

Здрастуй, Валька. Чаму ты гэтак неспадзеўкі даў ад мяне цягаля? Мы ж маглі б зрэдзь рабіць з табою спаткань. Няўжо ты адважыўся палічыць мяне за неўкую кіянку! Я, ты ж ведаеш, з хлопцамі заўсёды была дзікая, самадзейнага кахання не прызнавала і шалаў ніякіх не дапускала, хоць не адзін з вашага брата намерваўся зафармаваць са мною любошчы. З трэцяга класа шуфляваў у мой бок Пецька, але я заставалася незгамонлівай. Блізка шасці год тылаваў Санька, бегаў нягодзькаю і таксама зрэзаўся аб наждак майго сэрца. А калі накруціўся Васька і пачаў кідаць пад мяне бабышкі, ён атрымаў ад варот паварот.

Толькі ўбачыўшы цябе, я сказала: вось каму я аддам рэле майго кахання. Першая сустрэча з табой колкімі пырскамі працяла маю душу. І ты мяне адразу прыкмеціў. Нашы ўзаемаадносіны неўзамець пераключыліся з першай хуткасці на чацвёртую. Я савела да знямогі, бо лічыла, што завязала дружбу вечную і знайшла ідэала.

Але звяла цябе Сонька, бо яна ўмее падаць сябе як належыць — і вейкі падмалюе, і настаўбу-

ніцца так, што заўсёды нібы нахлапч. А ты і вызарыўся, бо ўсе вы, мужыкі, аднолькавыя. Падкінула яна табе габлюшку, і ты буркуеш цяпер ля Сонькі, але хутка пойдзеш не солана хлябаўшы, бо яе каларыферная сістэма пастаянку не церпіць.

У плуг бы запрэгчы тваю Соньку ды пугай харашэнька, пугай, бо ў яе даўно ад'ёмка не на месцы.

Канешне, табе падабаецца гульня ў каханне. Ну й няхай. Я настырацца не збіраюся. Чарнілам пасцелі не залью, неяк заседжанай у дзеўках пракідаюся, хоць голас мой часта зрываецца і я не магу звесці вачэй да світанку, бо адвыкаць ад цябе ўшчэрбіста.

Калі надумаеш, прыязджай. Узрадуюся сустрэчы з табой. І яшчэ цісну твае налітыя далоні.

Будзь здароў.

Заўсёды твая Тэкля Хамутыкіна.

*1 апрэля гэтага году.*

## БУЛЬБЕ НЕ ДАМО ЗАГІНУЦЬ

*Іван Навуменка*

Нарэшце дачакаліся. Збылося! Ва ўсіх групах аб'яўлена: заўтра студэнты ідуць на дапамогу калгасу — капаць бульбу. Мы будзем уласнымі рукамі ствараць матэрыяльнае багацце — разграбаць зямлю, атрасаць карчы, і важкія клубні таропка застукаюць у днішчы кошыкаў і вёдзер. Нас будзе хмяліць халаднаватае, з зямлістым водарам паветра. Ад хвалявання я не мог заснуць.

Раніцой, калі сіняватая шэрань паўтонаў стварала першародную гармонію быцця, я з ладна напакаванай торбай выйшаў за веснічкі. «Как родная меня мать провожала».

У калгас мы адправіліся стройнай калонай. Хутка з-за пагорка выкаціўся распаўнелы шар сонца. Мы ішлі яму насустрач. Падняліся на пакаты грэбень узгорка. Зроку адкрыліся засмужаныя далі. Справа стаяў абліты золатам бярэзнік, па схіле злева рассыпалася зялёная шчэць хвойнічку. Маладжавы ветрык абвяваў нашы імпэтныя твары. «А ну-ка песню нам пропой, веселый ветер». І песня неўзабаве з'явілася. Яна бадзёра ўзнялася над калонай і паплыла ў празрыста-аксамітную бездань.

Незаўважна для сябе мы апынуліся ў вёсцы. Вуліца была новая, сучасная. «Вдоль деревни, от избы и до избы...» Старшыня сустрэў нас ледзь не з абдымкамі і адразу павёў за аколіцу. Шырокай разлегласці пляц адкрыўся нашым вачам. «Полюшко-поле, полюшко, широко поле». Так, пляц быў шырачэзны, але гэта нас не палохала.

З натхненнем прыступілі мы да працы. Пачалося нібы вавілонскае стоўпатварэнне. Бульбіны адно мільгацелі ў руках. Па ўсяму полю раслі купкі картапляніку. Кошыкі ледзь не прасіліся самі бегчы да мяхоў.

Дзяўчаты капалі ў другім канцы поля. Там жа была Яна — сфінкс. Не! Гэта была казка. Рэбека! Лія! Неспакойныя думкі свідравалі мой мозг. Я, паціху мурлыкаючы, прагна жадаў: «Услышь меня, хорошая». Набягалі думкі-напевы. Мільгацелі думкі-жаданні. «У нас в общежитии свадьба». Я марыў аб агульнажыцці і тут жа развіваў тэзу:

Ее движенья непроворны,
Она ступает тяжело,
Неся сосуд нерукотворный,
В который небо снизошло.

Узбуджаны мозг настырна высоўваў тэорыю: «Будут внуки потом, все опять повторится сначала».

З непрывычкі пачынае балець спіна. Я раз-пораз паглядаю на сонца. Нарэшце дзённае свяціла падалося на спачын.

Мы склалі ў гурт кошыкі і пашыбавалі ў вёску. Дзяўчаты нас крыху выперадзілі. Яна трохі адстала. Дзіўная рэч: «Я гляжу ей вслед — ничего в ней нет». Чым жа яна паланіла мяне? Хутка сцяміў: я ж кахаў! Якая гэта магутная, неадольная сіла — каханне. Яно старое як сусвет і заўсёды юнае і непаўторнае. У хаце мне не сядзелася. Збольшага перакусіў: «Эх, картошка-тошка-тошка,— объеденье». Адразу выбег на вуліцу. Яна ўжо чакала мяне ўся ў арэоле неразгаданасці і таямнічасці, святочная і прыбраная. Мы павольна пакіравалі да рэчкі. «Вечерком на реке всякое бывает».

Шматгалосы вір жыцця застаўся там, ззаду. Вераснёвы вечар ствараў лёгка-журботны настрой. Яго ласкавая мяккасць пасяляла ў душы няясныя парыванні. Першабытная цішыня, аблітая таямніча-серабрыстым подсветам поўні, стварала прывабна-спакойную ўрачыстасць. Шчымліва-невыказная пяшчота апавіла нас, ядрана чыстае паветра распірала грудзі прагай кахання. Паволі, па-асенняму засынала прырода. «С берез — неслышен, невесом — слетает желтый лист...»

Памаладзелыя, за поўнач вярталіся мы да сваіх часовых прыпынкаў. Я нават не мог уявіць, як гэта ноч — цэлую вечнасць! — не буду бачыць

яе. «Голос взволнованный слышу я рядом: «Что ты, Вася, приуныл?» Мне адразу зрабілася лёгка і радасна. Праз хвіліну я забыўся моцным сном.

А назаўтра прачнуўся бадзёры, гатовы перавярнуць горы.

Да абеду ўсе пяцьдзесят гектараў былі выкапаны. Засталося пагрузіць мяшкі. Неўзабаве падышлі машыны.

«Эй, ухнем!..»

## ГЛЯДЗІ Ў КОРАНЬ

*Янка Непачаловіч*

О як жа звязана трывала
Усё ў жыцці адным вузлом.

Заўсёды патрэбна трывала
Да існасці шлях пракладаць.
Што ўчора яшчэ хвалявала,
Сягоння пачнеш забываць.

Ў бязвыйсці закладзена выйсце;
Б'е ўслед за маланкаю гром.
На волі красуецца лісце,
Праз рэчку шыбае паром.

Распранутым ходзіш улетку —
Зімой распранацца не след.
Калі ты шануеш суседку,
Паглядвае коса сусед.

Круцель пакарання не міне,
Пакрыт будзе ганьбаю хлус.
Дзе горда узносіўся мінус,
Там цвёрда становіцца плюс.

Зімой салаўі недарэчы,
А ў чэрвені — спеў салаўёў...
Глыбей жа глядзі ў корань рэчы,
Каб бачыць там сэнс каранёў!

## ГУЛКІЯ СКОКІ

*Уладзімір Някляеў*

> Аціхае зялёная музыка звадаў,
> Пад якую скакаў я,
> Як цэп на таку.

Маладзік маладосці падковай сагнутай
Утрапёна павіс на абдзёртым суку.
Цень ад дзядзькі Ігната да цёткі Дануты
Праз брызглінавы куст прасцірае руку.

У парыве змаганным ля соннай дарогі
Дуб адчайна прыжмурыўся (лом на плячы!),
Каб чаромха і бэз пазбыліся трывогі
І з мядзвяным настроем ішлі ўдалячынь.

У буянні дзядоўніку, руты і хмелю
Безгалосіца ў скрусе галосіць (пачуй).
Успаміны плывуць талакой (вы іх мелі?),—
А ў мяне яны з ночы стаяць уваччу.

Дзічак сёлета столькі ўрадзіла (хто гляне!).
То зрываю з галін, то адшукваю пад.
А стракозам раздолле на цёплай паляне:
І садзяцца на кветкі, і лётаюць над.

Прадказанне мне праўдзіць: пад'еўшы ападу,
Чую, скрыпка вядзьмарыць (то — кліч да мяне...).
І пад снёную музыку леташніх звадаў
Я з Еўропаю скачу, як цэп на гумне.

## НА ЗАХАД І НА ЎСХОД

*Рыгор Няхай*

Будую дом —
Пагода, непагода.
Акно на захад
І акно на ўсход.

Будую дом.
Бярвенне стогне глуха,
Калі я майку скіну і калі
Сякера, узлятаючы з-за вуха,
Кантуе непадатныя камлі.

Будую дом нябачаных памераў.
Печ — у кутку,
А грубка — пасярод.
На поўдзень — дзверы,
І на поўнач — дзверы.
І два акны — на захад і на ўсход.

# КАМАНДЗІРОЎКА

*Вера Палтаран*

Авохці мне, кліча рэдактар. Сэрцайка закалацілася. Гэтак чакала выкліку і — баялася.

Ціка-а-аво. Што ён скажа? Ось каб гэтак:

— Тава-арыш супрацоўнік, збірайцеся ў камандзіроўку.

Заходжу. Рэдактар — сама прыемнасць. З куточкаў вуснаў струменіць ціхая пяшчота. Перад ім ляжыць... Ой, так і е. Камандзіроўка.

А сам лагодна пазірае і пытаецца, ці хочу я паехаць на Палессе.

Яшчэ пытаецца!

Дзіва што хочу!..

І вось ён, запаветны лісток з пячаткай, у руках. От добра. Нацца, паслязаўтра ад'езд. А я непадрыхтаваная. От бо толк. Трэба хутчэй збірацца. Блакнот... Алоўкі... Вой — няма аб'ектыўнасці. Дай-но, дай, дзе яна? Без аб'ектыўнасці няможно. Шукаю. Стараюся. Нарэшце знайшла. Накладаю паўненную сумку. Ето каб не туманіліса вочы ружовасцю...

Паехалі!

— Та-та-та, та-та-та, паўязом-прыўязом,— шчодра абяцаюць колы на стыках рэек.

Палессе... Ах, як хорашо думаць пра цябе!

Добро, я вам скажу, на Палессі. Кожны дзядзько жызь панімае. Вон табе прачытае газету ды яшчэ паслухае, што гавораць па радзіві. З такім не папрастарэкуеш.

А цётко!.. Гавары з ёю — не нагаворышса. Пра жыццё-быццё ўсё чысценько раскажа — як сын у армеі служыць, яко ланно дзяўчо выкачаласа,

хоць сёння вяселейко збірай, яка смакотна картопель выбуяла...

Матэрыялу набярэш — закачайся. Блаславі, як кажуць. Глядзі, каб саўладаць анно. Ніякія рэдактары не адмовяцца.

А ў думках яшчэ: шпарчэй выстуквайце, любыя. «Даўязом, даўязом...»

Вось і цягнік спыняецца.

Выходжу.

— Дзень добры, маё Палессейко! Як мы жывом без нас?..

## НЯСЦЕРП ЛАЗЫ

*Сяргей Панізнік*

Свавольная ношка...
А ночанька-кошка
паказвае месячык, бы кіпцюрок.
Заву не дзяўчыну,
заву аблачыну:
на жарты вясёлыя даў я зарок...
. . . . . . . . . . . . . . . .
Ну й ку-ка-рэк-нуў бы, здаецца...

Свавольная мышка
угрызлася ў кніжку,
упіўся ў старонку яе кіпцюрок.
А я не жартую,
я зборнік рыхтую,
на гулі пакладзен ваярны зарок.

Галосныя сосны
паблыталі кросны,
і робіцца млосна, аж кідае ў пот.

А рослыя воі
пад роснаю хвояй
стаялі ў смузе густасейных згрызот.

Закончыўшы справы,
спяшаў я направа —
у прылюб і розлюб збрунелых вякоў;
пад пеўневы спевы
звярнуў я налева,
дзе счалася крыўля аздзеклых радкоў.

Калісьці мы чулі
куванне зязюлі,
але не звярнулі увагі на зман.
Пайшлі адпускніцы
дамоў на грамніцы,
а іх ля капліцы амроіў туман.

Свавольная кошка
звярэдзіла ножку.
Кульгаючы трошкі, прылегла спачыць.
Я б мог кукарэкнуць
пра лёзную пекнасць,
ды бацька лазой малавата вучыў.

## ПА ПЕГА-А-АСАХ!

*Пімен Панчанка*

Мне б імя на Манблане высечы —
Столькі выездзіў і схадзіў.
Нада мной небасхілаў тысячы,
Я ж пад імі — ўсяго адзін.

Снобы лаюцца: — Глянь, эклектыка,
Бач, агульшчына — сотні тон.
А ў мяне ўсю грудную клетку
Распінае пякельны агонь.

Вунь мінуўшчына жала выпроствае,
Смоўжам лезе то плесень, то чад:
Скрозь па пляжах мужчыны тоўстыя
На танклявых глядзяць дзяўчат.

Сябра быў — эрудыт культурнейшы,
Сыпаў ізмамі — кідала ў жар.
Аж гляджу я — акурак не ў урну, а
Бразь, змусоліўшы, на тратуар.

Возьмем вершы: той — куля, а гэтыя —
Горсць манет, а вось на! — пішу,
Хоць рыторыка ярасна петуе,
Кіпцюрамі ірве душу.

Дык міндальнічаць некалі: вокала
Нерыфмованых гэтулькі спраў.
Мчы ж, Пегас, селязёнка
Каб ёкала,
Каб аж хвост небасхіл закрываў!..

## ЦІ ІСЦІ?

*Міхась Парахневіч*

Каторы год падрад Язэп шторанак адводзіць восем хвілін Аксюце — думае пра яе. На большае часу не выстачае. За гэтыя хвілі, панятна, з лю-

бай шмат не набудзеш. На ростань зацісне сэрца ў ашчэм, хоць крычы, хоць падай. А ўсё гэтыя акзаменты за сямігодку ў вячэрняй школе.

Закахаўся Язэп у Аксюту яшчэ малодшакласнікам. Яна сядзела за партай паперадзе. Паглядаў на яе сарамліва-горача, а часам скасюрыўшыся. Стаўшы сярэднякласнікам, не адыходзіў ад яе ні на крок. Раўніва адпрэчыў падгалістага субчыка Ксавэрку, які, зразумелае дзела, пачаў быў падлабуньвацца да прыгажуні.

— Эньч ты, яціць цябе раз,— адазваўшы ў куток, нанізваў яму фразу на фразу.— Падкіну яжа ў крэсла, калі станеш яшчэ зіркаць.

Той збянтэжана паглядзеў выпуклымі вачыма з чырвонымі прожылкамі, выцер зашмальцаванай кашуляй нос, адскочыў і колка заспяваў: «Жаніх і нявеста! Нявеста без места!» — і гэтым самым выдаў сябе на талерцы.

Потым Аксюта паехала да цёткі аж за дваццаць кіламетраў і засталася там. Язэпу ўсё не было калі наведацца да любай. Нарэшце пашчасціла. Здаў апошні акзамент і вырашыў: еду неадкладна, каб не пайсці абочынай жыцця.

Крыху атаварыўся, пайшоў на станцыю, купіў білет, сяк-так увапхнуўся ў вагон. Праз паўгадзіны сышоў на раз'ездзе і пакіраваў у селішча. Пагода стаяла — закачацца. Рухацца была адна любата.

Ішоў, і агеньчык шчасця разгараўся ў ягонай душы. Успомнілася апошняе развітанне. Вочы каханай блішчэлі ярка і прагна, нібы хацелі ўзяць яго з сабой. Пульхныя вільготныя губы нервова паторгваліся. Кофтачку туга тапырылі грудзі. Ён падышоў, падаў руку.

— Енч ты, любая Аксюта,— гаварыў шчыра,

не кідаў дымавую шашку ў вочы,— я цябе, бясспрэчна, буду памятаць.

Язэп прайшоў ужо добрую палову шляху. Уваліўся ў лес. Ніштаватую сцежку перагарадзіла паваленая ветрам бяроза.

— Гэч ты яе, як перакулілася! — здзівіўся хлопец і тут жа падумаў: — Вось людзі! Колькі іх тутацькі прайшло! Пераступаюць праз ствол, і ніхто не надумае дапамагчы дрэву. А нехта нават станавіўся. Вось і камякі гразі засохлі. Нікому не цюкне, што лясіне балюча ляжаць.

Вядома, само сабой захацелася ўдружыць дрэву, выпраміць яго.

Язэп разуўся, падкасаў штаны і зайшоў у цёплую балотную твань. Стаў на кавалак пня, абедзвюма рукамі ўхапіўся за ствол і пачаў падымаць. Бяроза толькі варухнулася. Тады ён скінуў штаны, кашулю, майку, адышоўся, парэгуляваў сам сабе рукамі і з новай сілай прыпаў да ствала. Паднатужыўся. Дрэва трохі паднялося. Язэп прыгнуўся, падставіў загарэлае дужае плячо і зноў падналёг. Бяроза спрытна пайшла ўгору. Яе чуб ашчаперылі ўчэпістыя галіны алешын.

— Ну, вось і ўсё,— падняў Язэп галаву,— жыві, бяр...

Але не дагаварыў. Там, дзе хвіліну назад калыхалася бярозавае вецце — гэта Язэп цвёрда зафіксаваў у памяці! — цяпер трымцела асінавая лістота.

— Што гэта са мной? — не паверыў хлопец, дзівячыся, працёр вочы і яшчэ раз глянуў уверх. Там трапятала асінавае лісце.

Тады Язэп падышоў да ствала, паўзіраўся — вось чырвона-барвовы налёт лішаёў на зеляніве асінавай кары. Ён паглядзеў на плячо. Там яшчэ засталося некалькі беленькіх стужачак бяросты.

Ён дастаў з партфеля кніжку, адшукаў патрэбную старонку — так і ёсць: падымаў бярозу, а праз колькі радкоў яна ператварылася ў асіну. Перагарнуў наступную старонку — тое ж самае.

Хлопец сеў на пянчук і глыбока задумаўся. Яму вельмі хацелася пабачыць Аксюту, і раптам ёкнула сэрца: а што, калі і Аксюта ператварылася ў Мальгрэту? Магчыма, яна таксама прачытала гэтую кніжку...

## БУСЬКІ Ў ВУСЬКІ

*Генадзь Пашкоў*

Я — яршысты,
крылаты,
а душой малады.
Над маёй белай хатай
буслуюць гады.

Шчупачыная ціша
ўшчэрць наліта расой.
Ноч нябачна калыша
трапяткое крысо.

Месяц з рупнай ухваткай
аглядае прастор.
Я іду з ненаглядкай
у звільготненасць зор.

Пасля буські у вуські
пад прыціхлай вярбой
ціха мружацца плюські,
здэцца, самі сабой.

Тут мяне як ніколі
раптам кідае ў пот:
смехаўная сваволя
прагне новых пяшчот.

Прытулюся шчакуськай
да гарачай шчакі.
З сакаўною малюськай
пабуслую ў вякі.

## НА ШЛЯХАХ ПЕРАМОГ І ПАРАЖЭННЯЎ

*Навум Перкін*

Прырода гнасеалагічнага карэння паэзіі грэчаскага паэта Піндара, несумненна, закладзена пад егіпецкімі пірамідамі і прыціснута зверху вялізманай грудай «камней преткновения».

Нас у першую чаргу цікавіць пытанне: ці мог ён пазбавіцца надзвычай шырокага вузкасацыялагізму. Бясспрэчна. Але для гэтага патрэбна было пераадолець першабытны індывідуалізм і прыкласці пэўныя і канкрэтныя намаганні, каб выцягнуць вышэйпамянёнае карэнне з-пад шматтысячатоннага грузу сівой мінуўшчыны Наднілля. На жаль, мы павінны з усёй рашучасцю канстатаваць, што ў Піндара на гэта не хапіла сіл. Адсюль яго аб'ектывізм, абсалютызм, авангардызм, дагматызм, дыялагізм, дэталізм, іранізм, канструктывізм, мадэрнізм, суб'ектывізм, схематызм і, нарэшце, -эзм, той -эзм, які, па вобразнаму сцвярджэнню В. Івашуты, пакуль яшчэ не знайшоў

сваёй канкрэтнай слоўна-гукавой абалонкі, але, бясспрэчна, знойдзе.

Вобразы паэзіі Піндара не столькі эмацыянальныя, колькі рацыя- і ірацыянальныя. Разуменне аўтарам сутнасці як дыферэнцыяцыі, так і кансалідацыі паэтычных высноў сферы псіхалогіі, эмбрыялогіі і палеанталогіі, як у люстры, адбілася ў яго аднарадковым вершы:

Гучна я слаўлю магутнага Зеўса.

Гэты твор сведчыць, што яго аўтар не пісаў аднадневак, хоць мог бы пісаць, а мы маглі б і тут адзначыць як сонечныя, так і ценявыя бакі.

Відаць, шмат хто не зразумее, чаму паэт прайшоў міма гамерызму і эўрыпідызму. На наш погляд, гэта пытанне надзвычай спрэчнае, і мы яго развяжам у спецыяльным паўтаратомным даследаванні «Сафо і творчасць А. Саўроцкага».

Піндар прайшоў складаны і супярэчлівы шлях ад наватарства да ілжэнаватарства; у яго мы знойдзем і падробку пад новае, і рашучае адмежаванне ад старога. Ён не стварыў вобразаў кулакоў і іхніх падпявал — падкулачнікаў, затое едка высмеяў гаргон і мегер, якія ў той час адыгрывалі не меншую ідэйна шкодную ролю, чым першыя ў дваццатых гадах.

Вядома, здольнаму паэту значна цяжэй было пераадольваць памылковыя пазіцыі, бо Я. Гербановіч і І. Лысаватых тады яшчэ гулялі ў класікі[1], а Дз. Цёлачкін і В. Кузнечыкаў вучыліся пэцкаць пялёнкі.

Таму катэгарычна можна сцвярджаць: шлях Піндара быў звілісты і пакручасты, хваробы рос-

---

[1] Пра класіку і класікаў яны ў той час не ведалі.

ту моцна давалі сябе адчуваць. Але паэт здолеў пераадолець адлегласць часу і гаворыць з сучасным пакаленнем аб'ектыўна-суб'ектыўнай мовай рытмаў.

## ВЕРШЫ І ЯКАР

### *Паўлюк Прануза*

Чалавек — невычэрпная рэчка...
Чалавек — галінастае дрэва.

. . . . . . . . . . . . . . . .

Чалавек — брат прыроды і сын.

. . . . . . . . . . . . . . . .

Лягчэй у мора кінуць якар,
Чым выцягнуць яго з вады.

Магчыма, нехта усумніцца
У шчырай праўдзе важкіх слоў,
Ды мне даступны таямніцы
Глыбінных думак і высноў.

Хто спасцігаў мае напевы,
Той зразумець быў вельмі рад,
Што чалавек — рачулка, дрэва,
Паветра, зорка, вадапад.

Сягоння зноў я ў смазе плённай
Да трапяткіх радкоў прынік.
А збоч біёграф — мой натхнёна
Чытае новы чарнавік.

Не трэба скідкі мне ніякай,
Магу я з годнасцю сказаць:
Цяжэй у мора кінуць якар,
Чым верш пра якар напісаць.

## БОЛЕЙ СВЯТАЎ

*Пятро Прыходзька*

І раптам — я чую — упала
Пяро ў цішыні са стала.

Ранак, поўдзень, вечар зорны —
Ад стала я ні на крок.
Па паперы роўна, спорна
За радком бяжыць радок.

Стомы я нічуць не знаю,
Радасць поўніць мне душу.
Ручка зваліцца — бывае,—
Падыму і зноў пішу.

Кожны з вершаў — ты паслухай —
Я нікольці не зманю —
Поўны гарту, поўны духу,
Поўны сілы і агню.

Дзень за днём і год за годам
Не стамляецца рука
Напісаць да дня пілота,
Птушкавода, рыбака...

Ямб з харэем склютаваны,
Дактыль плешча цераз край...
Я на вершах гартаваны,—
Толькі святы падавай!

## СНЯЖНЯ НА ПАВУЦЦІ

*Іван Пташнікаў*

Перша вецер ныў ценка і калюча, што збіраючыся плакаць. А на додніцы спопаразку закрутнуў высака і загаляшыў нажудка, нібы пайшоў стаяросаву польку. Улукаткі нацёг спаніжэлы туляг, нямогучы справіць вытрым, і, хапатнуўшы завірушша, аберуч кіднуў — па ашмётку — на Задзярыногіну пуню,— як хто ўмеццем з тока. Мерыўся лучыць — усё скобам — у дзюрку з даланю. Але бальшэцце разбілася — на бярвянцах: не хліпнула. Толькі шчапцё сняжні бы вырвалася навыскачку: шморгнула пад шчыт. Перакрутнуўшыся ў вярхоллі, прашмыгнула круга легароў, ад дзядка павярнула да матачыны — наўкася. Ля пярэчкі ледзь не зачэпала павуццё,— тое самае, што зглэмзаў павуцька, якога длубнуў падцыглясты вераб'юк.

Выдарылася яно неспадзеў: страціў насцярогу. Дый было ад чаго. Пуду не чэкалася,— ціхня стаяла паўсюд, ніхто не андрымоніў. А семнаццатка Спадніцкага Малуся пайшла з граблявішчам: ці блізкі свет гэтыя Дзевятнасця Галешын. І павуцька вылез на махоцце — падумаў: не здлубаюць. Свяціла, узышоўшы, здалёку сонца.

Сточанае чэрвем верхняе вянцо аціплела і насякомы што захліпаўся: радасна. Таму не гледзеў: з ралатай сахі вераб'юк пералётнуў на разгаты тофель: у нейкім метры ад сцяны.

Гнездаваў ён глыбока ў завокані Адкіньхвоставай хаціны — бліжэй кватэрышча не лучылася. Думаў: пажывіцца, бо намэнчыўся без хваста як дось — ад пятровак, калі вырабіла на яго нападанак Нежанісяніколіна котка. Тая — падласая памаўза — думала: умурлычыць вераб'юка, аб'ядань за курчанё сыдзе. Кідок яна падрыхтавала што след — левай задняй удручыла ў спрагу, пярэднімі — зразу — учарэпілася за бульбеўнік. У кідку толькі пачувала: пакаўзунак задняй правай. На гэтай мястоўні Нежанісяніколіха выцурбаніла вушат мыцця. Каб сцарэпаць за галаў — не, разліку не лучыла. Толькі за хвост: ладны, даўгі. Увесь застаўся — у пярэдніх.

Які з пяра наедак: не жвакаючы, кінула свежы — яшчэ пах — пад парканнем. Сама села як ўсё роўна не ловячы: хоткі-няхоткі — вымусова — загавела. Аблізала ніжнюю вусну, верхнюю не кратала: раздумала. Пільсць прыгладзіла языком: харашылася. Навет запела курню.

Вераб'юк ледзь дапяў да галін, як не ўмеючы, адтатурыўшы крылле, без хваста. Сеў сцюцюрыўшыся. Толькі тады цюкнула ў голаў: не загібеў, выцыўкаў. Аж пасміхнуўся. З таго порыва Нежанісяніколін падворак аблётваў круга, нават удваёчках: са стрыечным братам. І праз тыдню лучыла шчасце: нарваўся на павуцьку. Глыкнуў неўзмаргнівока: смакаўё. Павуццё — засталося: пылілася лета і восенню.

І вось цяперак ля яго выкрутвала ў танцах сняжня.

# НЕ ВАРТА БАЯЦЦА

*Аляксей Пысін*

> Дзесьці тупаюць пад дубам коні,
> Дзесь бярэ ваду мая радня.
> . . . . . . . . . . . . .
> І я кажу: не бойся, Еўдакія.

Дзесьці маці немаўлятку песціць,
Дзесьці пахнуць верас і чабор;
Дзесьці коні тупаюць, а дзесьці
Пчолы пачынаюць медазбор,

Дзесь расце надзей маіх бяроза,
На якую лазяць хлапчукі;
Дзесь мае гады ідуць абозам
І жывуць на свеце сваякі:

Цешча, сваццця, кум, кума, швагрэня,
Цэлы дзень лічы іх — не злічыць.
Гэта ўсё з жыццём маё карэнне,
Гэта — незабыўнасці ключы.

Побач дружбакі мае былыя
Ходзяць разухабістай гурбой.
Ты іх не пужайся, Еўдакія:
Я, целаахоўнік твой,— з табой.

# АГРАНОМ

*Міхась Пянкрат*

Я аграном. Аграном. Няўжо я аграном? — мяльтэшыцца ў мяне ў галаве і ўсё такое. Перада мной прыгаюць прастакутнікі палёў, трапецыі сенажацей, трохвугольнікі балот, ромбы абугоняў, прамыя дарог, крывыя канаў, спіралі рэчак, сегменты прысядзібных участкаў.

Аграном. Радасці — во!

У кішэнях.

За плячыма.

На сэрцы.

Пад ложачкай.

У каленках.

Хіба забыць мне той дзень?

Мора залатога збожжа.

Хмялёвы настой паветра.

Бярозка як дзяўчына.

Дзяўчына як бярозка.

Міма нас, шыбаючы з усіх капытоў па пясчанай дарозе, імчыцца старатлівая жаробка з сядлом, з'ехаўшым пад бруха. А праз колькі часу дыбае поп. Былы. Зараз загадчык птушкафермы. Змікіціў, падла, на чыім баку праўда. Царкву перад прачыстаю на замок — і ў калгас. Бабулькі — пляваліся: богаадступнік. А ён і не шманае.

Жаробкі ўжо не відаць. Як хвастом накрылася. Поп увесь расхрыстаны. Распараны. Лае на чым свет стаіць. Жаробку. Крыж. Пятра-ўгодніка. Значыць, яму ні фігу, ні дзякуй.

У вачах маіх ачмурэлая ружовасць. Абапіраюся на шагала. Звеннявая — побач. Яна ашпарвае мяне кіпеннем трапяткой сінявы з шалёнай іскрынкай. І мне тут жа хочацца схаваць твар у

кучаравы кужаль яе духмяных валасоў, афарбаваных у залацісты колер праменямі надвячоркавага свяціла. Не ведаю, як гэта зрабіць.

Таму я думаю.

Разважаю.

Сярдую.

Каб не адмачыць коніка.

Каб не ўдарыць у хамут.

Каб не сесці макам.

Каб без перахібу.

Маўчу гадзіну, другую, трэба ўсё ўзважыць. У яе не купіць.

— Эх ты. Дзеўкі баіцца. А яшчэ ў горадзе вучыўся.— У голасе звеннявой знішчальная пагарда.

Вось табе і на.

— Аг-ра-ном! — Яе постаць растае ў паўзмроку.

Аграном?..

## ПАЎНАКРОЎНАСЦЬ

*Яўген Радкевіч*

Бясспрэчна, Эльдар жыў паўнакроўным жыццём. Ён ўмеў так пераключаць сябе, што асабістае не перашкаджала грамадскаму, а апошняе не ўмешвалася ў інтымнае.

Раніцай, выпіўшы шклянку кавы, ён спяшаўся на работу. Ля дзвярэй лабараторыі яго твар натхнёна асвятляўся нецярплівым чаканнем сустрэчы з паліўным бакам і крывашыпнай каме-

рай. Трывожна-радасна пераступаў ён парог. Усё звычайнае і будзённае заставалася там, за дзвярыма, а тут, у царстве прыбораў і рухавікоў, панаваў святочны настрой.

Невымерная хваля радасці авалодвала ўсёй Эльдаравай істотай. З заплюшчанымі ад шчасця вачыма ўдыхаў ён салодкі масляны туман, які плыў ад сумесеўтваральніка да катушкі запальвання.

Стрымліваючы дыханне, хлопец пяшчотна праціраў карбюратар, выслухоўваў генератар, аглядаў кандэнсатар, абдзьмухваў акумулятар, гладзіў каларызатар, абдымаў трансфарматар. Пасля гадзінамі не адыходзіў ад выпрабавальнага стэнда, вызначаючы кірунак альфа-часціц у напрамку да каленчатага вала. Яшчэ на мінулым тыдні ён вызначыў памеры зазораў у рубашцы цыліндра і ступень ціску на педаль тормаза пры асінхронным гідрапрыводзе.

Сёння ён увесь дзень здымаў загадкавую і прывабную карэкцыю хуткасці крывашыпна-шатунных механізмаў. Позірк хлопца выпраменьваў чыстую радасць быцця.

Мімаходзь, але прывычна зірнуў на гадзіннік. Заставалася пяць хвілін работы. Пара канчаць. У думках, як заўсёды, склаўся план на заўтра: маятнікавыя падвескі да гідрапаўкомпаса.

З лабараторыі Эльдар кіраваўся ў буфет перакусіць. Цяпер ён даваў волю сардэчным памкненням, каб не адставаць ад часу, адчуваць дынамізм і мабільнасць жыцця і сваю ўсебаковую развітасць.

Ля прахадной званіў Элі. Яна, як звычайна, чакала яго. Здавалася, бачыў у трубцы загадкава-прыязны позірк і пакорліва-смутны твар.

Эля сустракала ціхмяна і сарамяжліва. Пры

яе відзе ў сэрцы Эльдара разлівалася нясцерпна-салодкая хваля і пачынала кружыцца галава. Звабная ў сваёй грэшнасці жанчына горача тулілася да хлопца сваім хвалююча-пяшчотным целам.

Эльдара па-сапраўднаму радавала дзесяцігадовая Эліна дачка. Як наш сучаснік, ён разумеў неабходнасць павелічэння насельніцтва. Але яго кідала ў дрыжыкі важданіна з пялёнкамі, слёзы, таблеткі, мікстуры, недасыпанні. А трэцякласніцы ўсё гэта без патрэбы.

Намілаваўшыся, Эльдар спяшаўся дамоў, каб выспацца і раніцою зноў адчуць зладжанае дыханне тэхнікі.

## У НЕТРАХ НЕСПАСЦІГЛАСЦІ

*Алесь Разанаў*

Неспасціглыя словы брыдуць з-пад рукі.
. . . . . . . . . . . . . . . . . .
Напачатку было балота.
. . . . . . . . . . .
Ды словы спаражніліся.

Прагалы зеўраць смагай праз адхон;
Бы ветраўнік, цямнотай прыгнялі сны.
За ўласнымі вушамі наўздагон
Наперад пяткамі імкну ў размах, няісны,

У неспадобна-вершным будане,
Дзе словаклад ламае ногі ў ям'і,
Мая даіснасць румзала па мне
Ад вераду пустэльнага няўцям'я.

Няўбежны чоп:
сутонлівую гаць
Надбытнасцю запаланіла слота.
Дзе вызнак?
Дзе працяг? —
Нашто гадаць:
І напачатку, і ў канцы — балота.
Мне люба тлом сябе —
таго! —
дражніць,
Калі асмяг звышпрэклю насцярожніць...
Ад сэнсу сам сябе я спаражніў.
Хто ж ад мяне паэзію спарожніць?!.

## У МАРНЫХ ПОШУКАХ

*Віктар Ракаў*

Нешта сэрца адчула трывожнае.
. . . . . . . . . . . . .
Былое не вяртаецца ізноў.

Учора ў поўдзень рыжая туга
Маю істоту ўгрунь запаланіла.
Маім пачуццям болей не шугаць,
Бо знікла
дзесь няўзнак
былая сіла.

Мінула жыццядайнасць — не вярнуць.
Няма шляхоў назад віхурнай юні.

Праз морак дзён звісае нудна муць,
Як павуццё ў безгаспадарчай пуні.

Пра скруху часу прагнуць мне сказаць
На полі абмялелая канава,
Ў аборку парадзелая лаза,
На лузе парудзелая атава.

Камусь дано з гадамі маладзець,
Спазнаць кахання полымень жывучы.
А я гадаю ў роспачы штодзень,
Дзе адшукаць душы сваёй пявучасць.

## ГАРАДСКІ СЯЛЯНЧЫК

*Мікола Ракітны*

Час — ён гэтакі. То гундоса палыбіцца даўгаднеўе, то цупка выструніцца, бытта пагасцёўшчык, то іногды ўгрындзіцца: дзедуган ты, няўго хто. І тады амаль малітоўна набягае тое неўпрыкмець, дагодліва пераносіць туды, у хлапецтва, прымушае памінкаваць.

Даўняя дзедаўшчына: селішча наводшыбе, гулкая брама пад шопай, на вільчаку бляшасты певень, сані на бэльках, карыта пад калёсамі. Там і жаніхаваць я пачаў: якраз на сёмуху. Прыхапкам бегаў у вёску да здзвіжання, шчыгіляў у новых ботах, выкрындзельваў. У скоках меў прыткасць, аж не знаходзілася роўніцы. Было ўпаданне за падравесніцай Вулькай, чапурыстай крамянай таўстушкай. Хоць не надаралася асобага

любення, але яе ўхопісты смех у аблапістых ашчаберках хлапатні быў у навіну, надаваў прыязнь і вабнасць. Праўда, на закругленне не вёў, не гірычыўся. Так, пацягайства было наўме, беганкай адбываў.

Прышалыгаўшы з палюбошчаў, нікаў цемрай па палічках, лез у печ, у адзін мент хлапатліва ядаў з паліванай варэйкі крупнік пшаняны, з непаліванага цугунка боршч грыбняны. На запівонь ласаваўся салодкай грушнянай квасоўкай. А на закусь даставаў з пазухі колькі пабурэлых у лежцы, але тугенькіх гнілак, паядаў з радасным уміленнем.

Апоўначы качаўся глеўкаваты на роднай мякаці старога кажуха. Ляжаў пашці праўцом, быттта ў нямозе, ацішэлы і размякчэлы ўсёй сваёй мядзведзістай сілай. Ясная спеўная ціхата атуляла неўтаймоўны дух, улагоджвала з паноўленай цікавасцю.

А назаўтра браў кашоўку... Эх, бярозкі-арэшнічкі!.. Выкрочваў на цэлы дзень у лес па свайму халасцяцтву. Паветра — мацак душы. Завабны одум не шкаджаў налоўчана падымаць абабкі. Хадзіў да спатнеласці, а лёгката не кідала.

Так, было. Толькі што гэта я ў мудроты ўнікнуўся, жвавы клапатун. Бягуць гады, шкрабуць скрушліва, мітрэнжаць душу. Ухопістасць яшчэ ёсцека, чырванінка на шчоках іграе. Але ж калі я цяперака дастану без вілак з печы крупеню. Ці хоць бы кулеш нейкі. Газ кругом, печ нібы без патрэбы. Аб ставы не спаткнешся ацёмначы. І парсючку не вынесеш замяшаўшы. Бо дзе той у горадзе хлевушок. Зяць вунь да аспірантуры падаўся,— няёмка з парсючком. Атаўкі дзе кашанеш. Угу... не тое цяперак, далібог, не. А быў разонт, быў...

# РЭХА АСАЦЫЯЦЫЙ

*Іван Ралько*

Калі на бязмежнасць версіфікацыйных сувязей глядзець гнасеалагічна, можна заўважыць вобразную мадэль таго гукараду, які, нібы ў фокусе, лучыць імгненную работу мозга ў двухадзіны працэс сінкрэтычнасці мыслення. Больш таго, мы схіляемся да думкі, што эмбрыяльны стан асацыятыўнай мікраструктуры вершаванага радка можа развінуць крылы і загучаць акустычна моцна ў суадпаведнасці з мройліва-мілым воблікам, які час ад часу мільгае ў нашых няпэўных уяўленнях. І тады мы атрымліваем эстэтычную інфармацыю аб канкрэтнай сітуацыі ў форме сінтэтычнага сплаву алітэрацыйна-асанансных гукарадоў:

Гнаўся я за каханнем сваім,
А яно ад мяне
Па бары уцякала.

Значыць, сінгарманічнае сутрапятанне выклікае падкоркавыя працэсы, садзейнічаючы гэтым самым перадачы іскрамётных сігналаў ад слова да слова па ланцужках рытмарадных пульсацый. Сапраўды, дадатковае пазнанне сігналаў усіх ступеней асабістай зацікаўленасці выяўляе паступальнае высвечванне шматлікіх нюансаў выказаных раней думак. Таму глыбока-шчымлівая, але амаль няўлоўная надзея (собіла ёй толькі спатыкнуцца аб вышэй прыведзеныя рытмарады) з аптымальнай матываванасцю набыла сэнсава-змястоўны яснагляд:

Не дагнаць мне яго, не дагнаць...
Можа б, рэха яшчэ як дагнала.

Мы паграшылі б супраць ісціны, каб у сіратлівым тоне кідкай формы адмовілі рэхавай тры-

лучнасці, пасланай наўздагон рэальнаму аб'екту («Тройчы рэха яго даганяла»). Як кажуць, дынамічны стэрэатып зусім не сувымерны з канкрэтна-пачуццёвымі асацыяцыямі ізахранічнай тэндэнцыі. Але гэта між іншым. У пульсацыі жывога рытму, думаецца, невыпадкова ўзбуджальнікам дадатковых інтуітыўных сувязей выступае гучанне прыгукаў у лучве супрычаснасці мыслення з чуйнасцю паўз. Адсюль правамерна будзе наша назіранне, што часам — як пэўная заканамернасць — можа паўнаўладна праявіць сябе дэфініцыя цэзуры:

І чацвёртае рэха
На вуснах застыла.

Гэта прамаўляе аб мазаічнай зменлівасці лагічнага думання ў цесным звязку з філагенетычным развіццём.

## ТАРОПКІЯ РАДКІ

*Міхась Рудкоўскі*

Гэты дом, гэты сад адзічэлы,
Гэты сіні над комінам дым.
Гэты конь растрывожаны белы
На няскошаным беразе тым.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Бяжыць радок. Радок бяжыць таропка.

Луг знаёмы не скошан, дый годзе.
Конь без плуга даўно ачмурэў.
Сад яшчэ у мінулым стагоддзі
Ў ста пятнаццаці вершах здзічэў.

У інтыме алей не гуляе
Там паненка з квяцістым зантом.
І настырна рака падмывае
Той пагорак, дзе высіцца дом.

Там апоўначы прывід мільгае,
Ледзь прыкметны ў тумане густым,
Ды ў смузе раз у год выплывае
З непадбеленых комінаў дым.

Ўсё навокал у мроіве сумным:
І барок, і лужок, і садок...
І спяшаецца ў кніжку бяздумна
З таго веку таропкі радок.

## Я ПАЕХАЎ

*Адам Русак*

Бывайце здаровы,
Жывіце багата.

Умыты палеткі
Расою на Яна.
Устану па кветкі
Я рана-зарана.

П р ы п е ў:
На грэблі дубовай
Дарога заўецца.
Мне сорак гадоў
Адно й тое ж пяецца.

Ой, ой,
Адно й тое ж пяецца.

Паеду ля гаю,
Ля гонкай сасонкі,
А вам пажадаю
Згаворлівай жонкі.

Згаворлівай жонкі,
Ласкавай суседкі,
Прыемнай гамонкі
І ўзімку і ўлетку.

Прыпеў:
Жадаю вам статак
Кароў і авечак,
Табунчык цялятак
І крушню яечак.

Праеду ціхутка
Я брод пад гарою.
Паеду на суткі,
А можа, на двое.

З зялёнай дубровы
Прышлю тэлеграму:
«Жывіце здаровы,
Спявайце Адама».

Прыпеў:
На грэблі дубовай
Дарога заўецца.
Мне сорак гадоў
Адно й тое ж пяецца.
Ой, ой,
Адно й тое ж пяецца.

## РАЙСЛУЦК

*Аляксей Русецкі*

Зіхаціць асфальтам горад
Слуцак —
Прамысловы, з псўнямі, райцэнтр.

Час бяжыць, а мне штоночы сніцца
Развітанняў горыч і разлук...
З вецярком сягоння са сталіцы
Аблпаша імчыць мяне ў райСлуцк.

Вось ён — Слуцк, памыты і прыбраны.
Добры дзень, шаноўны, добры дзень!
Бачу — напрамкі з райрэстарана
Сцежка ў райміліцыю вядзе.

Райгудкі прызыўна і напеўна
Дзень у дзень на ўвесь раён гудуць.
І чуваць — з сельпеўнямі райпеўні
Пераклічку голасна вядуць.

Плошчы Слуцка, колькі ў іх прасторы,
Велічы, убранства, хараства!
Поплеч сталі райзагтрынкантора
І кантора райзбыттрынтрава.

Пары ў клуб прыстойна йдуць, па-людску
На райскокі пад баянны грай.
Я праходжу паркамі райСлуцка —
І здаецца: трапіў прама ў рай...

## АПОШНЯЯ РАЗМОВА

*Раман Сабаленка*

Як не з самае раніцы Камарчук і Варшавяк прынішклі за газетным столікам і ўнурыліся ў сябе, адзін насупраткі другога. Думак у абодвух чаўплося неймаверна, але абодва ніяк не маглі прабуркнуцца словамі.

— Жонка,— свідравала ў галаве Камарчука.

— Жонка,— значылася ў вачах Варшавяка.

Але за гэтым думкі шнуравалі ў праціўных кірунках. Камарчук не мог даўмецца, што яму не стачала ў Электрыне. Ніколі не бачыў яе распатланай, усяго ў ёй было належна як спераду, так і ззаду. А па яе ў меру поўных ікрах з зайздрасцю слізгаў не адзін мужчына. Да ўсяго і цесць пастараўся: адваліў трохпакаёвую кватэру — гэта на дваіх! А вось урупіўся ў сваё: не буду з ёй жыць, і кропка. Чаму накруціўся гэткі вырахунак, не мог даўмецца.

Варшавяк не спаталяў уцяміць, што яго вабіла ў Камарчуковай жонцы. Здаецца, і на рост магла б не паскупіцца, і формы можна б круглейшыя. А вось жа невідушчая сіла цегла да яе. І сэрца прагла: жыць з Электрынай — і больш нічога.

Варшавяк бачыў, што Камарчук усяляк цураецца жонкі. Камарчук ведаў, што Варшавяку без Электрыны жыццё не ў жыццё.

Сёння яны сышліся на канчатковы абгавор. Але гутору не патрымоўвалася. Ацвяроз бы дзесьці заблукаў.

— Тэк-тэк-тэк...— каторы раз пачынаў Камарчук, а далей словам як зарвала.

— Знацца, вось...— спрабаваў знайсці якоесь

апірышча Варшавяк, ды болей яму нібы засланіла.

Камарчук паправіў пасконныя штаны, якія не сказаць каб пасаваліся да японскай кашулі пад зулускім гальштукам.

— Выфранціўся,— нібы мільганула Варшавяку. Але ён у сваю чаргу, прысеўшы на карпушкі, ззуў угандскія чаравікі і застаўся ў парагвайскіх шкарпэтках.

— Выдыгаецца,— прахупіла ў галаве Камарчука.

Неўпрыкмець глянулі разам на загэркі. Час сігаваў вокаімгненна: незаўважна нахапіўся вечар.

Быў яшчэ адзін рупеск, які карцеў абодвум.

— Як пакінуць амаль уласную кватэру? — вярэдзіўся Камарчук.

— Як прыйсці пад чужы дах? — смыкавала Варшавяка.

Раптам скрыгануў замок. На парозе стаяла Электрына і гарэзліва паглядала то на аднаго, то на другога. Камарчук убачыў, што нелюдзімасць суперніка як рукой зняло, і стаў жвава нацягваць палітон. Яго ніхто не затрымліваў. Прычыняючы дзверы, напоследак узяў напрыкмет, што Варшавяк пачаў рашуча развязваць свой гальштук, а Электрына яму радасна пасміхалася...

# КАХАННЕ Ў ДАРОЗЕ

*Алесь Савіцкі*

Толькі сёння выбраўся, нарэшце, Прахор у Янаўку — занесці Піліпу рубанак, што браў у мінулым годзе.

Мінуўшы з кіламетр, амаль палову шляху, нагледзеў ён жанчыну, якая ішла насустрач. Гэта была Аўдуля. Яна кіравалася ў Прахораву вёску Цітаўку пазычыць бязмена.

Прахор не ведаў Аўдулі, але яго ашаламіў позірк жанчыны, задуменны і крыху тужлівы. Сінія пяшчотныя вочы працялі яго наскрозь, а дрогкая сетка падпудраных мукой веяў адразу ўзяла ў палон. Гулка затахцела сэрца.

Аўдуля ў сваю чаргу скаланулася, убачыўшы незнаёмца. Яго сцямнелыя, завалочаныя смугою вочы ўмомант авалодалі ўсёй яе істотаю.

Яшчэ не дайшоўшы крокаў пяць, Прахор адчуў сваю поўную еднасць з жанчынай.

— Добры дзень, мая адзіная! — лутнуўся ён да Аўдулі.

Разгубленая радасць непатлумачана дугнула яе бровы.

— Дзень добры, шчасцейка маё! — адказала яна, і ўсмешка лягла на яе губы. Вочы зрабіліся ласкавыя, але строгія.

— Як я чакаў гэтага імгнення! — не мог саўладаць са сваімі пачуццямі Прахор.

— Дзе менш слоў, там ёсць любоў,— па-незямному даверлівым пошаптам прадэкламавала Аўдуля і пагладзіла яму рукі. Патрабавальнасць яе бліскучых губ пазбавіла закаханага рэштак сілы.

Прахор і сам рэльефна разумеў нікчэмнасць

сваіх слоў. Ён пачціва і цнатліва прыгарнуў да сябе жанчыну, самую цудоўную, дзівосную і непаўторную. Яе рукі цупка звіліся на Прахоравай шыі. Аўдуля пругка, адрывіста пацалавала Прахора ў губы, мякка і падатліва сцішылася і ласкава паклала яму на пакатае плячо галаву.

— Каханая...

Але Аўдуля не дазволіла гаварыць. Доўгім пацалункам яна замкнула яму вусны. Прахор аж захліпнуўся.

Праз які час Аўдуля падняла галаву, глянула аддана і прытоена. У вясёлых ласкавых вачах адбіліся ўсе колеры і гукі гэтага дня.

І зноў яна прыпала да Прахоравых губ. Толькі цяпер, знямогшыся ў шчасці, цалавала квола, асцярожліва. Прахора паліла яе агнявая пяшчота.

— Авой,— глянуўшы няўцям на паніжэлае сонца, войкнуў Прахор і разняў абоймы.— Спазнюся ў Янаўку.

Зніцелыя, у той жа міг дрыготлівыя Аўдуліны вусны дзіўна выгнуліся і замкнуліся. Вачніцы тарганула шэрань халадэчы і чарнізна расстанку. Дрогка мігатнулі веі. Стаяла сцішаная, маўклівая, быццам згубленая. Толькі ўздыхнула спустошана, з прыглушаным стогнам.

Ні словам не абазваўшыся, павярнулася і пайшла. Сіратліва патумкалі крокі.

Зайшло сонца. Думная сінеча лесу блякла ў прачуленым мроіве, і ў ім паволі раставала зыбка зменшаная жаночая постаць.

На небе высыпала гарачае зорнае сяйво.

А Прахор усё стаяў і якатаў:

— Ай-я-яй, як жа я не спытаў яе імя!..

## МЯЦЕЖНІК

*Юрась Свірка*

> Цяпер
> Я кірую паўстаннем
> Сваёй адзінокай душы.

Асіна шаптала з усхліпам,
Натруджана ясень рыпеў.
Ты слухала прагна пад ліпай
Мой вабны яловы напеў.

Туман асядаў над ракою,
Каханне лунала наўкруг.
Я мужна выходзіў з табою
На ціхі рамонкавы луг.

А потым?
О, думы! О, планы!
Нашто былі стрэчы, нашто?
Я ехаў у свет на буланым,
А ты перасела ў аўто.

За нейкай таемнай мяжою
Ты знікла, як леташні сон.
Цяпер я з мяцежнай душою
Нікому не здамся ў палон.

# АМІНЬ

*Рыгор Семашкевіч*

> Толькі вершы і складаю.
> . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
> Пакаюся ва ўсіх сваіх грахах.
> . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
> На векі вякоў
> Амінь.

Я, зацяты грахаводнік,
Змыць грахі даю зарок.
Блаславі, Мікола-ўгоднік.
Не пакінь, Ілля-прарок.

І тады любую тэму
Распрацую я як след:
Дам на здзвіжанне паэму,
А санет — у мясаед.

Ад спакус хай бог закрые —
Ад швагеркі, ад кумы.
Дзеўка свентая Марыя,
Развучы мае псалмы.

Сам я буду без спачыну
Пець хрышчэнскую літань.
У імя айца і сына,
Пэўна, з'езджу на Ярдань.

Згінь навекі, сіла злая!
Нада мной святая сінь,—
Там па воблачках гуляе
Матка боская.
Амінь!

## НЕПАЖАДАНЫЯ ТУРБОТЫ

*Пераклад з венерыянскай*

---

*Язэп Семяжон*

Ціхуткі шолах ля акна.
— Хто там? — збялеў Язэп.
— Ды гэта ж я прыйшла, вясна.
— Чаго? — ўскіпеў Язэп.

— Каханне поўніць мне душу.
— Няхай! — злуе Язэп.
— Тваёй увагі я прашу.
— Дармо! — адсек Язэп.

## МАЯ ДУША

---

*Анатоль Сербантовіч*

Ці не прынеслі вам маю душу,
Якую я згубіў учора?

Раскручу тугі сувой дарогі,
Кіну праз рачулкі і бугры;
Склаўшы ў кайстру буры і трывогі,
Па душу пайду, як пілігрым.

Ціха ў задуменнасці цвярозай
Стануць ля глыбокіх каляін
Белыя тэрмометры бярозак,
Шэрыя барометры асін.

Небасхіл міну, другі і трэці,
Будзе воран нада мной кружыць;
Выйдзе з пушчы лось мяне прывеціць,
Мне дарогу воўк перабяжыць.

Буду ўперад шпарыць без аглядкі
З спрытнасцю гарэзы-хлапчука.
— Ты не стрэў душы маёй выпадкам? —
Запытаю ў зайца-шарака.

Аж на трэцім тыдні цёмнай ноччу
У лаўжы душу сваю знайду
І, каб больш не бегала упрочкі,
Ў малако бяліцца пакладу.

## НАДЗЕЙНАЯ ЗАМЕНА

*Янка Сіпакоў*

Ах, мілы конь, ах, мілы косю,
Прабач за даўні здзек. Даруй,
Што запрагаў цябе ў калёсы,
Што й сёння на табе ару.

Мой любы косю, мой Буланы!
Праз столькі доўгіх лет і зім
Нарэшце здзейсніліся планы:
Я замяню цябе ва ўсім.

Пачну са сціпласцю бязгрэшнай
Хадзіць зацугленым заўжды.
І будзеш ты мяне няспешна
Вадзіць *у поўдзень, да вады.*

Падпуззе цяж не будзе церці,
Шляю дакладна падганю,
Перараблю да плеч па мерцы
Хамут не ўздоўж, а ў шырыню.

Нідзе ў мажары не прыстану,
Паўнюткі кніжны воз скрану;
Не горш цябе цягаць я стану
Акучнік, плуг і барану.

Даўно люляю меркаванне,
Як наймацней сцягнуць дугу...
З адным бяда: твайго іржання
Ніяк спасцігнуць не магу.

## НАПЕРАД

*Уладзімір Скарынкін*

Што чакае мяне наперадзе.
. . . . . . . . . . .
Відаць, адчулі ўсёй істотай
Яны патрэбнасць галізны.

З'еўшы дранікаў, доўга не выстаіш,
Ногі самі нясуць — не суняць.
Я спяшаю у далеч празрыстую —
Эпахальныя крокі звіняць.

Я імчу ўперагонкі з вятрыскаю.
Што там пекнае свеціць здаля?
То пастушка каленкамі бліскае,
Даганяючы зброду-цяля.

У пастушкі усмешка леная
І пушыста-прывабны пагляд.
Ажно чашачкі ныюць каленныя —
Так хачу з ёй папасвіць цялят.

Толькі нельга спыняцца мне ў нерадзі,
Бо вось-вось з-за бліжэйшай сасны
Выйдзе слава і стане папераздзе
Ў хісткіх строях святой галізны.

## ПРАКУРОР

*Янка Скрыган*

Папярэдне можна было начакаць, што мітрэнгі на брыгаднай сходцы не паявіцца, бо намысліва штукаваць і вымундроўваць ніхто не спахоча: наагул справа пройдзе падрыхтована і арганізована, а — галоўнае — скаратковано. І дапраўды. На чацвёртай хвілі старшыня ўстаў і агаласіў, што абкінулася словам шасцёра і, на яго пабачэнне, абгаворкі пытанняў хопіць наўкруга з прыклёпам. Для выглядкі ён колькі секундаў прачакаў, покуль шумота пайшла на спад, і ўсхвалёвана апавясціў:

— У заключ не пабаімся дацьме слова пракурору.

Таго ж моманту з краечку скамейкі практыкоўна падняўся чалавек, амаль не заўважоны сходам. Нічога дзівакатлівага ў яго выглядзе не пазначалася. Год яму стасавала пад сорак. Пышнота скругленых чырвоненькіх шчочак і некато-

рая жыватастасць прамаўлялі аб сядотным спосабе працоўкі гэтага чалавека і як выніку — лішноце пазаскуровых накапленняў. Голаў пракурора спрэс была аблямована коратка абстрыжоным венчыкам з сераброным налётам у палоску на скронях. Прывычным зрухам ён амаль непрыкмячона ахарашыў настарбучоныя камялькі сярэбранага прокіду, глянуў пранікнёна ўперад і пачапаў стол. На твары пракурора блукнула думнасць. Гледзячы на яго, можна было намысліць, што чалавек ён падкованы і адукаваны і прачытаў нямала друкованых і зусім не бракованых кніжок.

— Я намыслюся пакарыстацца прадстаўлёным мне правам,— галосна пачаў ён,— і, магчыма, прамоўлю ведамыя рэчы. Тым не менш вам не варта рэгтаць, а лепш мецьме цярпунак выслухацьме паведамлёнае. Мы нярэдка стаімо і гледзімо, як адбываюцца зломыслыя і праднамераныя дзеянні, аж да прычынення цялесных паўраждзенняў. Такім дзеяннем мы не павінны давацьме схованьь. Собіць нам пачуваць голас бяды, і ў той жа момант трэба пракінуць сумняванне, а ўзяць пакарыстанне грамадзянскімі правамі і абавязковасцямі. Бо няўмешка — гэта адлюстровак спалохлівасці ці абыяковасці.

— Дык ці льга пазбегнуць безуважнасці як такавой наагул? — кінуў ён, нібы мяльком, немудрашчае запытанне.

— Так,— адказаў коратка,— льга.

Ад гэтага «льга» скрозь слухатэльнікаў праімкнулася наэлектрызованае таковінне.

— Нам у першую чаргу,— прадоўжваў гаварэльнік,— патрэбна накірованасць. Тады знікне расчарованасць, і ў сэрцах трывала займуць месцы ўсталёванасць і загартованасць.

Словы пракурора ліліся замілована, думкі высочваліся апрацована. Таму слухатэльнікі былі зачараваны. Ажно віхаліся жанкі, беспярэстань атрымоўваючы нечаканы вывед. Ад слоў гаварэльніка несла то шалёністай страхатой, то ўражлівістай трапяткоўнасцю. Пачаў ён гаварыць на дзяняшняй змене, а скончыў толькі нацямку. І нікому не значно было часу.

Разумна гаварыў пракурор.

Пракурор заўсёды гаворыць разумна.

Не быў бы ён пракурорам.

## ГУМАР У НУМАР

*Міхась Скрыпка*

Хе... Што вам? Гумару трэба? Гэта мы мігам. Цьфу — і гатова. Класціся будзеце, што тручаныя прусакі. Бацьку роднага ад смеху не пазнаеце. Вось слухайце, каслі ласка.

Жыў-быў, калі памятаеце, Санька-Шманька. З выгляду чалавек як чалавек. І рукі ёсць, і ногі мае, і галава быццам на месцы. А на ёй і розныя прылады нібыта ў парадку — вушы там, нос, гэтыя самыя, як іх, вочы, ды і іншыя прычындалы. Затое п'янчуга — не дай ты і не давядзі госпадзі. Возьме вады. Звычайнай, са студні. І кубак за кубкам, кубак за кубкам. І давай, і давай. Нібы і непярэліўкі. Глядзіш — хістаецца, не раўнуючы, як той казаў, ля спірытусу тыдзень хадзіў. Каленцы выкідвае, вычварае немаведама што. За жывоцікі хопішся, гледзячы...

Няўжо не смешна, што пазяхаеце? Тады слухайце іншае. Гэта напэўна пройме. Са скуры вылузнецеся.

Іду гэта я аднойчы, значыцца, і іду сабе памаленьку. Пачакайце,— куды ж гэта я ішоў? А-а-э... Далібог, не прыпомню. Але ішоў. Добра памятаю, што ішоў. Хіба я брахуцька ці блазнота нейкая, каб хлусіць. Вось, успомніў!.. Гэта ж я нёс цешчы керагаз, бо ў яе не газаваў газ, а ў старой закалола ў вусе. Банькі трэба ставіць — і кропка...

Але чакайце, чакайце, хлопчыкі. Ці вы мяне слухаеце, ці не? Можа, вам усе адзнакі ў знакі трэба?

Што ж гэта вы — га? Спіцё!..

Эх вы!

Дзе ж на ўсіх гумару таго набярэшся?..

## ДЗЯКУЙ БОГУ

*Алесь Ставер*

Я слаўлю вас,
пяю вам гімн хвалебны,
Каханкі незабыўныя мае.

Праходзіць час. А я, як сёння, помню
І перадам нашчадкам праз вякі:
Я ў тры гады сваёй суседцы Домне
Грымзоліў вершаваныя радкі.

Я да былога памяццю прыкуты,
Тут ні прыбавіць нельга, ні адняць.

Мы ў той жа год з равесніцай Аксютай
Хадзілі жаб у сажалцы ганяць.

Пад восень неяк еў я хлеб са здорам,
І хоць было шкада, нашто хлусіць,
З таго куска Тадоравай Хадоры
Я два разы дазволіў адкусіць.

У забыцці нікога не пакіну,
Мо хто ўсміхнецца з'едліва — няхай.
Так, я ў шэсць год гарэзніцу Куліну
Штурхаў пад бок:
— Кахай мяне, кахай!

Апеў я ўсё — сутонні і світанкі,
Сняжынак лёт і водар росных траў...
Каб не было вас, любыя каханкі,
Пра што б я верш чарговы напісаў?!.

## ДАКЛАДНАСЦЬ ПЛАНАВАННЯ

*Іван Стадольнік*

Ад самай поўначы штось тамлівае, глухое, назольнае бадзяла Явулу, не давала заснуць. Здаецца, усё спарадкаваў, аж уходаўся: прывёз балотнага соснiку, зганяў на пасту, пакарміў ешкага парсюка, наагул, без работы не зводзіўся. А вось жа рупіла енза ўстыр, хоць не гаварыла радзіва, не свяціліся вокны і певень не кукарэкаў. Дугала ў галаве нейкая думка спрама і паабоч, ні з таго ні з сяго узбег рупеск і не даваў супакойніцы.

І раптам як зніякавеў: цюкнула ў памяці даўнішняе. Гэта ж ён яшчэ пазаўчора разрахаваў раскідаць старую прылёпістую хату.

Больш не ляжалася. Явул устаў і пачаў з рупескам адзявацца: улез у нагавіцы, уссунуў на ногі стаптаныя боты, апрануў фуфайку, падперазаўся моцнай дзягай і пачаў тунькацца з кута ў кут. Разбураць старое жытло вялікай пільніцы не было, але хай не мазоліць вочы.

— Знацца, так,— пачаў складвацца стройны план.— Сягонейка палезу. Вазьму калун. Уручча заткну за дзягу і з жаллівым пачуццём укулюся ў старое прыстанішча. Хата дыхне халадком старасвеччыны. Запаглядаю па баках. Вёрткія зрэнкі-свярдзёлкі прыкмецяць на верхняй шыбе акна муху. Водзека ты! Шапкай б'ю насякомае і выкідаю праз дзірку ў шыбе.

Рашуча выходжу на панадворак і па вуглу шкрэбаюся на страху. Стары вугал можа хруснуць. Знячэўлюся, але ўчаплюся за перакавіцу. Лучу момант. Саматужліва закіну ногі наверх. Знадворку салома будзе як труха. Паездзіўшы па вільчаку, перасяку прывязкі і ўбачу, што на паплёце салома жаўцее, нібы толькі з поля. Раз за разам сапхну салому, ад яе падымецца густы шэры пыл. Паадрываю і паскідаю паплёт. Учую, як глуха чвякаюцца латы. Паспрабую ўзарваць колькі дошак са столі. Яны будуць упарціцца. Прыйдзецца браць на пуп. Асабліва занаравіцца дошка над сталом. Праз дзірку спушчуся ў сярэдзіну, стану адною нагою на стол. Знізу будзе прыгожа глядзецца комін. На стале застануцца пляхтовіны ад ботаў.

Сцюцюрыцца на яйках квактуха, але не зрушыцца, хоць яе абсыпле мялінне. Давядзецца разам з кошыкам перанесці ў хляўчук.

Стану на вугал і, да ламоты напружыўшыся, пачну скідаць бёрны. Хоць і замала сілы, але раскідаю і па тым таго.

Паточанае шашалем бярвенне будзе глуха войкаць. З некаторых валіцца і сам шашаль.

Неўзабаве выйдзе старая. Павохкае, паспачувае, пачне ўшчуваць, што рана падняўся. А затым пойдзе рыхтаваць сняданак.

Калі добра ўпарадкуюся, зноў выгляне старая. Вынесе кубак вады.

— Явулачка,— скажа,— хай яе, ходам снедаць. Хай.

Не спяшаючыся, абаб'ю пыл. Памыюся.

А потым будзем сядзець удваіх за сталом. Старая, каб падкрэсліць урачыстасць моманту, прынясе запыленую бутэльку з вадкасцю, празрыстай, як сляза...

## СУЛАДНАСЦЬ

*Міхась Стральцоў*

Па-над ценем снуюцца цені.

. . . . . . . . . . . . . .

Так! Пад ценем вясла
утрапёнай вады вуркатанне.

Так! На свеце ценяў многа.
Кінь пагляд — убачыш цень.
Цень кіруецца дарогай,
Цень кладзецца на пляцень.

Цень ад лазні, цень ад хаты,
Ад рачулкі, ад вясла;
Цень даўжэзны, цень куртаты,
Цень грачынага крыла.

Мне успомніць люба зноўку
У падсечанай цішы
Цень кавенькі, цень алоўка,
Цень азмрочанай душы.

Ад далёкае калыскі
Праз жыццёвую вярцень
Мне найболей родны, блізкі
Свой, уласнай працы цень.

Так! Ніякая астуда
Нашу еднасць не кране:
Я без ценю анікуды,
Цень ні кроку без мяне.

## ПЕРАШКОДЫ

*Максім Танк*

На ранку
за спеў жаўрука зачапіўся,
у поўдзень
ублытаўся ў клёкат буслiны,
пад вечар
аб звон камара спатыкнуўся,—
вось так і не здолеў
дайсці да суседкі.

## КВЕТКІ

*Ніна Тарас*

Свае пачуцці палкія, павер,
Я вырвала з душы
і прэч шпурнула.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Апоўначы прывіды скачуць на шэрым
кані.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

І знойдзецца нехта —
Не знаю, з любві ці з пашаны —
Падарыць мне самы найлепшы
Вянок бляшаны.

Усё... Ні жаданняў, ні веры,
Ні скаргаў, ні мар, ні надзей.
Закрыю ў мінулае дзверы,
Схаваюся я ад людзей.

Адно б я хацела — пачуць ці
Убачыць, як плача язмін.
Я вырвала з сэрца пачуцці
І кінула ў горкі палын.

Чаканні і стрэчы забыты,
Адцвіў мой рамонкавы сад.
Бо зорка, сышоўшы з арбіты,
Шляхоў не знаходзіць назад.

Пад вокнамі непагадзь вые,
Апоўначы прывід мільгне...
Навошта ж мне кветкі жывыя?
Прышліце бляшаныя мне.

## ТРЫМАЙ

*Раман Тармола*

> Любімая, мне горача...
> . . . . . . . . . . .
> Адкуль цяпла таго выток?

Міргае зорка цьмяная,
Нібы таемны знак.
Як восень ты, каханая:
Ўвесь час то так, то сяк.

Калі канец, адразу хай —
Ці лай, ці бі, ці рэж.
Адно скажы: запазуху
Каму ты беражэш?

Каму нясеш, чароўная,
Прысмак салодкіх губ?
Душу тваю няўлоўную
Прылашчыць не магу.

Ідзеш, усмешкі дорачы,
Праз восеньскі натоўп.
А мне настолькі горача —
Кашулю зняць гатоў.

Цану такую плоцячы,
Бы сам не свой, брыду,
Гляджу, адкуль цяпло цячэ —
Вытокаў не знайду.

Усё ляціць віхураю...
Трымай мяне цяпер,
Бо выскачу са скуры я
На досвітку ў чацвер.

# ПАД ЗЯМЛЁЙ

*Мікола Ткачоў*

Нядаўна, гэта самае, я зрабіў дзівоснае падарожжа да пупа зямлі. А браткі ж мае родненькія! Вось цудаў дзе, скажу вам. Але слухайце ўсё па парадку.

Значыцца, нырнуў я кумільгам у дзірку, каля саменькага Лоева. Лячу, дакладней, не то лячу, не то плыву, нібы жаваранак, і ўсё кругамі-кругамі. Доўга ці мала я так ляцеў — не прыпомню. Толькі дзірка пачала паволі шырэць. Адкрылася мне ўлонне нябачанае, прыгажосці незвычайнай. Рэкі калінкамі паабрамлялі ўзвышша, папраразалі лясы, блакітнымі стужкамі пазвіваліся праз лугі. Тысячы азёраў, сціплых і задуменных, быццам крыштальныя расінкі, парассыпаліся тут і там. Курганы скопішчамі папарасселіся важна, нібы тыя дзяды-пасланцы на вечы, размову-нараду вядуць — не спыняюць. Карагоды пагоркаў паакружалі седлавіны лагчын і аборкаў — вось-вось пусцяцца ў танцы-скокі. На шырачэзных прасторах талкова сталі ў чэргі ўзвышшы — не парушаючы парадку, паволі і паважна трымаюць прамы кірунак да сталіцы.

Потым паказалася гара. Гара — не гара, а ўзвышэнне ніштаватае. На самай вяршыні стаіць будыніна з беламармуровымі калонамі. Падлятаю гэта я, апускаюся. Гляджу, аж у кутку гурток істот нейкіх — папасталі ў рад і глядзяць на мяне, бы на дзіва. Людзі — не скажаш каб людзі, але і нелюдзямі не назавеш. Больш да неандэртальцаў падобны.

— Хто ты такі? — пытаюцца, значыцца, у мяне.

— А вы хто такія? — пытаюся ў сваю чаргу.

Выйшаў тады наперад адзін такі грузнаваты і кажа:

— Зараз я пазнаёмлю цябе з маімі родзічамі. Вось гэты танклявы, галянасты — Сю-Мезон, мой пляменнічак. Поплеч з ім — Антыпратон, ганарысты хлапчына, пальца ў рот не кладзі. Вунь Электрон, непаседа няшчасны, ніколі на месцы не атабарыцца. За Нетрай бегае, а яна толькі хвастом верціць. Ззаду ў кутку Пазітрон, гэты ніколі не любіць наперад вытыркацца. Гэта, як ты мог здагадацца, цётка Нейтрона. І, так сказаць, па сумяшчальніцтву — мая жонка. Сам я, Пратон, гаспадару тут, усёй падземнай кухняй кірую. Ведама, адзін не справіўся б, хоць парвіся, але памочнікі мае надзейныя. Праўда, і за імі патрэбна вока ды вока, а не дагледзіш — ушчэнт на метэарыты зямлю разнясуць. Бо сілы ў іх і запалу — ого! Хочаш паглядзець, пытаецца, працу рук нашых?

— Чаму ж не,— адказваю.

І павёў ён мяне ў музей. Во, скажу я вам, дзівос дзе! Аж зараз не апамятаюся. Усе сцены ў нагляднасці — там і макеты, і схемы, і дыяграмы, і чарцяжы, і акварыумы, і чаго там толькі няма! Уся гісторыя зямлі ў мініяцюры паказана. У адным басейне шар зямны кіпіць, ад землетрасенняў трэскаецца, карабаціцца, горы бесперапынна ўзнімаюцца ў пары, у воблаках. Побач, у ванне, зямля ўжо астыла, а на ёй поўзаюць розныя заўры, аж страх бярэ. У звычайных начоўках шар зямны пакрыт раслціннасцю — лясы незвычайныя, пальмы ды папаратнікі. А ў самым далёкім кутку на негабляваных дошках ляжыць шарык наш, а па ім людзі бегаюць, у пячоры залазяць, голыя ці ў звярыных скурах, з мамантамі б'юцца.

Хадзілі-хадзілі, глядзелі-глядзелі, аж пакуль не апынуўся я на паверхні. Агледзеўся — а тут дзірку лоеўцы мерацца замураваць. Дык я пяткі ў рукі і бегма сюды. Ледзьве-ледзьве паспеў. Аж задыхаўся...

## У ЧАБОРЫ ЛІСТАВЕЮ

*Нэлі Тулупава*

Чабор... Я ў аптэцы цябе
купіла —
Як на сэрца сваё наступіла.
. . . . . . . . . . . . . . . .
Не ў вырай заакіянны,
А ў Кудыневядома.

Скора жніво... А ў аптэцы — чабор.
Граю грачынага сіняе рэха.
Веру: жаданням сваім насупор
Ты мяне злева на Гнедым аб'ехаў.

Цень валадарства спяшае за мной.
Я ў ліставеі не стану Данаяй.
Круг, што народжаны ў скрусе зямной,
Нізка над лозамі чараў лунае.

Прагай прывольнасці сцішу душу.
Ў смазе няўтольнай парэпалі пяткі.
Роздум дуброў у пасаг папрашу:
Хай ён акрые ад шэрані ўсмятку.

Годзе чакаць!
Ці не лепш адгарнуць
Вечар ад раніцы?
Дужасць ад стомы?..
Думкі шырокаю плынню імкнуць,
Толькі пакуль што...
ў Кудыневядома.

## ЗА КІМ ЖА ПАЙСЦІ

### *Мікола Федзюковіч*

Колькі раз без цябе, і з табою,
і ў шматлікай людской гамане
заўважаў я анёла з трубою —
ён іграў мне і клікаў мяне.

Як іграў ён, анёлак шчаслівы!..

Я кадрыліў імпэтна з другою,
Абганялі нас ногі наўздзіў.
Раптам глянуў — нячысцік з мятлою
Мне махае хвастом: падыдзі!..

З чорнай сілай мне справы мець брыдка,
«Ойча наш» прачытаў у журбе.
І настала тут гэткая жытка —
Не знаходжу спакою сабе.

У чацвер быццам скалы хто сыпаў —
Падзямельны даносіўся гул.
У суботу з'явіўся Люцыпар,
А ў нядзелю падсеў Вельзевул.

Зойдзе нечысць у скуры пацёртай,
Уталопіцца — ёрзаю я.
А на змену то Паўла, то Пётра,
То стары грамавержац Ілья.

Столькі часу ў трывозе я. Проста
Не ўшалопаць, дзе сэнс, дзе мана:
Рай нябесны мне суліць апостал,
Прапануе зямны — сатана.

З той пары і развага аслабла,
І на сэрцы бы камень які...
Ці ж з анёлкам лепш знацца, ці з д'яблам, —
Падкажыце, сябры-дружбакі!..

## У ПАЎЗМРОКУ ЗАБЫЦЦЯ

*Любоў Філімонава*

Выгінаўся з адценнем суцення
Дзень той, крохкі такі, ненадзейны.
. . . . . . . . . . . . . . . .
Зноўку на світанні я растану.

Праз паўслодыч густых летуценняў,
Дзе хістаўся ружовы туман,
Выгінаўся з адценнем бясцення
Нечы тонкі паўпрывідны стан.

Штось таемна шапталі паўвусны,
Блік лунаў ад сцяны да сцяны,
І няўцямна плылі ў галаву сны,
Як паўгукі апошняй струны.

На кругі свая тайныя тайных
Я ішла з цудадзейным агнём;
Нетутэйшы пагляд незвычайны
Чараваў незямным насланнём.

Нікла ноч паўмяцежнаю зданню,
На світанку сплываў недавер,
І з паўдумак, паўслоў без ваганняў
Вырастаў найрэальнейшы верш.

## АПОШНІ ХУТАРАНІН

*Тарас Хадкевіч*

Сёння, як з вечара ў вечар, у хаце было самотна і вусцішна. Не спалася. Нарастаючая трывога ныла ў далонях, настырна стукала пад правую лапатку. Вецер, чуваць было, надакучліва корпаўся ў застрэшшы. На грэбні сугроба, здавалася, нешта варушылася.

Трахім Стопка апрануў руды дзедаў паўкажушок, насунуў парудзелую бацькаву аблавушку і ў сестрыных валёнках, падшытых гумай з аўтакамеры, затупаў медзведзяватай паходкай у сенцы. Доўга бавіўся з засаўкай, пакуль адчыніў наскле-лыя дзверы.

Густой мільтугой абрынулася на яго цемрадзь. Хату замяло, што хоць праз гарышча лезь. Гурбы падпіралі яе з усіх бакоў пад самую страху. Да гаспадара, пазяхаючы і павіскваючы, падбег сабака, лізнуў руку і адразу ж завыў — аднатонна, з жалобным пералівам. У голасе яго чулася

туга па нязведанаму сабачаму шчасцю і нібы разуменне блізкай гвалтоўнай смерці.

— Нават сабака адчувае адзіноту,— мільганула даўно прызапашаная думка. І тут жа праз вязкую шэрасць махнуўся чыйсьці нізкі прадаўгаваты цень.

— Ці кот, ці воўк. Мабыць, воўк,— вырашыў Трахім. Гэтая здагадка сваёй нечаканасцю пранізала ўсю Стопкаву істоту і прымусіла шавяльнуцца валасы на ягонай галаве.— Воўк можа з'есці. Гэта — як піць даць. Скокне з-за вугла — і за глотку. Мілуйся тады з ім. Трасцы яго матары і хутара гэтага. Хопіць!

Зябка павёўшы плячыма, Трахім задам ступіў праз парог і спрытна зачыніў дзверы. Не распранаючыся, прылёг на ляжанцы. Але заснуць не мог. Толькі зводзіў вочы, як нешта нібы шамацела і галодны звер-лесавік караскаўся з гурбы, паблісюваючы зеленаватымі агеньчыкамі...

Калі трохі разднела, Трахім кульнуўся з ляжанкі, схапіў у сенцах вілы, узлез на сугроб і падняўся на страху. Ён быў адна рашучасць. Адгарнуў нагой трохі снег і ўсадзіў вілы ў прамерзлую, добра-такі падгніўшую салому. Р-раз! — і першы жмут страхі разам са снегавым шкумаццем паляцеў у сугроб. Работа спорылася. Рукі рухаліся з разухабістай імклівасцю. Неўзабаве добра ўгрэўся. Ужо амаль палавіна страхі была скінута.

Стопка на хвіліну спыніўся. Яго позірк мімаволі затрымаўся на бліжэйшым ельнічку. Там з-за дрэва цікаваў воўк. Стопка патрос яму кулаком і ўсміхнуўся:

— Трасцы ты мяне цяпер з'ясі. У вёску перабіраюся.

Воўк у бяссільнай злосці металічна шчоўкнуў

зубамі і, апусціўшы хвост, нехаця пацёгся ў хмызняк.

А ў хаце Трахімавы дочкі радасна скакалі вакол маці, прыпяваючы імі ж самімі складзеную песеньку: «Хутка ў вёску пераедзем да калгаснікаў-суседзяў. Эх, эх, да калгаснікаў-суседзяў...»

## ДУЛІ

*Мікола Хведаровіч*

Быў я дбалы, быў увішны,
Усё ішло ў мяне на лад.
. . . . . . . . . . . .
Дзе садзіў я сапяжанкі —
Дулі, дулі спеюць там.

Там, дзе толькі рос любісток
Год і многія гады,
Пасадзіў я урачыста
Сапяжанак тры рады.

І цяпер, як толькі ўранку
Кіне сон мяне марыць,
Я па дулі-сапяжанкі
Уніз бягу з гары, з гары.

Я адбор вяду умела,
Бо на гэтым век жыву:
Не зрываю недаспелых,
Пераспелых не ірву.

Ганаруся перад светам
Пышным садам за вярбой.
Ў Каралішчавічы еду —
Кошык дуль вязу з сабой.

Ледзь бярэцца на світанак,
Устаю я, як заўжды.
Як наемся сапяжанак,
Ох, і пішацца ж тады!..

## ПОМСТА

*Васіль Хомчанка*

— Я ёй адпомшчу! Я ж ёй! — кіпеў мічман Рында, з падскокам шыбуючы галоўнай вуліцай горада пасля службы.— Не пайду зусім дамоў. Няхай жыве адна! — аж захакаўся, заглытваючы паветра.

Жонка яго ўсчынала сваркі досыць часта. А сёння ранкам дапякла асабліва востра: абазвала аленем. У жончыных словах ён улавіў, як яму здалося, празрысты намёк: у аленя — рогі.

— Дык вось што яна мела на ўвазе! — аж пыхкаў злосцю Рында.

Марудна гусцеў восеньскі прысмерак. Мічман рашуча пакіраваў у рэстаран. Хацелася настроіцца ціхамірна і шчасна. Гардэробшчык адразу прыняў шынель і фуражку.

Рында заняў столік каля акна і, чакаючы афіцыянтку, пачаў без спеху аглядацца. Побач зай-

малі столік чатыры жанчыны сталага ўзросту, досыць падпітыя.

Афіцыянтка спрытна споўніла заказ. Пасля трэцяй чаркі Рында пачаў бесцырымонна разглядаць суседак, прыслухоўвацца да іх размоў. Яны даволі смакоўна абгаворвалі да макавак нейкіх кавалераў. Верхаводзіла непаседлівая вярцёлка гадоў сарака пяці. Адчувалася, што яна рана выцыбнулася ў дзеўку, часта песціла твар рознымі крэмамі і была знервавана бурным тэмпам жыцця. Па ўсёй паставе было відаць, што яна з падлашчваннем адклікнецца на заляцанні, і перад яе панаднасцю не ўстаяць.

Крайняя, брунетка, дзябёлая і пругкая, перахапіла позірк Рынды. Яе вочы нецярпліва і прагна загарэліся нейкім пазазямным агнём. Пераборліва-капрызны твар кранула чырвань. Какетлівы прыжмур вачэй вабіў уладна і неадольна.

Настаўбуненая бландзінка злева гулліва ўсміхнулася, інстынктыўна адчуўшы зацікаўлены погляд мужчыны, і пачала штоміг ужмурвацца ў яго, ведаючы свае спакуслівыя прывабнасці. У яе быў крыху большы, чым трэба, выраз, праз які акрэслена выступаў магутны трохкутнік грудзей. Яна прыкметна выхвалялася сваімі моцнымі нагамі.

У чацвёртай, ціхмяна-сарамлівай, была шчыльна атуленая сукенкай пругкая пастава і салодкі пагляд. Яна часта асмыкала ўніз падол сукенкі.

— Гэй, марак! — закамандавала непаседа-верхаводка.— Перабірайся да нас. Не загінеш. Я Снадуля. А гэта мае сяброўкі Нунеха, Цырыля і Явodзя.— І, не чакаючы згоды, яна падбегла да століка Рынды, схапіла чарку, талерку з відэльцам і перанесла на свой столік.

Рында, дыхаючы з шумком, перасунуў свой

стул да Снадулінага і сеў. Яна адразу ашчаперыла яго за шыю і зачмокала ў шчаку, у нос і нарэшце ў губы. З другога боку да Рынды хацела падлабуніцца ці не Цырыля — мічман не асабліва цвёрда запомніў іх імёны,— але Снадуля рашуча адвяла яе рукі і гэпнула да яго на калені.

Мараку ўспомніліся несправядлівыя жончыны абвінавачанні, мянушкі, і ён помсліва заўсміхаўся: вось бы няхай пабачыла мяне зараз!

Нунеха паспрабавала саштурхнуць Снадулю з Рындавых калень, але гэта ёй не ўдалося, і яна нядобра бліснула на сяброўку агатавымі вачыма.

Цырыля, у сваю чаргу, двойчы ўшчыкнула Снадулю, а тая, войкнуўшы, яшчэ мацней прыціснулася да марака.

— Але ж ці добра я раблю, што люляю на каленях незнаёмую жанчыну? — варухнулася штось прыкра-нядобрае ў Рындавай падсвядомасці.

— Так, я раблю подласць! — разрасталася брыдлівае і нуднае адчуванне.— Часам жонка бывае добрай. У тым месяцы яна пасцірала кашулю. А трэцяга дня нават прыгатавала заўтрак.

— Дык што ж гэта я, нібы зброднік! — яму расхацелася гушкаць Снадулю. Ён пачаў рашуча ўставаць, атрасаючы з калень жанчыну, дастаў з кашалька паўсоценную і, хуценька разлічыўшыся, подбежкі пашыбаваў дадому.

Самалюбства Рынды было здаволена, і яго з кожнай хвіляй мацней апаноўвалі супакоенасць, лёгкасць, прыемная сцішанасць і шчаснасць.

## АВЕЧКІ

*Кастусь Цвірка*

Не забыць бы дзедавага
Слова залатога:
Не рабі ліхога,
Не кажы пустога.
. . . . . . . . . . . . . .
Ці так я жыву, ці тое раблю?

Развейваю ў вёсцы я сум і тугу.
Прыволле. Ёсць хлеб і да хлеба.
Авечак як след напасу на лугу,
А болей чаго ж яшчэ трэба?

Авечкі! Спрадвеку турботы мае,
І клопат, і боль, і надзеі.
(Эх, як вас у горадзе мне не стае
Найперш у суботы, ў нядзелі!)

Тут ходзіць у статку шыкоўны баран,
Гэткі мужык авечы.
Рогі закручаны. Ёмісты стан
(З такім не захочаш сустрэчы!).

У сэрцы звініць маладосці струна.
Я рад да маленства прыпасці.
Вось тут я за рогі схаплю барана
(Цьфу, спрахні,— злаўлю сваё шчасце!).

Вунь ярачка дзяцельнік шчыпле усмак
(Прывыкла хадзіць самапасам).
Я большай не ведаю радасці, як
З авечкай застацца сам-насам.

У горадзе смутак бясконца скрабе.
Паверце у шчырасць прызнання:

Мілей мне тугое авечае «бе-е»,
Чым жончыны словы кахання.

Гляджу на авечак бы ў нейкім паўсне.
Не цягне ні кроплі дахаты.
І так даспадобы (ці верыце?) мне
Іх дзеткі малыя — ягняты.

Ды часам сябе я на думцы лаўлю
(Мо гэта найлепшы пачатак?):
Ці гэтак пішу я? Ці тое раблю?
Мо лепш мне разводзіць пісклятак?..

## ШТО ЛЕПЕЙ

*Мікола Чарняўскі*

Ў жыцці я сёрбаў
з лыжак розных.

Сяджу, пішу — ўспаміны лавай
Імкнуць няспынна, проста страх,
Бо мне прыйшлося мелка плаваць
Па многіх лужах і марах.

А як глядзець было прыгожа,
Калі ў якісь вясновы дзень
Усё ішло для падарожжа —
Вароты, ночвы і пляцень.

Хай старасць з кожным годам бліжай,
Гады ўстаюць густой сцяной,—

Я часта сёрбаў з розных лыжак,
Хоць з міскі, помніцца, адной.

А разважаючы ў зацішку,
Я іншы сэнс жыцця знайшоў:
Найлепш адною сёрбаць лыжкай,
Ды з розных місак і гаршкоў.

## У РАЗВЕДЦЫ

*Іван Чыгрынаў*

З усёй гаварні шматслоўнага яфрэйтара Івана Мачылы радавы Клім Драчыла зразумеў адно: яму належыць выпраўляцца ў разведку.

На двары стаяла размаранае пасляабеддзе. Праз Кашэраву лагвіну Драчыла засігаў напрасткі ў бок адзінокай халупіны, што за Шэлагавай канавай. Пры гэтым самым з першага кроку левай нагой ён наступіў на шаўковісты змяёўнік, а правай раструшчыў грыбную лапшу-булаўніцу. На трэцім разе пад абцас трапіў трыпутнік, а ўслед за тым — куст паўзучай канюшыны. Колькі крокаў ён таптаў безназоўнае зямное покрыва і толькі на дванаццатым сіганку раздушыў застаялую мурожніцу. З асаблівым імпэтам мясіў Клім пасохлы плюшч і балотны перац пад куцобістымі вербамі над Стрыкінай каўдобай. Затое сівы палын выклікаў у яго грэчкавае пачуванне, а разбабелы мох нечым напамінаў Радзімцаву дзебру.

З усведамленнем усёй важнасці ўскладзенага на яго абавязку выйшаў Клім на ахлялы Хадос-

чын падворак. Напрактыкаваным позіркам прабег ён спярша па слядах адсутнасці цвёрдай гаспадарчай рукі — і па чортавым серабры-падтынніку, і па лілова-чырвоных васільках, і па блакітна-ліловым букашніку.

Хадосся нешта мыла каля студні, вольна згінаючыся ў поясе. Заўважыўшы Кліма, яна прыгожа пахіснулася яму насустрач усёй моцнай дужасцю незачаўранага цела. Клім ці не месяц амаль не бачыў жанчын і цяпер пажадліва талопіў вочы на ладныя, увесістыя грудзі Хадоссі і падаткнуты падол, што высвечваў поўныя любоўнага непакою калені.

Было ў ёй нешта такое багульнікавае, ад чаго Драчыла страчваў голаў. Яе па-бабску зграбная постаць і п'яны тлум вачэй клікалі прагна і настойліва, і Клім той жа міг адчуў бруснічную замілаванасць.

— Ходзь сюдой,— з агнём гуллівай душы прапела Хадосся.

— Я ў разведку іду,— быў запярэчыў Клім.

— Разведка не збяжыць,— амаль рассмяялася жанчына.— А вось я — магу... збегчы,— як не млела яна ў бессаромнай жаночай знямозе.

Хадосся ціха ўзяла Кліма за руку і павяла ў сенцы.

— Вось драбіны,— паказала яна вачыма на паддашак і як не сцепанулася ад прайшоўшай па целе гарачай хвалі.

З нейкай нерашучасцю перастаўляў Клім ногі па прыступках драбін, і яны рыпелі натужна і глуха. Затое пад нагамі Хадоссі ўслед за ім драбіны парыпвалі адрывіста і лёгка, нібы радуючыся яе нечаканаму калінаваму шчасцю.

# ГАЛАВА

*Хведар Чэрня*

Галава твая упадзе,
Упадзе на чужую раўніну
Маладых, ды нямілых грудзей.

О каханне! Выходзьце, музыкі,
Хай звініць пералівіста медзь.
Відавочна, мне лёс намурлыкаў
У святым парыванні згарэць.

Без цябе і маркотна, і цяжка,
Сум пад лыжачкай смокча здаўна.
Кожны дзень я смалю узацяжку,
Падпіраючы вугал гумна.

Усё навокал і глуха, і ціха.
І душой я, і целам аслаб.
Вось таму і рагоча busліха,
Выпраўляючы бусла па жаб.

Як пазбыцца мне млосці і скрухі,
Перайсці свайго лёсу парог?..
Галава ж ты мая і два вухі,
Да чыіх ты прытулішся ног?!.

## ЗБЯРЫЦЕ МЯНЕ

*Яўген Шабан*

Разарваўся я на часткі
　　　　паміж горадам і вёскай.
Адна частка на спектаклі,
　　　　дзве прылеглі ля куста.
Адна сёмая на тэле,
　　　　дзевяць сотых за бярозкай,
Дзве пятнаццатых на печы
　　　　гладзяць рыжага ката.

Адзінаццатая частка
　　　　ходзіць з буслам каля рэчкі,
Сем сто шостых пішуць вершы
　　　　пра каханне і падман.
А яшчэ якаясь частка
　　　　безаглядна збегла ў грэчкі.
Хто ж збярэ мяне да кучы,
　　　　каб я зноўку стаў Шабан?..

## НОВАЯ СЯМ'Я

*Іван Шальманаў*

Неяк аніхто ў вёсцы добра не ведаў, калі Адэрка засталася ўдавою. Дзябёлая, як крыга, насілася яна, што скалля, амаль не круглыя суткі. Калі і спала, калі і ляжала. І на калгаснае спраўлялася, і сваё трымала ў парадку. Памяталі людзі, што быў у яе лядашчы Архіп з рэдкімі касмылінкамі

барады. Толькі ніхто не адказаў бы дакладна, ці ён з'ехаў куды, ці зусім памёр. Урэшце гэта бадай ці памятала і сама Адэрка. Праўда, колькі год у вёсцы трамкалі, што яна залішне на шлунку эканоміла. Толькі ці так гэта, ці не...

Адэрка і не шманала. Гаўяды повен двор. Сіла нямерная, зносу не прадбачылася.

Але калі атрымлівала пенсію, брыгадзір кінуў:

— Цяперака, Адэрка, жывом добра, мажэш і адпачыць.

— Баронь цябе божа гаманіць такое — адпачыць,— накінулася на брыгадзіра.— Мне вунь будову пēратрэсці трэба.

І сапраўды. Адэрчына хата яшчэ ліпела, а сенцы і клець рушыліся зусім. І тады яна кінула сябе ў роздум:

— Хіба Саўку ў прымы ўзяць? Але ж ён можа чакаць мае здохлі,— вярэдзіла яе туга.— А халера яго бяры, няхай чакае,— наважылася ўрэшце Адэрка.— Абы будову пēратрос, а там паўзіраемся.

Падаіўшы карову і накарміўшы свіней, Адэрка засценкам пацёгла да Саўкавай халупы. Забарабаніла ў шыбу.

Акно адчынілася, і паказалася ўскудлачаная галава.

Адэрка адразу прыступіла да справы:

— Ты некалі, здаецца, заманваўся пра зяці. Дык заўтра з раніцы пераходзь.

— У зяці, кажаш? — недаверліва перапытаў Саўка і пачухаў пад пахаю.

— Аняго куды, не наначкі ж цябе запрашаць.

— У зяці? — паўтарыў Саўка.— А чаму абавязкова заўтра?

— Чаму, чаму, чэмер на яго галаву, яшчэ пытаецца! — узарвалася Адэрка.

— А наліха матары мне зяці. Я, можа, у горад пераеду.

— Гэць ты яго, чаго захацеў! — успляснула рукамі Адэрка, але тут жа спалохалася і рашыла змяніць тактыку:

— Не едзь, Савачка, у горад. Пераходзь да мяне. Я цябе кахаць буду.

— Кахаць, кажаш?..

Адэрка не дала закончыць:

— Канечне, кахаць. І снедаць заўсёды звару.

— Ну то ладна ўжо, прыдом,— адпусціўся Саўка.— Дык заўтра?

— Аняго, Савачка, заўтра, заўтра. Толькі ж глядзі не забудзь сваё струмэнтнае начынне,— напомніла Адэрка.

Дык назаўтра прыцемкам шыбаваў Саўка задамі з вялікай ношкай за плячыма да Адэрчынай хаты.

## ПРАДБАЧЛІВАСЦЬ

*Анатоль Шайня*

А што было? Якія ўспомню дні?
. . . . . . . . . . .
Раптоўна, нечакана
З трывогай радаснай
Падумалася мне:
А скора быць вясне!..

Што было? Шмат сцяжын і дарог,
Смутных спраў і бязмэтных трывог.
А што будзе? Да самага дна
Я адкрыю вам тайны спаўна.

Хіжы снежань у мляўкай глушы
Хвілябегу падлік завяршыць.
Потым студзень прыцісне наўздзіў,
Хоць за пазуху піскю садзі.
Будзе люты ішачыць, павер,
Выць, скуголіць, раўці, нібы звер.
Сакавік — гэта мутніцца плынь,
Красавік — трапяткая цяплынь.
Лета сквар прынясе на плячах.
Так у стоме пакутных развяг
Да высновы даходжу штодня
Я, апошні празорца Шаўня.

## У ПОШУКАХ

*Марыя Шаўчонак*

Шукала я сябе самой,
Шукала і не спазнавала.
. . . . . . . . . .
І травінкамі ўспаміны
Загарацца з-пад снягоў,
Нібы вернуцца хвіліны,
У якіх цвіце любоў.

Я прайдуся ля асіны,
Павярнуся ля дубоў.
Можа, вернуцца хвіліны,
У якіх цвіце любоў.

Выйду ранкам за вароты.
Ну куды ж ты збег, куды?
Каля ганак, каля плота
Пралеглі твае сляды.

Ты пакліч мяне ў таемнасць
Хуткаплыннага быцця.
Там пазнаеш узаемнасць
Трапяткога пачуцця.

У затоцы каля гаю
Будзе водарасць цвісці.
Я сама сябе шукаю —
Не магу нідзе знайсці.

## ДАЛОЎ ШПІЁНАЎ

*Алесь Шашкоў*

Вясна. Хіба мала аб чым гаворыць гэта слова? Сліпуча-яркае сонца, блакітнае-блакітнае неба, разлівістыя трэлі жаваранкаў і пахі абуджанай зямлі. Гэта на полі.

А ў лесе цяністая прахалода, лапіны прэлага снегу і цішыня.

У самы поўдзень хлапчукі Хомка і Кузьма мінулі чыгуначны пераезд і праз колькі метраў апынуліся ў лесе. Іх шлях ляжаў да Цьмянага возера, якое схавалася ў самай гушчэчы векавечнай пушчы. Гэта было дзівоснае вадасховішча. Узровень вады ў ім ніколі не павышаўся і не паніжаўся, хаця сюды ўпадала даволі вялікая рэчка Газель і не выцякала ніводнага ручайка.

Хлопцам дарога да Цьмянага была добра знаёма. На палове шляху яны адным махам пераскочылі Газель.

А вось і возера. Выгляд яго жудасны. Стара-

дрэвіны верхавінамі зваліліся ў ваду. Карэнне іх вывернулася і мела выгляд нейкіх пачварных жывёлін, застылых у вар'яцкім прыжку. Месцамі над чорным бяздоннем звісала пераплеценая хмелем лаза. Гліна з берагоў адколвалася пластамі зверху ўніз, ад гэтага стромкія абрывы нагадвалі сцены яшчэ нябачанага замка, у якім жылі нейкія страшыдлы. У навакольных вёсках упарта хадзілі чуткі, што ў возеры няма дна.

Нечакана сябры ўбачылі: з чорнай нетры возера, пасярэдзіне, паказаўся чалавек і паплыў да берага. Ён увесь быў абцягнуты якойсьці водане-пранікальнай матэрыяй. Кузьма з Хомкай уміг яго пазналі. Гэта быў Дзікун, шпіён міжнароднай катэгорыі. Хлопцы стаіліся ў кустах. Не паспеў Дзікун вылезці на бераг, як сябры, наставіўшы на яго палкі, нібы рулі аўтаматаў, грозна крыкнулі:

— Рукі ўверх!

Дзікун затросся і паслухмяна падняў рукі.

— Уперад! Не аглядвацца! — закамандаваў Кузьма.

На агульным фоне вясновага абуджэння прыроды шпіён выглядаў недарэчна.

З бадзёрай песняй «Мы шпіёнаў пераловім!» крочылі сябры за Дзікуном. Душы іх перапаўняліся радасцю і гордасцю.

# У АКРУГЛАСЦІ ДАВЕРУ

## *Генадзь Шупенька*

(Між іншым, наша разважанне мы хацелі пачаць у больш дзейснай гаме пачуццяў, але зжахнуліся перад іх чуйнасцю). Дык вось. Калі жыццёвая вада ператвараецца ў ахмяляльны напітак багоў — віно мастацтва (гэта значыць, аўтар «вынаходзіць» свой твор), мы пачуваем чалавеказнаўчае напаўненне ў самаруху аналітычна-пластычных характараў. Тады, маўляў, сіла пераканаўчай праўды вядзе ў бездань хараства, з якой (застаўшыся сам-насам) не заўсёды ўдаецца вырвацца, бо нас вабіць мелодыя фразы, яе даўжыня, вышыня, шырыня і іншыя параметры.

Але нярэдка мы забываем яшчэ пра адзін найдалікатнейшы інструмент (гэту забыўлівасць, на жаль, памятаюць мала) — пра знакі прыпынку. Як па аднаму глытку вады можна вызначыць смак (я сказаў бы) цэлага возера, так і знакамі прыпынку вызначаецца каэфіцыент карыснага дзеяння самага таўшчэзнага твора, а магчыма (не пабаімся выказаць меркаванне), высвятляецца мастацкі сінтэз эпохі.

Як многа важаць знакі прыпынку! Як хораша вібрыруе іх тэмп! Па залішняй сціпласці самі яны мала гавораць пра сябе. Затое чытачу яны прамаўляюць больш, чым вобразы, характары, эпізоды, сцэны. Хіба абыходзіцца без іх паэт? Хіба не выкарыстоўвае іх празаік? А як неабходны яны крытыку! Не ведаем, як каму (густы бываюць розныя), а нам яны нясуць інфармацыі больш самых самавітых слоў, сказаў, абзацаў і нават цэлых старонак. Хіба толькі раздзелы могуць паспрачацца сваёй важкасцю з тым ці іншым да

месца пастаўленым працяжнікам або двукроп'ем, якія хочацца назваць першаасновай твора.

Мастацкае палатно бярэ ў палон цеплынёй косак, пяшчотнасцю шматкроп'яў, цвёрдай пераканальнасцю клічнікаў (хоць яны вымагаюць пэўнай дыстанцыі), сумненнем пытальнікаў, ап'яняе духмяным водарам камбінаваных знакаў. Няхай сабе стыль аддае праставатасцю, няхай бракуе шырыні аўтарскага кругагляду, няхай выпірае слізганне па паверхні,— праз эфект прысутнасці знакаў прыпынку (і ў гэтым ледзь не ўся соль) мы адчуваем духоўнае напружанне, дамінанту майстэрства.

Найбольш выразна (найвышэйшая якасць!) на ідэйны змест твора працуе кропка. Някідкая на першы погляд (у гэтым яе прывабнасць і, калі хочаце, веліч), яна вытанчанаму мастакоўскаму слыху нясе выключную інфармацыю. Гэты знак (занатуем не ў сэнсе лагічнага тэзіса) набывае сілу пераканаўчай мастацкай матывацыі, бярэ ў палон праўдай і зайздроснай закончанасцю пры душэўным зліцці з матэрыялам.

У чым яе хараство? Яна адсякае штампы пасрэднай апісальнасці і неабавязковых падрабязнасцей. Асалоду ў час пастаўленай кропкі можна параўнаць хіба з выкрасленым падраздзелам. Прапушчаная праз сэрца, яна зачароўвае нязмушанай цнатлівасцю і (што не менш важна) стварае ілюзію сапраўднасці. Заўсёды даверліва ідзеш насустрач таму аўтару, які ўмее своечасова паставіць гэты маленькі кружочак з вялікай душой і адкрытым сэрцам.

Асаблівай увагі вымагаюць дужкі (гэты карыфей у сістэме знакаў прыпынку). Ніколі не перастаеш здзіўляцца іх чуйнасці і дасведчанасці. Але мы не станем трывожыць шматзначнага сэн-

су дужак, бо іх ролю і значэнне кожны (нават не жадаючы) убачыць непасрэдна ў рамках нашага даследавання. Заключаная ў дужках прытоеная любасць вее праўдзівасцю і далікацтвам. А ўсё тое, што не трапіла за іх акругла-гладкія сценкі, гучыць як сярэднебелетрыстычны шчэбет.

Думаецца, гаварыць доўга няма патрэбы. Знакі прыпынку неабходна разглядаць у шырокім канцэптуальным плане, аналізаваць як цэласныя, гарманічна завершаныя часткі арганізма ў адзінстве формы і зместу. Гэтае вельмі слушнае сцверджанне прыдатна для самага шырокага ўжытку. (Не маем нічога супраць яго агульназямнога ўзаконення.)

## КАБ ЖА

*Станіслаў Шушкевіч*

Капалі кропелькі ціха з капяжа.
. . . . . . . . . . . . . . . .
Не варажыў на кветках, не гадаў.
. . . . . . . . . . . . . . . .
Каб умеў я спрытна лётаць,
Так, як страказа.

Перасталі кроплі ўранку
Капаць з капяжа.
Ты мне сэрца на расстанку
Рэжаш без нажа.

Не гадаў я ні на маку,
Ні на палыне.

Па табе я горка плакаў
Наяву і ў сне.

У клубах густога пылу
Тоне шацкі шлях.
Балагол прадаў кабылу,
Едзе ў «Жыгулях».

А вакол буяе лотаць,
Поўсціцца лаза...
Эх, дзён пяць бы мне палётаць
Так — як страказа!..

## ПІ-ТРЫЁДНЫ КІБЕРНАС, АБО МАКСІМКА-ПЯЦІДЭШНІК, АБО ГАМА-КІНЕТЫЧНЫ ПШЫК

*Георгій Шыловіч*

Максімка знаходзіўся не ў нейкім там абозе, а на самай што ні ёсць быстрыні жыцця, таму пра яго хадзілі неверагодныя пагудкі, калі ён вучыўся яшчэ ў другім класе. Казалі, нібыта ён вычмурыў падводны апарат і апускаўся ў ім на дно сажалкі. А ў трэцім класе (зноў-такі нібыта) навучыў гаварыць ката Мурлыку, і (яшчэ раз нібыта) той сказаў:

— Не хачу я з табою гуляць,— і збег невядома куды.

А вось у пятым «Д» (адсюль пяцідэшнік) у Максімкі на ўсю моц абудзіліся недалёка схава-

ныя сілы, і ён рашыў жывата не пашкадаваць, а змайстраваць кібернетычную машыну. Нібыта змоўшчык — гэта была змова з самім сабою,— ён прыняўся за справу, хоць не зусім ясна ўяўляў, куды занясе крывая.

— Не грэбуй першым крокам, з яго пачынаюць,— сказаў сам сабе Максім і ўцягнуў у свой пакойчык старую ванну, якая стала корпусам будучай машыны. А неўзабаве яго пакой нагадваў сапраўдную майстэрню: сцены былі завешаны схемамі складанейшых вузлоў, на падлозе ляжалі трыгеры, рэле, кандэнсатары, тэрмарэгулятары, стол і падаконнік занялі рычажкі, кнопкі, праваднікі.

Доўжыліся-снаваліся думкі ў галаве вынаходніка. Ён перастаў гібець над кнігай і прыналёг на кібернас. Адвёрткі і пласкагубцы бадай не выпускаў з рук, ажно далоні ўзяліся пухірамі. Пляскаты напільнік заўсёды ляжаў пад падушкай. У сне хлапчуку з'яўляліся мезоны, лептоны, нуклоны, шурупчыкі і гаечкі.

Паміж Максімкам і яго сябрам Нупрэем, з якім яны раней гулялі ў лапту, прабегла кацянё адчужанасці. Максімку было не да лапты, і ў Нупрэя з'явілася халодная пагарда ў вачах. Вынаходнік, прыбегшы са школы, рэзаў бляшанкі, хапаў паяльнік і прыпайваў танюсенькія пласцінкі. Ён разумеў: нешта атрымліваецца, бо нават шпурнеш камень у ваду — абавязкова пойдуць кругі. Таму часу не шкадаваў: умацоўваў радыёлямпы, супраціўленні, паўправадніковыя дыёды і супрацьправадніковыя трыёды. Побач з іанізацыйнай камерай асімптатычным крукам прымацаваў паскаральнік зараджаных часцінак, а гетэрагенную сістэму злучыў з электронным парамагнітным вы-

мяральнікам. У старую ванну ўмясцілася каля мільёна элементаў.

Нарэшце работа падышла к канцу. Максімка рознакаляровымі правадкамі злучыў шкляныя вочы кібернаса з чорнымі кнопкамі-ўключальнікамі і заправіў перфарацыйную стужку.

Трэба было праверыць дакладнасць працы апарата. Максімка загадаў машыне рухацца наперад, і яна паслухмяна пайшла, па камандзе павярнула направа, налева, кругом. Паміж канструктарам і яго тварэннем устанавіўся своеасаблівы пароль згоды і разумення. Вось апарат спыніўся перад сваім творцам, нібы чакаючы новых распараджэнняў, і пасопваў як вястун чагосьці яшчэ не зведанага. Шкляныя вочы загадкава свяціліся і зыркалі па баках.

Максімка, як кажуць, адразу рашыў узяць быка за рогі, а бога за бараду. Ён загадаў машыне вывучыць на памяць доўгі верш, каб самому атрымаць пяцёрку. Кібернас выслухаў загад, хітравата плюснуў левым вокам і нечым шчоўкнуў усярэдзіне. У той жа момант ён пачаў змяншацца ў памерах, і яго нібы карова языком злізала. Наступіў, як кажуць дыпламаты, непазбежны рэзананс.

Вынаходнік стаяў з пабялелым, разгубленым тварам. З'явілася мляўкасць у нагах, замружыліся вейкі. Ён хаўкнуў губамі і павольна апусціўся на тое месца, дзе хвіліну назад варочаўся зусім рэальны кібернас.

## СЛЁЗЫ РАДАСЦІ

*Віктар Шымук*

Любае, мілае
Ўсё мне да слёз.

Выйду я за лазню,
Выйду за гумно.
Звонка форткай бразне
Тэкліна акно.

Я люблю світанне,
Любы мне паўзмрок.
Думкі-развважанні
Лезуць незнарок.

Развважаў я летам,
Думаў дзве зімы
Дый прыслаў з прыветам
Тэклі тры пісьмы.

Прамінула лета,
А за ім зіма.
Мне ж няма прывета,
Мне няма пісьма.

За гумном у полі
Ціхі шэпт бяроз.
Не стрымаць мне болей
Сваіх родных слёз.

Пад пятой гарачай
Сшэрхлая трава.
Я стаю і плачу:
— Гы-ы-ы,
ку-уга-а,
ку-ува-а...

# НА ЎЛОННІ СУСВЕТУ

## *Уладзімір Шыцік*

Уключыўшы пазасветавую хуткасць, Лісей з Вулькай на сваім аўтамотаэлектроналёце дасягнулі нарэшце планеты Сымонаўка, самай загадкавай з усіх планет, якія ім давялося наведаць за час бадзянняў у Сусвеце. Унутранае зандзіраванне планеты кібамі паказала, што на глыбіні 500 кіламетраў яна, як абалонкай, акружана сіняй энергетычнай паласой, пад якой жывуць таямнічыя амёбы. Час ад часу яны вылазілі на паверхню і, прагульваючыся, шпурляліся каменнямі вагой у дзве тоны. Вулька ажно закрывала вочы ад жаху.

Даследаванні Сымонаўкі цягнуліся бясконца. Нават кібы стамляліся да немажлівасці і ўсё гучней наракалі на свой незайздросны лёс. Толькі Лісей быў няўмольны: пакуль не зловім амёба, з месца не скранёмся.

Вулька працавала нястомна, ва ўсім давяраючы Лісею. Толькі ўсё часцей і часцей падступаў сум па Зямлі. Нарэшце яна не вытрымала і пачала прасіць хлопца ўключыць рэгенерацыйны апарат прасторы і часу. Той спачатку адгаворваўся занятасцю, але ўсё ж згадзіўся.

Пстрыкнуў уключальнік, і перад імі ў той жа момант вырасла купка бярозак, зводдаль лягло неглыбокае балотца. На ім зацвіла лотаць, заквакалі жабы. Над вухам зазвінелі камары. Прыляцеў аднекуль бусел і глынуў колькі жаб. Непадалёк віднелася аселіца роднай вёскі. Нават кібы прыпынілі работу і глядзелі як завароржаныя.

— Усё, на сёння хопіць, бо нормы не выканаем,— пачуўся раптам голас Лісея. Зноў шчоўкнуў

уключальнік, і заместа роднага пейзажу перад вачыма аказалася голая жоўта-бурая пустыня.

Вулька з натугай паклала на плячо лом і стомлена пайшла да кар'ера.

## ТВОРЧЫЯ ПАТЭНЦЫІ

*Уладзімір Юрэвіч*

Ці варта згадваць, што змабілізаванасць і ёмістасць думкі ў творы сцвярджаюцца яго агульнай высновай. Гэтае палажэнне як нельга лепш стасуецца да ўсіх памянёных ніжэй апавяданняў. Заглыбленне пільным вокам у іх вартасці дае падставу гаварыць аб сінтэзаванасці думак і пачуццяў нашага падрастаючага пакалення. Адметнасць мыслення і натуральнасць абыходжання характэрны для ўсіх дзейных асоб.

Нашага Тараску (гл. «Тараскавы турботы».— *У. Ю.*), да прыкладу, палохае тое патаемнае, ці больш правільна будзе сказаць — непазнанае, што хаваецца ў кучы звычайных скрынак. Але ў поўнай узгодненасці з гісторыяй хлопчык не думае пра дамавіка, а шукае цвік, каб прымацаваць прапелер самалёта. Найбольш поўна ён раскрываецца як бы ў трох планах — ва ўменні правільна карыстацца анучкай, у бескарыслівай дапамозе Соні і ў пераадоленні вільчыка. Унікненне Тараскі ў бачанае настолькі важкае, а шырыня разумення настолькі значная, што ён робіць найтоншыя рухі, імкнучыся не адарвацца ад рэальнасці ў вобразе бабінай пуні. І калі хлапчук у по-

хапку ўсё ж адарваўся ад памянёнай рэальнасці, яго скіраванасць у крапіву носіць зусім самастойны характар, бо дзесяткамі год аддзелена ад лынькоўскага Янкі-парашутыста.

Нам не патрэбны тлумач, каб зразумець усю гжэчнасць высакародства героя, калі ён праз фортку лезе па ключы дзядзькі Ахрэма. Пісьменнік, гаворачы яго ж словамі, апрыёрна трапіў у тое адзінае рэчышча, па якому струменіць унутраны рух апавядання «Гайка-гультайка». Тут надзіва тонка ўсё асветлена цэнтральным дзеяннем, а плынь моцна зрастаецца з канцэпцыяй.

Безумоўна, тады-сяды наш герой ідзе ўжо карыстаным шляхам, а таму яго яшчэ нельга назваць наслуханым, начытаным, нагледжаным (гл. «Чорную пляму».— *У. Ю.*). Такі яго паказ — не папулярызацыя, не адсартоўванне плюсаў і мінусаў, а жывая тканіна рэальнасці ва ўсім багацці праяў. Адсюль няцяжка пераканацца, што вядучая ідэя зборніка, нібы зыркімі праменнямі, сціскала, амаль лапідарна адцяняе патэнцыяльную энергію характараў. Што датычыць ценявых бакоў (зноў гл. «Чорную пляму».— *У. Ю.*), дык нішто не вымагае лямантаваць: стылявая цэльнасць тут не парушана.

Так свежае прачытанне пераконвае ў грунтоўнасці абагульненняў у пасылках. Адсюль, скажам пошапкам, напрошваецца афарыстычная выснова: аўтар пружыністай рукой уліў жывы струмень у эстэтычна-стылявое ўзнаўленне шматгалосся жыцця.

## ТАРОПКІ ВЕРШ

*Яўгенія Янішчыц*

> І верш цячэ па целе сонным.
> . . . . . . . . . . . . . .
> Дайце тую палавіну,
> Што не ў сілах падзяліць.

Ой, рута-мята, рута-мята,
Укроп і іншы травастой,
Была я ўчора незанята,
А сёння свет нібы не той.

Была я шмат чыёй журбою,
А час мінуў — і нейк няўцям,
Нібы загон перад сяўбою,
Набракла сокамі жыцця.

Спакой і звыкласць адляцелі.
І, кладучы таропкі след,
Струменіць верш па пругкім целе,
Уладна кліча ў чыйсьці свет.

Цяпер нішто мне смех і кпіны.
І верш нячутна слізгане,
Каб да хлапечай палавіны
Спяшаць паперадзе мяне.

## РАДАСЦЬ СУСТРЭЧ

*Мікола Янчанка*

Мне даволі салодкага болю,
Мне даволі блакітнай тугі.
. . . . . . . . . . . .
Бачу зноў качарэжнік знаёмы
І да болю знаёмы трапкач.

З хатыльком за шырокаю спінкай,
З сукаватым кіёчкам-дручком
Да знаёмай адвеку хацінкі
Тэп-тэп-тэп я раблю пешачком.

Звонь гудзе, як напятыя струны,
Б'ецца сэрца гучней і гучней;
Мне насустрач выходзяць Матруна,
Янка, Хведар, Пятро і Карней.

Набачок я схіляю галоўку,
Паглядаю ў блакіт з-пад рукі.
Мой прыход услаўляюць салоўкі,
Верабейкі, шпачкі, жаўручкі.

Вось і ганак, што помніць расстанне.
На дзвярах адкідаю кручок.
Каля печкі застылі ў чаканні
Таўкачок, гальнічок, трапкачок...

## БЫЛО АД ЧАГО

*Віктар Ярац*

Ты маўчыш, здзіўлёная
просьбаю вачэй,
вечарам зялёным,
дрэваў зеляней.

Далячынь не свеціцца,
промень сонца згас.
Мне б з табою стрэціцца
сёння ў самы раз.

Шаты ціш адвесіла,
пошум гул растоўк.
Вецер гоніць весела
аблакоў натоўп.

Хмара громам хлыснула —
загарэўся хлеў.
Ты вачамі бліснула —
я пазелянеў.

## У ГЛЫБІНІ ВІДАВОЧНАСЦЯЎ

*Міхась Ярош*

Літаратура ствараецца для чытачоў. Гэта адно. Думаецца, з такой пастаноўкай пытання без усялякіх акалічнасцяў пагодзіцца самы, так сказаць, падкаваны крытык. Другое — усяго не пералічыш! — глыбінная сутнасць твора, яго, калі можна так назваць, функцыянальны чыннік у ад-

носінах да мастацкіх заканамернасцяў. Але вырашэнне пастаўленых праблемнасцяў толькі тады набывае характар безумоўнасцяў, калі на яго моцна паўплывала бясспрэчнасць арыгінальнасцяў. У такіх выпадках нават наяўнасць, як бы гэта сказаць, пагрэшнасцяў натуральна адцягвае заваструнне крытычнасцяў і дапамагае твору шырокай плынню ўліцца ў паток чытальнасцяў. Не рызыкуючы знізіцца да гіпатэтычнасцяў, мы тым не менш з поўнай сумай пераканаўчасцяў будзем гаварыць аб сіле эстэтычных дзейснасцяў у лепшым сэнсе гэтых словаў. На высокай ноце адказнасцяў мы, натуральна, не толькі адзначым, але — заўважце! — і акрэслім здаровы, прамаімкнёны сэнс мэтанакіраванасцяў і жыццёвых верагоднасцяў там, дзе іншыя гэтага ні вызначаць, ні акрэсліваць не збіраюцца. Узятыя з мітуслівага побыту паўсядзённасцяў, творы гэтакіх угрунтаванасцяў даюць удзячную глебу для назіральнасцяў. У залежнасці ад колькасцяў яны дазваляюць напамінкаваць пра стосы манаграфічнасцяў і паказваць, дзе паўплывала традыцыя, а дзе лёг адбітак непрыкрытых наватарстваў. Арганічнае суіснаванне гэтакіх супярэчнасцяў пры строгай і нястомнай шукальнай увазе дазваляе на высокай ноце аб'ектываваць у тым накірунку, які ў рэшце рэшт вымагаецца ўсёй статыкай глыбінных сутнасцяў.

Такім чынам, натуральнае судакрананне нястомнай даследчасці з галоўнымі аспектамі творчых вырахункаў, мабыць, як ніколі высвятляе ўсю ірдзень прывабнасцяў абстрагаванага ўразумення ўрачыста-ўзнёслых відавочнасцяў.

# АСАЦЫЯЦЫЯ ДЫСАЦЫЯЦЫІ

*Алесь Яскевіч*

Распрацоўка пытанняў кананічнай дысацыяцыі не толькі асацыіравана, але і традыцыіравана нашымі навейшымі даследаваннямі ў галіне суадносін гуку да формы як асобнай літары, так і цэлага слова. Інтэлект гуку найбольш выразна прасочваецца пры рыхленні традыцыйнай моўнай глебы пад пасеў будучага вымаўлення. І калі моўна-літаратурная пульсацыя стылю шырока выкарыстоўвала літаратурна-моўную грань кніжнага матэрыялу, мы ні на грам не памылімся, сцвердзіўшы адваротнае. І сапраўды, у сілу розных прычын за тэкстам час ад часу адчуваецца падтэкст, а інструментоўка паўтонаў літары вымагае невымернай глыбіні сэнсу. Іменна ў кубатуры перакрыжаваных планаў ствараецца глыбіня падтэксту.

Настраёвае «музіцыраванне» акаляючага асяроддзя ў апошні час усё смялей пачынае пранізваць мысліцельны элемент. Апошні ў выглядзе вар'іраваных дэталей і частак, важных для зместу, робіць няўлоўныя пераходы ад рэальных планаў да настрояў, а ад настраёвых — у сваю чаргу да ірэальных. Значыць, моўныя пласты, напластоўваючыся без аналітычнага перапраставання стылю, ствараюць пакуль што словы-знакі. Гэта адбываецца таму, што полістылявая філасафічнасць гуку доўгі час сур'ёзна не ўлічвалася: ёй перашкаджала закасцянеласць некаторых нашых тэарэтычна-характарыстычных уяўленняў. Каб не аказацца ў галаслоўнай ізаляцыі, пацвердзім вышэйсказанае канкрэтным прыкладам.

Са словам «бяжыць» можна звязаць даволі

шматлікія інтэлектуальна дапусцімыя паняцці-вобразы. Мы абмяжуемся адным — кот. Спалучыўшы два словы ў адно непадзельнае паняцце, атрымаем хай сабе сціплую, але прыемную воку панараму: кот бяжыць. Ад сутыкнення сумежных вобразаў на грані змешвання паняццяў успыхваюць, прабягаючы па фразе, сполахі асацыяцый.

Пераставім жа ў нашым канкрэтным слове-вобразе састаўныя кампаненты і, атрымаўшы на гэтай аснове новае паняцце, спалучым яго з першаасновай. Чуеце? — т о к  б я ж ы ц ь! Ва ўсёй сваёй велічы выступіла на першы план праблема абнаўлення формы ў часе. Калі ў 20-я гады нашага стагоддзя разуменню «бяжыць» амаль неадлучна спадарожнічала асацыяцыя ката, то ў наш час яе месца ўладна заняла нябачная, але магутная дысацыяцыя — ток. Адсюль непазбежна выцякае, што новыя пункты судакранання гуку з часам дазваляюць падаць ідэю літары ў «лоб» і ў «патыліцу», а спецыфіку яе патэнцыяльных магчымасцей вывучыць яшчэ да пачатку наступнага стагоддзя.

Адначасова трэба прызнаць, што гукавы комплекс абстрактна-разумовых паняццяў і індывідуальны характар сялянскай псіхалогіі вельмі ўзмацнілі адасобленасць літары ад яе семасіялагічнага бытавання. У нелітаратурна звужанае мысленне селяніна доўгі час не мог пранікнуць ток абагульненых надасацыятыўных канцэпцый. Гукавы комплекс у лабараторыі слова заставаўся па-за правадзімасцю сакрэтаў паэтычнага свячэння лексікі. Між тым пры вымаўленні ці прачытанні слова адбываецца працэс набліжэння гукавога кампаненту слова да замацаванага за ім сэнсу. Без гэтага музыка настрою будзе гучаць фальшыва не толькі ў лірычных адступленнях, але і ў філасофскіх дыялогах.

Такім чынам, многія праблемы, якія закрануты ў нашым даследаванні, абумоўлены не толькі спецыфічнасцю моўна-літаратурных традыцый, але і маладосцю яго аўтара. І ад таго, як глыбока ён зразумее свае патэнцыяльныя магчымасці і вызначыць праблемы свайго далейшага развіцця, будзе залежаць плённасць яго няспыннага росту і ўдасканаленне майстэрства асацыятыўна-дысацыятыўных пошукаў.

# ЗМЕСТ

**Юрчанка Г.**

Ю 83 Негабляваная пегасня: Літ. пароды/ Маст. К. М. Куксо.— Мн.: Маст. літ., 1989.— 254 с., [1] л. партр.: іл.

ISBN 5-340-00275-6.

Юрченко Г. Нестроганая пегасня: Лит. пародии.

Тры дзесяцігоддзі піша пароды і Г. Юрчанка. Выйшла з друку пяць яго зборнікаў. Пад пяром парадыста гэты жанр заваяваў сталую прапіску ў беларускай літаратуры. Аўтар трапна прыкмячае недахопы ў творчасці таго ці іншага пісьменніка і з добразычлівым гумарам, то шчырым і лагодным, то калючым і з'едлівым, умела дасягае камічнага эфекту. У гэтую кнігу адабрана ўсё лепшае са створанага парадыстам.

Ю $\frac{4702120206-091}{М\ 302(03)-89}$ 127—89

ББК 84Бел7

Литературно-художественное издание

**Юрченко Георгий Федорович**

**НЕСТРОГАНАЯ ПЕГАСНЯ**

*Литературные пародии*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Літаратурна-мастацкае выданне

**Юрчанка Георгій Фёдаравіч**

**НЕГАБЛЯВАНАЯ ПЕГАСНЯ**

*Літаратурныя пародыі*

Загадчык рэдакцыі *Г. С. Шупенька*. Рэдактары *А. А. Сляпцова, У. А. Арлоў*. Мастацкі рэдактар *Л. Я. Прагін*. Тэхнічны рэдактар *Т. М. Сокал*. Малодшы рэдактар *С. І. Расянчук*. Карэктар *Н. У. Доваль*.

ІБ № 3110

Здадзена ў набор 09.09.88. Падп. да друку 16.02.89. Фармат 70×100 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 10,4+0,08 укл. Ум. фарб.-адб. 10,76. Ул.-выд. арк. 8,91. Тыраж 4000 экз. Зак. 1802. Цана 1 р.

«Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.